сваю кваліфікацыю. Не пісалі толькі пра тое, што будаваць пачалі ў глухой мясцовасці, што будаўнікі жылі ў палатках, а мароз пры ветры па трыццаць градусаў, што летам там усіх елі камары і наогул розная поскудзь. Гэта была так сабе, дробязь, пра якую ня варта і ўспамінаць. У інстытуце (трэба так думаць) выкладалі сапраўдныя спецыялісты, якіх у лагеры было даволі. У 30-я гады (у пачатку трыццатых) самае моднае злачынства, побач з «агітацыяю», было шкодніцтва. Барацьба з гэтаю бядою была ўзнята на такі узровень, што амаль усе спецыялісты сталіся шкоднікамі. Зразумела, іх адсылалі на «перакоўку» ў лагеры, а там тым, каму пашчасціла, сталі выкладчыкамі інстытута.

Галеньчык, які к часу свае бяды лічыўся на трэцім курсе Тэхналагічнага інстытута, да таго ж стаўся добрым арганізатарам, быў прызначаны начальнікам аднаго вучастку канала ў вельмі складаных умовах, а разам ён паступіў у інстытут, які і скончыў. Пад камандаю Мішы працавала, здаецца, 800 чалавек, сярод якіх, можа, былі выдатныя спецыялісты, у якіх ён шмат чаму навучыўся. Піць там можна было патроху (ды, можа, занятасць самога ня надта цягнула на п'янку). Як бы там ні было, але калі будова скончылася, Галеньчыка (як і амаль усіх, хто быў на будове) вызвалілі. Здаецца, што ў яго набралася і грошай колькі-небудзь. Пры такіх умовах Міша збіраўся трыумфальна ехаць у Ленінград, аж тут здарылася! Нейкая камісія, правяраючы работу, дацікавала, што ў сектары Галеньчыка недабрана 20 см скальнага грунту, і што, значыцца, усе тыя прэміі, якія выдаваліся яму як начальніку, выдаваліся дарма. Было так сапраўды ці было вынікам нейкіх сварак сярод начальства — невядома. Ва ўсякім разе ў тым двухтомніку, які выйшаў у 1934 г. і павінен быў праславіць тых, хто камандаваў усёю справаю, у раздзеле «Туфта» напісана, што Галеньчык абманваў дзяржаву. За гэта яму далі тры гады лагераў. Летам 1933 г., заміж таго каб ехаць у Ленінград, ён прыехаў у Марыінск, дзе ў той час (як і зараз, дарэчы) была сталіца Сібірскіх лагераў. Прыехаў ён туды з некаторымі са сваіх памочнікаў. Галеньчыку як вядомаму спецыялісту адразу даручылі ўзначаліць будаўніцтва ў Суслаўскім аддзяленні Сіблага. Пазней ён казаў, што пачатак быў цьмяны. Кіраўнікі Сіблага сказалі, што ў першую чаргу ён павінен будаваць ЗОСС. Ніколі нідзе не чуўшы пра такое, Галеньчык моўчкі ківаў галавою, а сам пацiху распытваў — што гэта такое — ЗОСС. У Суслава Галеньчык трапіў летам 1933 г. і некаторы час быў падканвойным, пасля яго расканваіравалі. Я трапіў у тое ж Суслава ў кастрычніку 1933 г. і стаў пры ім дзелаводам. Як казалі старэйшыя лагернікі, да Галеньчыка начальнікам будаўніцтва быў нейкі Сіманаў, чалавек нібы не зусім нармальны, які надта любіў здзеквацца над людзьмі. Неяк цьмяна здаецца, што сярод яго забавак была і такая, што ён з нейкім прыяцелем (ці ня вольнанаёмным) цешыліся тым, што стралялі з паляўнічай дубальтоўкі (значыцца, шротам) у людзей. Стралялі не зблізка, значыцца, забіць не спад-

зяваліся (цэлілі не ў голаў), але наогул: ці пападу. А паколькі абодва пры гэтым былі п'яныя, то пападалі рэдка, але што магло стацца з п'яным.

У параўнанні з Сіманавым Галеньчык быў джэнтльмен, культурны чалавек, які адносіўся да сваіх падначальных, часта людзей высокай кваліфікацыі, з пашанаю, рабочыя таксама лічылі яго не проста «чалавекам», але чалавекам харошым, разумным начальнікам.

У Чухіля, начальніка аддзялення, Галеньчык карыстаўся неабмежаваным аўтарытэтам: «Инженер Галенчик», — крычаў у тэлефон начальнік. «Инженер Галенчик», — казаў ён, сустрэўшыся дзе-небудзь на аб'екце.

Каб мы, не надта асвечаныя, маглі пабачыць, якія могуць быць начальнікі, нам прыслалі намесніка Галеньчыку. Раз Галеньчык, увайшоўшы ў пакой, дзе мы сядзелі вечарам, сказаў: «Ну, зараз мне прысылаюць памочніка, інжынера Валынскага. Ён вам дасць прыкурыць». Праз дзень сапраўды прыехаў гэты інжынер. Быў ён надта блізарукі, але справа не ў гэтым. Адзін з масквічоў атрымаў нядаўна пасылку. Валынскі зайшоў у пакой якраз у той час, калі масквіч карыстаўся пасылкаю. Інжынер выйшаў і праз хвіліну прыйшоў Лукіч, загадчык гаспадаркаю Галеньчыка, і звярнуўся да масквіча: «Алег Аляксандравіч. Паслаў мяне Валынскі да вас, каб вы далі яму селядца» і чагосьці яшчэ. Лукіч прасіў прабачэння, канфузіўся, але зрабіць нічога не мог, бо выконваў загад начальніка. Пасылкі прыходзілі мала каму, і рабавацъ даводзілася мала каго. Пасля даведаліся, што і выпіць інжынер любіць толькі за чужы кошт. Між іншым, Галеньчык да гэтага не даходзіў ніколі (ну, апрача сваіх сяброў). Скора намеснік паказаў сябе і як будаўнік. Выехаўшы ў адзін з філіялаў (здаецца, гэта была Перековка — назва надзвычайна папулярная ў той час, у памяць тае «перакоўкі», якая праводзілася на людзях на канале), сказаў, што там не ўмеюць будаваць. Стары сібірак, які быў там прарабам, рыхтуючы да пабудовы хлеў, загадаў капаць канавы, каб закласці падмурак. Гэта было неабходна, каб будынак пасля ня сеў. Валынскі сказаў, што гэта глупства і загадаў класці сцены з саману проста на дошку. Шкодніцтва ў той час было надта папулярна, і праграб, ведаючы, чым скончыцца такая навіна ў будаўніцтве, прыімчаўся да Галеньчыка, паведамляючы, што робіцца. Валынскага паклікалі назад і адаслалі з першым этапам невядома куды. Пасля намеснікам стаў другі, вядомы па Сібіры, інжынер, добры спецыяліст і не на ЗОССы. Юзік Бараноўскі[4] пытаў у мяне, чым мне можна памагчы? Ходзячы ўвесь час галодным, я хацеў сухароў. Неяк вышла так, што дамовіліся — Юзік пашле грошы гэтаму інжынеру, дакладней кажучы, жонцы інжынера, той загадае жонцы купіць мукі, спячы хлеба і насушыць сухароў, а інжынер перадасць мне, а таксама рэшту, бо не [на] 100 рублёў сушыць сухары. Юзік грошы выслаў, жонка інжынера атрымала іх,

[4] Юзік Бараноўскі, сябра М. М. Улашчыка па універсітэту (медык), рэпрэсаваны таксама ў пачатку 30-х гг.

інжынер забраў і прапіў да апошняй капейкі. Нават для прыліку мне не дастаўся ні адзін з сухароў, якіх і не было. Невядома, што горш, — ці басяк Валынскі, ці вядомы на ўсю Сібір спецыяліст. Стары чалавек, калі давялося гаварыць пра гэта з ім, сядзеў і плакаў. Даехалі!

Начальнікам будаўніцтва Сібірскіх лагераў быў Чыбрыкаў — малады, прыгожы, разумны. Наш тэхнік Уманскі, які ведаў шмат што, казаў, што Чыбрыкаў скончыў будаўнічы тэхнікум, але яму падначальваліся сапраўдныя спецыялісты, якіх у лагеры было даволі (у адным філіяле Суслаўскага аддзялення прарабам быў Іван Іванавіч Зайцаў, нядаўна галоўны інжынер Наркамлегпрома). Чыбрыкаў часам прыяжджаў да нас конна на сівым пародзістым кані. Ездзіць ён умеў. Той самы Уманскі казаў, што Чыбрыкаў марыць, каб выбрацца скарэй з лагера, але няма яму намесьніка, і ён ужо пагадзіўся з начальствам, што як Галеньчык скончыць тэрмін (у яго заставаўся прыблізна год), то начальнікам будзе прызначаны Галеньчык. Так яно і сталася, але ўжо тады, калі я быў вольным.

Часам Галеньчык выязджаў у Марыінск, часам на філіялы (яны зваліся камандзіроўкі), каб выпіць і пагуляць з дзяўчатамі. У сакавіку 1935 г. у Іванава прыехаў Калцуняк, архітэктар і скрыпач з Львова, які быў тэхнікам у стройчасці. Ён расказаў пра бяду Грыгаровічаў, якія атрымалі вялізную спадчыну ў Амерыцы, пра вольнага Галеньчыка ён ведаў мала што, бо той, стаўшы начальнікам, перабраўся ў Марыінск. Думаю, што ў яго стала розуму і культуры, каб не паказваць сябе вялікім чынам у праўленні, але ня піць ён ня мог. А тут, вядома, знайшлося даволі тых, хто браўся арганізоўваць усё гэта на «самым высокім узроўні», гэта значыцца стол павінен быць засланы не газетаю, але сурвэтаю, гарэлка не ў бутэльках, а ў карафінах, але такі ж усё гэта не на Садовай, а ў Марыінску. Больш верагодна, што не зракаючыся прымітывізму, начальнікі балявалі ня столькі ў жабрацкім рэстаране, але дома, тым больш што дома было значна больш прывольна адносна дзяўчат.

Ці быў Галеньчык генералам? Пэўна сцвердзіць не магу, але бачыў сам, як нядаўны з/к хадзіў у шынялі з ромбам ці двума, але ён раней быў супрацоўнікам ГПУ.

Нехта пазней казаў, што Галеньчык быў начальнікам нядоўга, з год. Зволілі яго (думаю, што ня сам пайшоў) за бесперапыннае п'янства і яшчэ больш пэўна за дзяўчат: начальству забаранялася кантактаваць з жанчынамі з/к. Патроху, ведама, было можна, але тут магло стацца, што не «троха». Усё гэта плёткі. Але вось і ня плёткі. Косьцік, будучы ў Маскве ў 1936 ці 1937 г., напаткаў Мішу, якога нейкі расхлістаны мужчына клікаў, і Міша, не пагаварыўшы, адразу пайшоў за ім. Відаць, пасля яшчэ Ціхаміраў казаў, што Галеньчык быў прызначаны начальнікам будаўніцтва недзе каля Архангельска, але не затрымаўся і там, а ўжо перад самаю вайною, калі я спаткаўся з ім сам, ён сказаў, што ў 1937 г. быў прызначаны начальнікам будаўніцтва ў Калужскай ГЭС.

Прадчуваючы ў Ніны бяду, летам 1937 г. пачаў шукаць ёй месца[5], каб выбрацца з Мінска. Трэба было знайсці нейкую кватэру, якую можна было памяняць на Мінск. Гэта было цяжка (уладкаваў толькі ў Саратаве Бібілу[6]). Быў па гэтай справе і ў Калузе, не знайшоўшы нічога, паехаў далей.

Нечакана спатканне адбылося перад самаю вайною ў Ленінградзе. Было ня больш як два тыдні да вайны, калі пазваніў Косьцік: «Прыехаў Міша, спыніўся ў [гатэлі] «Асторыя», кліча абавязкова ўсіх на банкет». Разумеючы, што там будзе, я не пайшоў, тым больш што ў школе ішлі экзамены, на якіх я павінен быць. Назаўтра яшчэ званок ні то ад Косьціка, ні то ад Мішы: сёння абавязкова прыходзь да Косьці. Міша вечарам ад'яжджае на работу, трэба сустрэцца і развітацца. Прыйшоў. Даведаўся, што адбывалася ўчора. Банкет быў у нумары, было ўсяго. Зважаючы, што быў выданы закон, які караў за спазненне больш чым на 20 хвілін турмой у шэсць месяцаў, Косьцік вырашыў спыніць гулянку недзе каля пяці рана. Ён залез у халодную ванну, троха адышоў і а шостай быў дома, каб паказацца, што жывы.

Вечарам у яго сабраліся самыя блізкія з Мінска. Галеньчык быў прызначаны ўзнаўляць Карэльскі перашэек. Гадзін каля 12 ночы ён паехаў на вакзал і з таго часу знік, што сталася — невядома.

Звычайны віцкавец быў рахманы, нават ціхі. Штукарствам вызначаўся Міхась Мамкаловіч, любіў паказаць сябе, нават надта любіў «чорны цыган» — Матусэвіч, але, бясспрэчна, самаю яскраваю асобаю стаўся Міша Галеньчык.

*Публікацыя Аляксандра Улашчыка*

**Алеся БАБАРЭКА**

## ДЗЯДЗЬКА ІГНАСЬ

Мае дзядуля Антон Бабарэка і бабуля Анастасія, у дзявоцтве таксама Бабарэка, родам абодва з вёсак Копыльскае воласці, — брукавыя сяляне, не меўшыя ворнае зямлі. Затое карысталіся прывілеем займацца без мыты рамяством і гандлем. Дзед Антон, заможны гаспадар, але хворы на сухоты, змяніў па загаду лекара, што лячыў яго, некалькі заняткаў, у тым ліку шаўца, млынара, покуль не спыніўся на гандлю. Гандаль вёў галантарэяй у сваёй вёсцы Слабадзе-Кучанцы. Мелі мае дзяды трох сыноў: Антона, Адама (майго бацьку) і Ігнася. Дочкі таксама нараджаліся, але паміралі ў дзяцінстве.

---

[5] Н. М. Улашчык, настаўніца ў Мінску, жонка рэпрэсаванага ў пачатку 30-х гг. І. К. Бялькевіча, у хуткасці была таксама рэпрэсавана і саслана на Калыму.

[6] Ю. І. Бібіла — супрацоўніца Дзяржаўнай бібліятэкі БССР, у 30-я гг. рэпрэсавана, вызвалена перад вайной.

Пражыла Анастасія доўгі, але цяжкі век. Адама нарадзіла на 45-м годзе свайго жыцця, малодшага сына Ігнася — на 49-м. Старэйшага яе сына Антона года нараджэння не ведаю. Аўдавеўшы неўзабаве пасля нараджэння Ігнася (муж памёр ад сухотаў), узяла ў дом прымака, аднасяльчаніна Длугашэўскага, удаўца з сынам. Сумесных дзяцей не мелі. Гаспадарам без уласнай зямлі трэба было карміць чацвярох хлапцоў. Длугашэўскі ад'ехаў на заробкі ў Амерыку.

Вярнуўшыся на радзіму з грашыма на зямельку і набытым у Амерыцы трактарам, да жонкі ўжо не прыйшоў. Жыў паасобку ў той жа вёсцы, дык атрымаў ад аднасяльчан мянушку «Амерыканец». Набытую маёмасць страціў у 17-м годзе. Але сына вучыў, падняў — потым той займаў відную пасаду ва ўладах горада Менска.

Засталася Анастасія зноў адна. Трэба было падымаць сыноў. Праўда, старэйшага заможны бацька паспеў вывучыць, і Антон займаў пасаду ўрадніка ў сваёй воласці. Адама, як здольнага да вучобы і сірату, на казённы кошт прынялі ў Слуцкую бурсу, а па сканчэнню яе — у менскую Духоўную праваслаўную семінарыю. Малодшы сын Ігнась атрымаў толькі пачатковую адукацыю.

Пасля Кастрычніцкага перавароту 1917 года ў сям'і паўсталі немалыя цяжкасці. Антон, да таго часу жанаты, пакінуўшы на сваю маці жонку Проню, родам з Крэменчуга, і сынка Ігара, хаваўся ад новае ўлады на Украіне. Адам, выйшаўшы з семінарыі, некаторы час працаваў настаўнікам у роднай вёсцы, быў мабілізаваны ў армію і, паланёны палякамі, перажыўшы страшэнныя пакуты ад пілсудчыкаў, страціў здароўе, захварэў на сухоты. У доме маткі ўжо непамагаты, паехаў Адам у Менск лячыцца, працаваць і далей вучыцца ва універсітэце.

Ну а як жылі ў слабада-кучанскае хаце? Бабуля Анастасія Цімафееўна, вельмі працавітая, трымала жывёлу: кароўку і авечак, птушку і парсючкоў. Пры сядзібе быў сад і гарод. Прала, ткала, жывёлу даглядала. Калі сын Адам ажаніўся, дык у ягоную менскую кватэру завезла Анастасія два вялікіх скруткі кужэльнага палатна, ручнікі саматканыя, баваўняную посцілку на ложак. Тымі рэчамі, калі Адам папаў ў ссылку ў Прыуралле, карысталася Адамава сям'я. І да гэтае пары як памяць аб бабулі Анастасіі захоўваюцца ў мяне тканыя ёю ручнік, кавалачкі палатна і посцілкі.

Далейшы лёс Адама Бабарэкі вядомы. Таленавітым даследчыкам М. М. Ількевічам у Смаленску выдадзены пра Адама Бабарэку дзве кніжкі: у 1999 годзе — «Адам Бабарека, арест, лагерь, смерть» і ў 2001 годзе — «Угасание. Письма Адама Бабареки из ссылки, тюрем, лагеря». Ёсць і мой успамін пра бацьку ў чацвёртым выпуску штогодніка «Скарыніч». Пра Антона, Проню і Ігара мала што вядома. Сведчаць капыльскія родзічы, што Антона забілі вяскоўцы, а жонка і сын ягоныя з'ехалі з вёскі.

Бабуля Анастасія перажыла ободвух сваіх старэйшых сыноў. Дажывала з малодшым Ігнасем, памагала нявестцы Алене выхоўваць дзяцей Лёню, Толю і Акцябрыну. Як доўжылася жыццё ў тыя трудныя на вёсцы гады,

калі сяляне замест хлеба елі лебяду, жыццё Анастасіі Цімафееўны адлюстравана ў ліставанні Ігнася да нашае сям'і.

Захавалася 14 лістоў і паштовак ад Ігнася да Адама і братавай Ганны. Змест іх сведчыць аб сардэчных адносінах паміж братамі і іх сем'ямі, а таксама аб высокай чалавечнасці Ігнася, адданасці сям'і брата, кінутага ў жорны савецкае дэспатыі. З гэтых лістоў вынікае стан жыцця братоў і іх сямей так яскрава, што ў нейкім разе непатрэбны і каментар. Таму, каб здзейсніць задуманае, уваскрасіць вобраз гэтага любага чалавека, таксама, як і ягоны брат Адам, перамолатага тымі жорнамі, дадаю па большасці цалкам памянутыя лісты Ігнася. Змяшчаю іх як яны ёсць — без ніякае карэктуры, бо хачу цераз тое звярнуць увагу на здольнасць і вялікае жаданне гэтага чалавека самабытнае культуры з іранічнымі рысамі ў складзе розуму — авалодаць самастойна беларускай граматай. Ад ліста да ліста мова чысцей і чысцей, граматнасць паляпшаецца, і нават каліграфія змяняецца, набліжаючыся да Адамавай, вельмі роўненькай і дробненькай, так што становіцца цяжка адрозніць іхнія почыркі.

* * *

Ігнат Антонавіч, які акрамя пачатковае школы другой адукацыі не меў, працаваў на калгаснай зямлі. Быў вельмі кемлівы, то і час ад часу прызначалі яго старшынёй калгаса ў Слабадзе-Кучанцы ці па суседству. Жыццё было галоднае. У паштоўцы ад 26.07.35 г. піша Адаму, што не памятае, калі еў чысты хлеб без кошанкі, гэта значыць травы, і дадаваў, што і таго не хапае. Немагчыма было з галоднымі калгаснікамі выканаць усе тыя жорсткія ўстаноўкі, што зыходзілі ад вышэйшае ўлады. Дык з-за таго час ад часу і здараліся ў калгасе няўпраўкі па абавязацельствах перад дзяржавай, а Ігнась пападаў пад суд. Брат Адам дапамагаў у такіх выпадках грашыма. Тады ў Ігнася з'яўляўся новы клопат, што прадаць з хатняе маёмасці, каб грошы брату вярнуць. Вось ад такога калгаснага жыцця марыў Ігнась перабрацца да ссыльнага ў Вятку, працаваць чорнарабочым. Ён бачыў, што выйсця яму няма з таго правалу, у які зваліўся паміж галоднымі вяскоўцамі і «патрабавальнымі вышэйшымі». Шчыры па натуры чалавек, ён сам гатоў быў прыйсці на помач іншаму.

Пачынаючы з першае Адамавай бяды, хваробы на сухоты, Ігнась вызваўся дапамагаць матэрыяльна лячэнню брата. Вось цалкам ягоны ліст да Адама ад 16.06.25 г. са Слабады-Кучанкі ў Менск:

«Дараги братка, я 16-га числа получив твое письмо вельми печальна стала. Як став читать тваю вестку и дачитався да твайго здаровья. Мама стала безпакоица и плакать гаварить можа кап жив дома можа адчув-бы лепей на сваем здаровьи. Мы нимагли даждаца твайго приезду каждый день ждали будем ждать и тепер гетые тры тыдни здадуца нам годам здаеца што мы табе николи нипрычакаем. Грошы получили вельми шчира дя-

куем. Але треба было нислать мыб як нибудь абышлися, а табе тепер треба. — Нишкадуй грошай для свайго здаровья, мы таксама ничога ни пашкадуем для цябе кали што треба. Наша здаровье. Мама вядома што далей так силы убываюць бо уже апанавала старасць, а я адчуваю с сваим здаровьем як и раней. Покуль што живем у згоди. Я напишу и вестку Ганни бо яна гетак сама з нивесёлыми думками асталася адна[1]. Больш братка нима чаго [неразб.]. Я жду штоб скарей ты приехав дадому тагды пагаворим пра усе жытье. Желаем табе найскарейшаго Выздаравления скорей угледеца снами.

Горячо целующия тебе твои родныя *Игнась* и *Мама*».

Наступны ліст-паштоўка Ігнася, што захаваўся, датаваны 20.05.31 г. і накіраваны з Копыля ў Менск на Гарбарную, 18 — 1 да «Ганны Иванавной Бабарэка». У гэты час пасля арышту бацькі ў 30-м годзе засталася мама з намі малымі адна. Ігнась не пакінуў сям'ю брата без дапамогі і ў харчаванні, і ў іншых патрэбах. Пры першай магчымасці, што выпала Ганне для спаткання з Адамам пасля ягонага выхаду з вяцкае турмы і высылкі ў пасёлак Слабадскі, паўстала пытанне, як быць з дзецьмі. Пяцігадовую Лору згадзілася патрымаць ў сябе добрая прыяцелька маміна Ніна Каляда, жанчына маламоцная, бо ад роду мела сухую пакалечаную руку. Дык тут і адгукнуўся Ігнась, знайшоў з кім пераправіць мяне малую да яго ў Слабаду-Кучанку. Паштоўкай паведамляе братавай аб маім прыбыцці.

«Аня, Алдана і Лялька приехали 21.05 вечарам яшча была видна. Лялячка вясёлая, спявае і хвалітца, што яна [неразб.] першыя ночи сніла. [неразб.] у яе сапсавався желудак. Я лічу што гэта із-за таго што довга ехала на падводе».

Далей дзякуе Ганне, што напісала яму пра Адама, і прапануе з Нінай пераправіць да яго і Лору.

Покуль мама ездзіла да бацькі ў Слабадскі, на Гарбарную, 18 па-зладзейску ўлезлі праз вакно і пасяліліся ў нашае кватэры якіясь людзі. Вось што прапанаваў братавай, дазнаўшыся аб тым, Ігнась.

«*3/IX 31.* Аня дрэнныя абставіны слажыліс вакол вашае сям'і. Я проста не прыдумаю як вы будете жыць гэту зіму у Менску. Мама ніхоча ехаць у Менск і хто будзе глядзець детей калі вы будете хадімоть на працу ды гэтага мала. Як вы будете жыть у тым адным пакоі. Я толькі ні ведаю які пакой атнялі ат вас[2]. Можа большы то там німа ніякай магчымасті жыть.

---

[1] Адам Бабарэка ад'ехаў у Ялту на лячэнне.

[2] У кватэры было два пакоі: вялікі, памерам каля 30 м$^2$, і маленькі — 12 м$^2$.

Можа бы лепей была кінуть гэтую службу, прыехать дадому на адну зіму бо так вам будя не жытё а целая каторга. Дома хлеб есть атак сама што вы будете свободны. А там на другое лета паедете к Адаму. Лорочка і Ляля весёлыя гуляють у яслях. Калі вы адкажате мне на гэту маю думку я к чыслу 15-му прывезу цягнiком черэз Негорэлоя сюдою будя таней. Адаму я напісаў ліст. Усё адпісаў што ён прасіў.

Ну бывайте *Игнась*».

Але ўжо было ў бацькоў маіх усё вырашана пра наш ад'езд у Слабадскі. Калі ўся нашая сям'я сабралася спачатку ў Слабадскім, а потым пераехаў бацька ў Вятку-Кіраў, дазналіся мы з чарговага Ігнасевага ліста, як пагоршылася ягонае слабада-кучанскае жыццё.

«*6 III 35.* Добры дзень Адам і Аня.

Выбачайця, што гэтак довга нічага ні адказваў на ваш ліст. Усё неяк німа часу нека усе безладзіца у хаці то дзеці хворыя то мама была хвора недель две але ужо крыху по паправляліся усе. Ніколі ні ізжывеш гэтых недахопаў ізноў пачало адно аднаго не дагоняць, а патрэбы усё растуць ну, а калі ешче прыбавіць і культуру то ні трэба і уміраць.

Працую я цепер у сваім [калгасе] фізічна[3] важу молоко на завод у Свінку аднолькава як той шерка на чаўні. С дня у день думаю кінуць гэту работу бо прызнаца ні к майму твару гэта работа. Мене прыглашалі у Севідзічы брыгадірам полеводства была ужо згодівся, а потым заўчора напісаў у с/с[авет] адказаўся бо вельмі цяжка тепер із нізу набіраць темпы хаця жыцё чалавека есць барацьба. Усё мыслі есць пераехаць із Сл[абады]-Кучанкі ешче рашыў папрацаваць гэты год у сваім к/г[асе]. У парцію мене не востановілі із апеляцыей я спазнівся калі падаваў у Маскву.

Ну пару слоў пра калгас. Як вядома — што наш к/г як і усе с часу у час усе моцнее, ваздвігаюца новыя і новыя будынкі велізарного аб'ёма ешча асталося 3,5 калечаных адно-асобнікаў але і гэтыя к часу пасевной будуць у калгасе. У 34 г. атрымалі мы на працадень 1,800 кг зернавых і бульбы 11 кг., із гэтага ліку прадалі державі зернавых па 100 гр. і бульбы па 500 гр. із кожного працадня. Ну як нібудзь перекідзешся с трудом с хлеба на воду, а із вады на хлеб. Хату я прадаў у прошлым гаду калі прыходілась выяджаць хоця яна была ужо зусім і гнілая. Цяпер жылі у адной хаці усе[4]. Маем із жывёлы 1 карову 1 авечку 3 парасят 4 трусы 2 гусі 6 кур вось і усё.

---

[3] Пасля арышту Адама неўзабаве выключылі Ігнася з партыі і знялі з пасады старшыні калгаса.

[4] Уся сям'я месцілася ў хаце родных Ігнасевае жонкі Алены Кандратаўны.

Цяпер пішы Адам усё ці пераехала к табе Аня ці атрымаў ты кватэру[5] як здоровы Лора і Лялячка наогул усе з пакараньненых. Лёнік наш ходзіць у школу усе сабіраетца напісаць Лоры ліст але бяда пісаць добра не умея. Вучытца ён здатны але ленуетца гэтак рыхтык як і я калі быў у яго гадох, ні колі за кнігу ні берэтца, калі ні запытаеш гаворыць я знаю усе што мне трэба. Прывітаньне Алены усім вам. Бывайце ваш *Ігнась*».

Наступная паштоўка Ігнасева — яшчэ гарчэйшая сведка аб абставінах ягонага жыцця.

«*26/ VII 35*[6]. Добры дзень Адам!
Выбачай браток што так довга ні пісаў то часу ні было то так якая перашкода. Сеньня маю вольную часіну парашыў напісаць табе лісток. Жыву Адам я постарому, як я пісаў табе і раней на той жа працы працую. Пакуль што здаровыя дзеці Толя і Акця ходзяць у яслі. А Лёня дома гуляя. Мама грошы атрымала. Здаров'е мамы ні важная часцяком заняпадая, нага таксама баліць[7]. Пішы Адам як ты жывеш, ці прыехала к табе Аня з дзяцмі усё хочаца ведаць. Ці думаеш ты куды пераежжаць ці будеш працаваць у г. Кіраве[8]. Раней я пісаў табе што хачу выехаць із Слободкі. Падаў заяву у к/г, штоб атпусцілі, мяне ні пусцілі, быў парашыў ехаць самауласна, а потым прыастанавіў да восені гэтага што неяк трохі страшна, ці пражыву я сваёю сям'ёю выполняючы чорныя работы, а усё такі дзеля таго штоб пражыць трэба шматавата заробіць і так праходзіць час за часам день за днем. Ці піша Антон табе што Проня і Ігар дзе яны цепер жывуць. Яны на мяне мабыць крыўдуюць што я не ўзяў к сабе Ігара. Але павер браток што ні як я ні мог, бо ведаеш што я сам ні меў ні якой магчымасці пражыць і жыў цэлый год вельмі у дрэнным становішчы. Хлеба із жыта ніколі ні еў, а із кошанкі да і таго ніхапала, усе такі семяра, а запрацаваць трэба аднаму. Жыць трохі палепшала а усе ж жыцьцё некае ненадзейнае. Пішы Адам

---

[5] Паштоўка паслана па адрасу кватэры Антона Адамовіча — «г. Киров, ул. Сцепана Халтурына, д. № 85, кв. 1, получить Адаму Антоновичу Бабореку», дзе спачатку бацька, а потым і ўся наша сям'я часова жылі, покуль не атрымалі свае кватэры па вул. Свабоды, 109, кв. 1. Гаворка йдзе аб пераездзе мамы з намі, дзецьмі, да бацькі са Слабадскога ў Кіраў.

[6] Паштоўка паслана па адрасу кватэры А. Адамовіча — «г. Киров (б. Вятка), ул. С. Халтурнна, д. № 85, кв. 1, получить Адаму Антоновичу Бабареку». Адваротнага адрасу няма, на паштовым штэмпелі: «Копыль. Мин 28 7 35».

[7] У бабулі наназе ніяк не гаілася трафічная язва.

[8] У 1935 г. павінен быў скончыцца тэрмін бацькавай ссылкі, і сям'я планавала перабрацца на жыццё ў Анапу, вялося ліставанне з уладамі Анапы аб педагагічнай працы ў яе школах. Але тэрмін ссылкі працягнулі яшчэ на два гады, так што ўсе мы засталіся ў Кіраве.

пра усё як жывецца. На огул у мяне імкнення адны вядома што лічу такога ні найду цепер, але ж усе так хоць дзеці мае можа чаго даб'юцца калі будзя магчымасць пазвысець, калі я буду магчы запрацаваць кавалак хлеба. Хаця мне тут даюць працу так сама кіраўнічую ужо некалькі разоў мне гаварылі, але гэта зусім не падходзіць тут на мейсці. Адам калі не будзе позна то магчыма у восень убачымся. Я думаю як далей перабрацца да цябе альбо на юг.

Бывайце здаровы, жадаю Вам усяго найлепшага у Вашым жыцці.

*Ігнась*».

Наступны Ігнасеў ліст атрымалі ужо пасля арышта бацькі ў ліпені 1937 г. Мама мая амаль што год нічога не пісала бацькавым родным аб тым, і Ігнась не ведае аб нашым страшэнным горы. У яго самога вялікія клопаты, ён з'ехаў са Слабодкі у Менск, з ліста бачна, што яго прымусіла.

«*16.8.37*

Добры вечар Адам і Аня, Лелячка і Шурочка!

Выбраў пору напісаць вам некулькі слоў пра сваё жыцьё і пра здарэні якія здарыліся са мною. Вы як ведаяця я працаваў старшынёю к/г у Свідічах. Колькі ні наравіў чого ні прыходілося пероносіць бо як вам вядома што гэта як прыходілося выконваць між двух агней з верху ад начальства ад нізу ад калгаснікаў. Але 20/6 мес. мяне знялі з працы і аддалі пад суд. Уже прайшло шмат часу і допытаў ніякіх покуль што ні было можа і ні будя. Я быў вінават [калгасу] 600 руб. грошай. Адаў усе. 1936 год быў надзвычайно цяжкі у сельской гаспадарцы на працадзень мало прышлося у Свідічах 800 гр. зерновых і 40 коп. грошыма, а у Слабодцы 500 гр. і 40 коп. а у астатніх по 300 і 200 грам і грошыма так сама по 10—15 коп. на працадзень. Але за гэтую справу паплаціліс галавамі беларускія бандіты Галадет, Бенак і шмат другіх, ім гадам гэта і трэба. Зараз па нашаму раёну адходіт 1000 га лесу для пользованія к[алга]сам ліквідуютца совхозы як Старыца і часць ралля Кобрынець адходіть к Слабодцы і вядомая табе дягцявыя лесу і усе леса мясцовага значеня. У гэтым годе ешче так сама будя трудно з хлебам на весцы асабліва у нас бо яравыя посевы зусім амаль погіблі з погоды. Есць такія вескі асабліва ад Песочного до Негорелого што нават не повзыходілі з весны. Адам і Аня дякуй за грошы. Вам грошы я адышлю трохі зараблю, што нібудь збуду з жывелы і такім чынам расчытаемся. Мама так сама получыла грошы 50 руб.

Зараз я працую у Менску грузчыкам уже тры неделі. Зразу цяжка было а цепер прывык уже толькі скучно без свае сем'і без детак. Яны б мяне сустрачалі калі б я адкуль ні йшоў дадому. Яшчэ трохі па працую тут а тагды паеду дадому. Ніхай трохі прыціхня той шум які убівся у маю галаву гэтым старшынством. Пішы Адам як жыветца.

Аставацесь здаровы.

Любяшчый Вас *Игнась*

Адрэс мой — г. Менск, ул. Мястнікова, 78».

Пасля арышту бацькі мама перастала пісаць ў Слабодку, каб сваімі лістамі не наклікаць яшчэ горшае бяды на сям'ю Ігнася. Сваім родным яна перастала пісаць многа раней, пасля ад'езду з Менска з намі, дзецьмі, да бацькі ў Слабадскі. Апошняе ліставанне з яе братам Ануфрыем, што жыў на Слонімшчыне, тычылася просьбы прыслаць ёй пакінутыя ў брата рэчы, — мама некалі жыла ў брата, дапамагаючы выхоўваць ягоную дачку — першынца Аню. Але ніхто з маміных братоў не дамагаўся, як бацькаў брат Ігнась, аб захаванні сваяцкіх сувязяў. Бачна з наступнага ліста разгубленасць Ігнася і трывога, чаму яму перасталі пісаць.

«*29/138*[9]. Добры день Адам і Ганна!

Прайшло ужо довгі час як ад вас німа ніякае весткі. Я пасылаў вам пісьмо из Менску і другоя из дома а ад вас німа ніякого атказу. Мы покуль што [закрэсл.] і здоровы. Жытьё не завідное. Я цепер працую дома — палучаем на працадзень за 37 г. 1,5 кіл. зернавых, 6 кіл. бульбы, 2,2 кіл. сена і соломы і грашыма 20 коп. Так што да весны будем з хлебом а там перойдем на шчавель і лебяду. Ешче горш за усе што німа чым прокорміть корову прыходітца продаць і жыць без коровы. Моё дело ешчо ні разбіралось ешче гдес лежыць у прокурора. — Напішы Адам як Вы жывеце і почему ты ні хочеш мне пісаць нічога. Прошчайте *Ігнась*».

Пасля высылкі летам 1938 г. бацькі ў Комі АССР, у лагер, мама напісала Ігнасю ліст, атрымаўшы які, ён ужо звяртаецца ў адказе толькі да мамы і дзяцей.

«*5/IX 38 г.* Добры вечар Аня і дзеткі!

Сегодня мы атрымалі ваш ліст некулькі разов его прочыталі і самі сабе не уявляем чаму Адам на другім мейсцы і на якой рабоці ці далека ад вас вы Аня нічога не напісалі. Аня, мы неспакойны былі цэлы год. Я вам пісаў із Менску у восень мінулого году і зімой із дому а ат вас ніякого атказу не было. Усяк думалі і гадалі і потым я порашыў што ні вельмі трэба і пісаць.

Аня наша жыцьё не завідная днём мы усе веселыя і бадзерыя што маем таму і рады. Настае ноч тут зусім бок адмовны бо можа усе стаца за ноч. Мама ужо зусім постарэла і часта бывая хворая нават і сегодня амаль зусім хворая.

---

[9] Паштоўка на адрас «Киров Кировской области, ул. Свободы, кв. 2, Адаму Антоновичу Бобареку», адваротны адрас «БССР, Копыльскі раён, Сл.-Кучанскі с/с, Боборeку Игнасю».

Я працую у сваім калгасе на палявых работах. 28-га сакавіка гэтага года адбывся суд па маей справе за свідіцкі калгас. Асуділі мяне на 1 год по месту работу з вылікам 25% . Абвінялі меня як бытцам я нарушаў сельскохозяйствены устаў будучы кіравніком ка[лга]са. Знят я з работы быў прошлого года 20 червеня. После я працаваў 4 месяца у Менску. Стала не выгодна што далека ат сем'і што тут адной Алені так сама трудно бо сям'я не трудоспособная старыя ды малыя. Я парашыў зноў прыехаць дадому.

За гэтыя годы навін у нас много адбылос ужо хутароў нема, а адбудаваны тры новыя дзерэвні. Лора і Ляля успамінаюць веску. Чытаючы гэтыя словы нек становітца прыкрым што так далека веска і німа ніякай мажлівасці пабыць вам дзеткі летам у ёй і разам з Ленікам паходіць у грыбы ды ягоды. У гэтым годе Леня з Толям часта хаділі у грыбы амаль кожны день. Леня добра умеў збіраць грыбы а Толя яму памагаў. Прышовшы дадому кожны лічыў свае грыбы. Калі Леню якія не удачы то ён Толю абовязкова ашукая у лічэнні.

Леня вучытца у 5-м классе а Толя у 3-м. У прошлым годе Леня вучывся добра а Толя крыху слабей. Акця ходіць у детскі сад. Яна у нас большая крыху за Ляльку калі была Лялька у нас. Ляльчын лісток чытаў Леня і Толя. Яны усхвалеваны што Лялька хараша піша і так сама што Лялька паступіла у школу па музыке. Усе мы вечарам сідім кругом стала і атпісываем вам ліст.

Пішыця Аня часцей хоць некулькі слоў пра здаров'е.

Аставайцесь здаровы. Горячо любяшчыя вас

*Ігнась Алена Леня Толя і Акцюша*».

Ранейшым часам, атрымаўшы з турмы ад бацькі ліст ад 12 чэрвеня 1938 г. з просьбай: «Маме моей, Анастасии Тимофеевне, напиши обязательно про меня и вышли сколько можешь денег», — мама гэта выканала, але не ўдакладніла тое, што ў нас здарылася. Вось кароценькая паштоўка Ігнася да мамы, з якой гэта вынікае.

«*6/XII 38.* Добры дзень Аня!

Выбачайтя што так довга не отпісывалі вам ліста — грошы мы атрымалі за якія шчыра дзякуем. Аня чаму ні напішатя дзе працуя Адам. На якой работі ці далека ад вас ці не мне хочатца вельмі ведать. Вы пісалі што ён сам напіша прайшло уже шмат часу і німа ніякое чутку. Мы покуль што здаровые усе. Пішытя як жывяте.

Прывет Лоры і Лялі.

*Игнась*».

Паштоўка паслана па адрасу : «г. Киров (областной), ул. Свободы, дом № 109. Кв. 2. Анне Ивановной Бобореко», адваротны адрас: «БССР, Копыльскій раіон, Сл.-Кученскій с/с к/г «Зара свабоды», Бобореко И. А.».

У лютым 1939 г. Ігнась паведаміў аб канчыне 3 лютага. Анастасіі Цімафееўны, адзначыўшы, што ішоў ёй 86-ты год, і пагараваўшы аб яе нялёгкім жыцці. Бабуля Анастасія пайшла на той свет, не ведаючы, што яе любы сын Адаме ўжо памёр (10.10.38). Да гэтага часу мы яшчэ таксама таго не ведалі і працягвалі пісаць лісты і слаць пасылкі ў лагер бацьку, а мама мая — пісаць у лагерную і маскоўскую Управы выканання пакаранняў просьбы аб дазволу на спатканне з бацькам. Толькі 13 мая 1939 г. маму выклікалі ў загс г. Кірава і паведамілі пра канчыну бацькі. Неўзабаве мы паведамілі аб тым Ігнасю. Вось недатаваны ліст Ігнася, у якім ён у чарговы раз запрашае нас перабірацца на радзіму.

«Добры день Аня Лора і Лялячка.

Выбачайця Аня што так довга ні пісаў вам пісьма. Зараз такая жызнь што день за день снуешся як без прытульны. Усе як бы чаго чакаеш і нівядома чаго. Жытье Аня не улучшаетца а наадварот што год міне то усе горшае. У 40 годзе я быў у Мінску разоў 4. Кожны раз прайду па той вуліцы де вы жылі і з вялікай жалью успомніца усё мінулае і настігшае нас гора што Адам загінуў у найвялігшых пакутах. Атрымаўшы ваш ліст і даведаўшыся аб смерті Адама не толькі нашу сямью звязала гора а нават яго аднасельчане праз некулькі ден вялі успаміны пра савместную жызнь на вёсцы. Аня так хочатца с вамі і вашымі дявчаткамі убачытца і пагаварыть пра усе што накопілося за гэтыя гады. Мы часта дома успаміналі і гаварылі хіба вам нельга переехать сюда бліжей к сваей родіне. Может нам можно было хоть у год раз убачытца бо на такую даль то мы і повміраем больш бачытца не будем і деті нашы не будут знать друг друга. Мы покуль што жывы і здоровы. Я працую у сваім ка[лга]се загадчыкам свінаводческой фермы, акончыў курсы у Слуцку на гэту прафесію. Деті нашы уже вучатца усе трое. Актя першы год, а Толя у 5-м класе, Леня у 7-м, але і на іх долю папала што кончыш 7 класаў і бярысь у калгас на работу бо мы будем не у состаяніі далей учыть. Мы ужо гаварылі каб Леня гэтага лета што прыдя ехал у рэмесленое учылішча, а Алена говорыть не пушчу нехай дома буде да арміі і канчае серэднюю школу. Пішытя як вы жыветя, мы вам посылаем маленькую посылочку немного жыроў. Аставайцесь здоровы *Игнась*.

Привет от Алены і от детей.

Аня нашы деті просят штоб Лора і Ляля прыслалі свої фотографіі».

Добра памятаю, як атрымалі мы пасылку ад дзядзькі Ігнася — хатняе сала, кілбасу, сыр, сухую садавіну, бутэльку мёду. На паведамленні было пазначана:

«*7/II 41 г.* Добры день Аня, пасылаю вам маленькую посылачку. Выбачайтя што так довга вам нічога не пісаў. Пішыте аб вашым жытьи. Аставайтесь здоровы.

*Игнась*».

Далей сувязь паміж нашымі сем'ямі была парушана вайной. Толькі ў 1944 г. атрымалі мы воінскую паштовачку, апошняе слова да нас ад дзядзькі Ігнася, бо ў гэтым жа годзе ён і загінуў на фронце.

«*19/VIII 44 г.* Добры день Аня, Лора и Лялька.

Сообшчаю вам што я нахожусь у арміі на польскай тэріторыі. Мобілізованы 6 іюля. Ленік быў 9 месяцаў у парцізанах, а тепер ні ведаю де ён. Пакінуў сем'ю дома, пакуль што усю здаровую. Жылі тры годы адноасобно — а тепер колхоз. Вернутца наверно ні прыдетца домой і бачыть своих родных, а ахота пабачыть вас і поговорыть. Аня у меня есть просьба к тебе. Калі Ленік будя жыў то устрой яго вучытца — у яго есть способность і помогі ему хоть одному бо Толя і Актя так ужо і астануца бо некому будя им помоч.

Аставайтесь здоровы.

Любяшчый вас *Игнась*».

Потым пісала да нас усіх жонка Ігнася і іх ужо дарослыя дзеці. Працаваўшы ў Мінску па сканчанню Маскоўскага універсітэта, пабачыла ўсіх іх па чарзе. Ліставанне гэтае ўсё захавалася. Але гэта ўжо іншае жыццё. А покуль што развітаемся на лісце-трохкутнічку ад Алены. Яна піша ўсім нам (хоць мы з Лорай ад'ехалі на вучобу ў Маскву і Ленінград) па адрасу: «РСФСР, Киров областной, ул. Свободы, д.109, кв. 2. Бобореко Анни И.» і дае адваротны адрас: «Обл. Бабруйская, р-н Копыльский, с/с Сл.-Кучинский, д. Сл.-Кучинка. Боборека Елена Кондрат.».

«*11/I-46 г.* Добры дзень дорагая Анячка і вашы дзеці, чаму вы нічога не пішаця як вы жывяце. Я хачу вам апісаць сваю жызню. Мы пака жывы і здоровы, дзеці мае ходзяць у школу, а я хаджу ў калхоз на работу, летам дзеці памагалі мне і зарабілі 400 працадзён, але яшчэ нічога з калхоза не палучалі. Хазяйства у нас такоя, толька карова і купілі парася. Пішэця як вы жывяце, дзе вашы дзеці вучацца і якое ваша здароў'е. Мой Лёня хоча весці з Лорай і Ляляй перапіску, но не ведае адрасоў. Ну вот і ўсе. Больш пісаць німа чаго, ажыдаем ад вас атвета, тагды прышлём Лёневу фотакартку. Лёняў адрас г. Мінск, полевая почта 28212 «с/о».

Пока дасвидання жалаем вам усяго харошага ў вашай жизні.

*Е. Боборека*».

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# РОДАМ З ШУЛЯКОЎ

З вялікай цікавасцю прачытаў артыкулы Алесі Бабарэка пра сваіх маці «Маміны песні» (Скарыніч. Мн., 1999). Справа ў тым, што маці Алесі Бабарэкі — Ганна Іванаўна Дзянішчык была родам з вёскі Шулякі Слонімскага павета (цяпер Зэльвенскі раён Гродзенскай вобласці). Дзесьці кіламетры са тры ад Шулякоў знаходзіцца і мая родная вёска Хадзявічы. А паміж Шулякамі і Хадзявічамі, на самай мяжы двух раёнаў — Слонімскага і Зэльвенскага, — узвышаецца Сынкавіцкая царква XV стагоддзя. Сюды шмат стагоддзяў з усіх навакольных вёсак ішлі і ідуць вернікі, каб памаліцца Богу. Некалі спяшаліся ў Сынкавіцкую царкву і Ганна Дзянішчык, яе маці Магдалена і бацька Янка.

Вёска Шулякі знаходзіцца каля самай шашы Слонім — Зэльва, нейкіх пятнаццаць кіламетраў ад Слоніма і дваццаць ад Зэльвы. У 30—70-х гадах гэта была вялікая, працавітая і вясёлая вёска. Якой яна стала цяпер? У ліпені вырашыў завітаць у Шулякі — родную вёску Ганны Дзянішчык. У шулякоўскую дзяўчыну з першага позірку закахаўся беларускі паэт, празаік і крытык Адам Бабарэка. Яна стала ягонаю жонкаю і была побач усё яго кароткае жыццё.

Прыехаўшы ў Шулякі, я зразумеў і ўбачыў, што цяпер вёска зусім не тая. У Шуляках засталася толькі адна вуліца з хатамі і хлеўчукамі. Жывуць тут, як сказалі мне ў Сынкавіцкім сельсавеце, дзесяць чалавек. Праўда, хат тут значна больш, але многія з іх пустыя. Калі я ішоў па вёсцы, то адчувалася, быццам тут нядаўна прайшоў буран. Нейкі страх мяне ахапіў, калі я бачыў хаты без вокнаў, без даху, без дзвярэй. Але ў дамах, дзе жывуць яшчэ людзі, быў парадак і чысціня. Першым, з кім мне давялося пагутарыць, быў Мікалай Піліпавіч Ярмак.

— Вёска наша памірае. Дажываем і мы, пенсіянеры, свой век. Вельмі брудная ў нас вуліца. Няма магазіна. Два разы на тыдзень прыязджае з Зэльвы аўталаўка, якая прывозіць хлеб, цукар і макароны. А за вёскай наш калгас «Рассвет» зрабіў звалку, звозяць сюды смецце з усёй гаспадаркі, — сказаў Мікалай Ярмак.

Па суседству з Мікалаем Ермаком жыве Вольга Пятроўна Толкіна. Яна ведае пра Шулякі і шулякоўцаў усё. Дарэчы, Вользе Пятроўне — семдзесят восем гадоў, але яна трымае гаспадарку: карову, свіней, бычка, курэй. Якраз у той дзень прыехалі з калгаса купляць да яе бычка. «Усё ж будзе нейкая капейка», — разважае Вольга Пятроўна. А яшчэ гэтая працавітая жанчына сказала мне пра тое, што адразу пасля вайны сорак пяць мужчын з Шулякоў пакінулі вёску, бо ім тут не дазволілі будавацца. Людзі паехалі хто на цаліну, хто на Украіну, а хто на Далёкі Усход.

— Некалі наша вёска была вялікай, — сказала жанчына, — а цяпер яна неперспектыўная. Усяго дзесяць хат. На ўсю вёску шэсць кароў, малако здаем у калгас… Так і жывем, — уздыхнула Вольга Пятроўна.

— А ці жылі ў Шуляках вяскоўцы з прозвішчам Дзянішчык? — запытаўся ў жанчыны.

— Былі, былі такія. Але ўсе памерлі. А дзе іх дзеці і ўнукі жывуць, я не ведаю, — сказала Вольга Толкіна.

Я яшчэ доўга размаўляў з гэтай цікавай жанчынай. Адчувалася, што ў душы яна ўсё ж шчаслівая, а што Шулякі паміраюць — ці яе ў гэтым віна? Такі час сёння надышоў. Каму, скажыце, патрэбна вёсачка з дзесяццю жыхарамі? Нікому…

Пасля прачытання ўспамінаў Алесі Бабарэка пра яе маці я напісаў аўтарцы ў Маскву пісьмо. Расказаў трохі пра Слонімшчыну, пра Шулякі, Сынкавічы — пра тыя мясціны, дзе прайшло дзяцінства яе маці. Хутка ад Алесі Адамаўны атрымаў адказ:

«Паважаны Сяргей! Вельмі ўдзячна Вам за добрыя словы аб маім артыкуле пра маму. Дзякуй вялікі за ліст, такі аб усім дакладны. Паглядзела мапу Карскага за 1917 год (у Менску на кангрэсе летам гэтым атрымала яе). Знайшла Зэльву, шасэ да яе ад Слоніма. Так што ў думках там пабывала.

У мамінай вёсцы Шулякі я ніколі не была, не быў там і мой бацька, бо ён пазнаёміўся з мамай, калі гэты край быў ужо пад Польшчай.

Маміна маці Магдалена памерла ў Менску неўзабаве пасля сустрэчы са сваім сынам Астапам, які працаваў у ваенным шпіталі ў Менску. Не ведаю, хавалі яе там ці сын павёз у Шулякі, сям'я ўцякала ад немцаў, можа, вяртацца было небяспечна. Бацька мамін памёр у Шуляках ужо пасля вайны. Мама мая пахавана ў Маскве на Вастракоўскіх могілках, таксама тут і мая сястра Лора. Акрамя мяне нашчадкаў Ганны і Адама няма.

Пра Бялькевіча — гэта той самы Бялькевіч Янка — аўтар слоўніка. Аб ягоным лёсе раней нічога мы не ведалі, бо мама з Вяткі яму не пісала, баялася пашкодзіць родным такімі небяспечнымі на той час сувязямі. Нядаўна сама даведалася аб ягоным лёсе з адной беларускай газеты.

Другія маміны сваякі нас самыя адшукалі ў пачатку 60-х гадоў. З бацькавымі сувязь была ўвесь час. У Менску жывуць мае стрыечныя (па бацьку) сястра Акцябрына і брат Леанід са сваімі дзецьмі. З маміных сваякоў у Берасце жыве яе пляменнік Мікалай, на Слонімшчыне ў вёсцы Сялявічы пляменніца Таня. Яе я ніколі не бачыла, а другія сваякі прыязджалі да нас у Маскву.

Па бацьку ў мамы маёй сваякоў не было, акрамя дзеда, яна ніколі не згадвала, а па яе маці — успамінала пра цётку Агату (ці не маці гэта была Янкі Бялькевіча?).

Ад бацькавай працы ў Менску вельмі добрая даведка ў бібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі», т. 1, Мн., 1992. Тэкст І. П. Чыгры-

на (ці не Ваш сваяк?), бібліяграфія Г. І. Рэут. Бацька выдаў толькі маленькую кніжачку, 5 апавяданняў. Вершы і крытычныя артыкулы змяшчаў у часопісах і газетах, ніколі не выдаваў паасобна. Калі спіс Рэут больш-менш поўны, то бацька напісаў каля 80-ці вершаў, апавяданняў, артыкулаў. Добрая кніжка аб бацькавай дзейнасці — У. М. Конан «Адам Бабарэка», Мн., 1976. Там многа здымкаў, што мы з мамай Конану давалі (у копіях).

Цяпер пра сябе. Скончыла Маскоўскі універсітэт, хімфак. Працавала два гады інжынерам на трактарным заводзе. Потым вярнулася ў Маскву, працую ў Інстытуце металургіі РАН ст. навуковым супрацоўнікам, кандыдат тэхнічных навук. Займаюся вось якімі справамі — тэкстурамі металаў і керамікі. Аўтар кнігі «Тэорыя ўтварэння тэкстур у металах і сплавах», больш чым за 100 навуковых артыкулаў і двух вялікіх аглядаў па гэтай тэме.

Як мы з сястрой (таксама хімік) выбіралі спецыяльнасць. Жыццё паказала, што з двух Гарэцкіх-братоў гуманітарый загінуў, а тэхнічны спецыяліст вытрымаў, мы аб усім гэтым добра ведалі ад жонкі М. Гарэцкага, з якой разам жылі ў Вятцы). Дзеці яшчэ не былі ўпэўнены, што ўслед за бацькам не пагоніць і іх лёс. Гэта, канешне, па-за свядомасцю.

Аўтабіяграфія — дык звычайнае жыццё дзяцей рэпрэсаваных бацькоў. Але маміна добразычлівасць выклікала спачуванне да нашага лёсу і дапамагла ўсім выжыць. Бацька — ахвяра часу. А маці — падвіжніца. Прагледжваю часам бацькавы паперы, што маці захавала (нават ёсць запісы з менскай турмы 1930—1931 гадоў). З двума малымі дзецьмі мама ехала да бацькі ў Вятку і ўсё везла, усё захавала. Трэба бачыць гэтыя запіскі, каб даведацца, што за жыццё ў яе было, учарашняй вясковай дзяўчыны: праца (бо трэба забяспечыць сям'ю), дома дзеці малыя, перадачы ў турму, адтуль гразная бялізна, і ніякай дапамогі. Ад запісак (урывачкі) адрывалі ў турме ўвесь тэкст, акрамя просьбы аб перадачах. І ніякіх зведак аб бацькавым здароўі (у яго перад арыштам былі сухоты), дык як жа яна хвалявалася аб ім...

Пішу Ваш адрас — Слонім і гэта выклікае ў мяне пачуццё: колькі разоў чула гэтае слова ад мамы, яна з захапленнем згадвала аб сваім жыцці ў Слоніме. Жыла на кватэры ў Карлінскай (калі вучылася ў школе). Брат мамін Ануфрый Янкаў Дзянішчык працаваў таксама ў Слоніме ці то настаўнікам, ці то школьным інспектарам. Як казала мая маці, яго там добра ведалі і паважалі, нават на яе гэта ўплывала.

Выбачайце за памылкі ў правапісе. У школе беларускай вучыцца не давялося, а як чытаю беларускую літаратуру, дык усюды розны правапіс, вось і блытаю.

Жадаю ўсяго найлепшага і поспехаў у Вашай працы. З павагаю — *Алеся Бабарэка. 9 кастрычніка 1993 года*».

Даўно не чытаў такіх шчырых і цудоўных пісем, напісаных на прыгожай беларускай мове. І хоць Алеся Адамаўна ніколі не вучылася ў беларускай школе, затое выдатна піша па-беларуску. Адзінай школай для яе была школа яе бацькоў — Адама і Ганны Бабарэкаў. Найвыдатнейшая школа.

У пісьме Алеся Адамаўна згадвае пра Янку Бялькевіча — стрыечнага брата сваёй мамы. Не магу не згадаць трохі і пра яго. Тым больш што Янка Бялькевіч, таксама мой зямляк, родам са Слонімшчыны.

Нарадзіўся ён у 1883 годзе ў вёсцы Варонічы. Быў сябрам партыі беларускіх эсэраў. У 1925 годзе скончыў Белдзяржуніверсітэт. Працаваў настаўнікам, дырэктарам Мсціслаўскага педагагічнага тэхнікума, у Інстытуце беларускай культуры і ў Інстытуце мовазнаўства БелАН.

Янка Бялькевіч займаўся пытаннямі арфаграфіі і культуры беларускай мовы. У лютым 1930 года ён быў рэпрэсаваны і высланы ў горад Йашкар-Ала Марыйскай АССР на цэлых пяць гадоў. Але пасля адбывання тэрміну Янку Бялькевічу не дазволілі вяртацца ў Беларусь. Ён пераязджае ў Азова-Чарнаморскі край, дзе выкладае рускую мову. З 1955 года наш зямляк працуе інжынерам-метадыстам Жданаўскага філіяла Данецкага вячэрняга будаўнічага тэхнікума.

Далёка ад Беларусі Янка Бялькевіч працуе над краёвым слоўнікам усходняй Магілёўшчыны. Але ўбачыць свой слоўнік надрукаваным яму не давялося: у кастрычніку 1960 года яго не стала.

Праз дзесяць гадоў жонка Янкі Бялькевіча Ніна Улашчык і сын Усяслаў Бялькевіч падрыхтавалі «Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны» і выдалі яго асобнаю кнігаю[1]. Гэты слоўнік і з'яўляецца данінай светлай памяці Янкі Бялькевіча — стрыечнага брата Ганны Дзянішчык.

**Галіна ГАРЭЦКАЯ**

## ЦЁТКА АЛЁНА

***Гэтую кранальную згадку пра Алёну Сакалову-Лекант найлепш прадставіў бы чытачам Лявон Антонавіч Луцкевіч — наш, мой светлай памяці спадарожнік па віленска-беларускіх мясцінах. З год таму назад, адаслаўшы ў «Голас Радзімы» ўспамін Галіны Максімаўны (надрукаваныя 7 красавіка 2000 г., але без фотаздымка) зазірнуў я ў Лявонавы «Вандроўкі па Вільні», вяртаючыся***

[1] У выданні слоўніка І. К. Бялькевіча выключную руплівасць выказаў М. М. Улашчык, падтрыманы ў сваёй ініцыятыве адпаведным зваротам у ЦК КПБ, прэзідыум АН БССР вядомых рускіх філолагаў акадэміка В. І. Баркоўскага, доктара навук, пазней акадэміка М. І. Талстога (*заўв. уклад.*).

*памяццю, услед за аўтарам, да прыціхлага панадворка колішняга Базыльянскага кляштара, наўзбоч Вострабрамскай вуліцы. Насупраць брамы Базыльянскіх муроў, троху злева, захаваўся невялічкі жылы дом з двума паўавальнымі вокнамі на другім паверсе. У гэтым будыначку, даведваемся з кнігі, жыла ў 20-я гады «старэйшая настаўніца беларускай мовы Віленскай беларускай гімназіі Алёна Сакалова-Лекант». Яна працавала тут чвэрць веку, заўсёды імкнучыся перадаць сваім вучням «любоў да роднага слова, патрыятычныя пачуцці». Некалькі кранальных рысачак да партрэта настаўніцы-асветніцы (адной з паплечніц Івана Луцкевіча пры заснаванні першай беларускай вучэльні ў Вільні) дадае ў сваіх успамінах яе вучаніца Галіна Антонаўна Войцік (Рунь. 2001. 23 трав.): «Тая чысцюткая беларуская мова, якую пані Алёна ўкладала ў галоўкі сваіх дзяўчатак і хлопчыкаў, была не з універсітэту, а з тае моўнае стыхіі, што панавала ў Вільні на пераломе XIX і XX стст.». На 25-годдзе гімназіі, даведваемся далей, прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады адзначыў руплівую настаўніцу Крыжам Заслугі, а савецкая ўлада — шасцю гадамі зняволення ў лагерах. Апошні прыпын цёткі Алёны — праваслаўны могільнік Ліпаўцы, недалёка ад вядомых Росаў. Дарэчы, у тым самым месцы знайшлі вечны спакой і іншыя віленчукі-руплііўцы беларушчыны: Міхал Кахановіч, Мікола Анцукевіч, Аляксандр Міхалевіч, Сяргей Паўловіч. Сярод іх — і Язэп Шнаркевіч — першы беларускі настаўнік Мікалая Улашчыка, якому знакаміты гісторык прысвяціў не адзін удзячны радок.*

*Калі б зноў пашчасціла завітаць да нашае старадаўняе сталіцы — места хараства і шчымлівага смутку, канечне, трэба заглянуць на Ліпаўцы. Пакланіцца, памаўчаць над нечым родным і вечным.*

*А. К.*

Алёна Кірылаўна Сакалова-Лекант (дзявочае прозвішча Залеўская) нарадзілася ў 1891 годзе. Працавала разам з маёй маці, Чарняўскай Леанілай Усцінаўнай, у пачатковых класах Першай беларускай гімназіі ў Вільні. Ёсць фотаздымак у архіве Янкі Шутовіча (захоўваецца ў бібліятэцы НАН Беларусі). На здымку (злева направа) мая маці, бацька і Алёна Кірылаўна, два сыны Алёны Кірылаўны.

Першы муж Алёны Кірылаўны — Сакалоў. Быў на партыйнай рабоце ў Маскве. Яны разышліся.

Другі муж — Лекант. Служыў у Віленскай кансісторыі. Казала мама мая, што гэта ён выстараўся бацькам маім кватэру на Вастрабрамскай, д. 7, кв. 5. Калі ён памёр, не ведаю. У час Вялікай Айчыннай вайны Алёна Кірылаўна жыла ў Вільні са старэйшым сынам і няняй Алёнай. Малодшы

сын памёр у 15 гадоў ад сухотаў. Старэйшы ў ваенны час пайшоў шукаць заробку, хоць якой-небудзь працы, і не вярнуўся. Усё жыццё няшчасная маці чакала яго, думала, што, можа, аб'явіцца.

Яшчэ перад тым, як рассталася з ім, адбылася нечаканая падзея. Аднойчы недалёка ад іх дома пачалася страляніна. Бегла пасярод дарогі жанчына з двума дзецьмі. Яна, забітая, упала, дзеці туліліся да яе. Сын Алёны Кірылаўны паўзком перацягнуў усіх у свой дом. На магіле жанчыны-яўрэйкі прыйшлося ад злога вока паставіць крыж. Дзяцей, хлопчыка гадоў шасці і дзяўчынку чатырох гадоў, Алёна Кірылаўна ўзяла да сябе, гадавала іх, хаваючы ад нядобрых людзей. Адзін раз шуснуў у кватэру нямецкі афіцэр. Абамлелі. Аднак ён пацікавіўся толькі рэдкімі абразамі ў дарагіх аправах, якія засталіся Алёне Кірылаўне ад Леканта. Здаецца, нічога не ўзяў.

У час акупацыі Алёна Кірылаўна ездзіла на нейкі з'езд настаўнікаў беларускіх школ, за што пасля вызвалення Вільні апынулася ў лагеры ў Горкаўскай вобласці. Невядома, ці здолела б выжыць там, а гэтаму яшчэ папярэднічала поўная нясцерпнай пакуты доўгая дарога да лагера, якая зрабіла яе інвалідам (захварэлі ныркі). Але Алёне Кірылаўне пашанцавала: начальнік лагера ўзяў яе настаўніцай да сваіх дзяцей. Была выдатнай рукадзельніцай, пра што ўспамінае адна з яе віленскіх вучаніц у «ЛіМе» (ці то ў «Нашым слове»), у рубрыцы, якую вёў Янка Брыль (пра беларускія гімназіі).

Тым часам пры вызваленні Вільні знайшоўся бацька дзяцей, якіх пасля Алёны Кірылаўны гадавала няня Алёна. Перад самай вайною яго сям'я пераехала ў Вільню. Ён (рускі) меў высокі чын у спецорганах і здолеў (праз Маскву) вызваліць Алёну Кірылаўну з лагера. Яна нейкі час жыла ў яго сям'і (каля Чарнігава). Другая яго жонка добра да яе адносілася, моцна любілі дзеці. І ўсё ж цягнула на радзіму, і Алёна Кірылаўна вярнулася ў Вільню. Дзеці прыязджалі да яе ў госці (і яна да іх), перапісваліся.

У 1959 годзе, увосень, Алёна Кірылаўна дзесяць дзён пабыла ў нас у Ленінградзе, на Пушкінскай, 11. Яна ж хросная маці майго брата Лёні, які загінуў 18 лютага 1944 года на Ленінградскім фронце. Схадзіла я з Алёнай Кірылаўнай у Эрмітаж, у Рускі музей, у Марыінскім тэатры паглядзелі балет Рэйнгольда Гліера «Медны коннік», слухалі оперу ў Міхайлаўскім тэатры...

З ліста да нас Янкі Шутовіча: «Вільна, 22 сакавіка 1960 года. ...з болем у сэрцы падаю Вам да ведама, што цётка Алена нас асіраціла. Памерла на 69 годзе жыцця. ...На чацвёрты дзень быцця ў шпіталі на вечны адышла супачынак. Урачыстае пахаванне адбылося на Ефрасінневых могілках дня 13 сакавіка 1960 года. Сабралася шмат народу на малебен і паніхіду ў цэркві на могільніку. Уся жалобная цэрэмонія трывала больш трох гадзін. Пахавана ў стройным месцы, непадалёк ад цэрквы, побач з магілай сына (малодшага).

...У асобе цёткі Алены мы страцілі Матку, Апякунку, шчырага, вялікай душы і сэрца Чалавека, жанчыну вялікай духоўнай і інтэлектуальнай культуры, высокаэтычную і крыштальна чэсную, добрую, усімі любімую. *Яна*

*ж была прыкладнай беларускай, патрыёткай, дэмократкай, заслужанай настаўніцай».*

У Я. Шутовіча — Алена, а не Алёна. Я захавала напісанне некаторых яго слоў. Напрыклад, дэмократка.

Не ведаю, што канкрэтна меў на ўвазе Я. Шутовіч, кажучы падкрэсленыя мною словы. Пэўна ж, карыстаючыся архіўнымі дакументамі, можна даведацца пра Алёну Кірылаўну і нешта большае.

## З МАТЧЫНЫХ ПРЫПАМІНАЎ

У агромністым чужым горадзе было ёй найчасцей адзінока, няўтульна. Дачка, зяць на рабоце, унукі — у школе; усе пры справе, занятыя. А ў мацеры-бабулі свая думка, свой клопат, не раз — прага выказацца, выжаліцца — быць пачутай. Адарваная ад роднага кута, ад спаконвечнае стыхіі сялянскае, тут, у Маскве, пачувалася далёка не камфортна. Іншая мова, іншы свет і лад.

«Я ж ня ўсё панімаю, што яны балбочуць, кожная наперабой, — не ўстрымаецца яна часам, каб не выжаліць блізкаму чалавеку сваю нудоту, псіхічную адасобленасць у кампаніі такіх самых бабуль на лаўцы перад маскоўскім домам. — Ды й яны, — працягвае, — мяне не панімаюць. «Ты, Маша, как-то странно, не по-нашему говоришь». Ну і што зробіш? Яны сабе гавораць, а ты сядзі слухай ды маўчы што пень».

Так што дыялога ў жыцці-дажыванні беларускай сялянкі Марыі Ігнатаўны Астроўскай (1897—1984) з маскоўскім асяроддзем не атрымалася. Адно — у сваіх чатырох сценах, пры сямейным гурце, найчасцей вечарамі, у святы ўсмак гаварылася, успаміналася, жартавалася. Іншым разам зяць, пішучы чалавек, гатоў быў і справакаваць маці (слова «цешча» ў хаце не прыжылося), знарок разгаманіць яе. Было ж жанчыне што ўспомніць, расказаць, а мне, зажуранаму па слову жывому, роднаму — з асалодай, а калі з горыччу паслухаць. Гэтак і паўставалі нататкі з нашых гаворак. І пакуль тыя лісткі лягуць у архіўную скрынку БДАМЛіМ, няхай іх прачытае мой сучаснік. Тым болей наша апавядальніца, непісьменная жанчына, як цяпер разумею, несла ў сабе першасны, чысты і непадроблены свет культуры, арганічную, адметную духоўнасць, штось істотнае, непаўторнае — чым твой народ і вызначаецца сярод іншых.

Яе радзіма — вёска Бахаравічы Пухавіцкага раёна. Адтуль жа паходзяць балетмайстар Канстанцін Алексютовіч, філосаф Мікола Алексютовіч, урэшце і дачка нашае гераіні — Софія Іванаўна Астроўская, палкоўнік адміністрацыйнай службы МУС Расіі. Словам, знакамітая вёска.

*Кастусь Атрашэўскі*

## Сваты прыехалі

— Во, маці, кнігу мне з Беларусі прыслалі. Тут пра вяселле ўсё: пра сватоў, пра запоіны, пра маладых, пра каравай — усё апісана. Ды цікава гэтак. Прачытае чалавек — усё роўна як сам на вяселлі пабыў.

— У кніжцы гэтак напісана?

— Вось паслухайце, што прыгаворваюць пад каравай, адорваючы маладых:

Дарую дзве анучы,
Каб усё жыццё былі ў кучы.

Вочы ў жанчыны засвяціліся, твар павесялеў, усёй істотаю памкнулася яна ўперад, нібы даводзячы, што і чутно ёй, і цікава, і працягу хочацца паслухаць.

Дарую пару галубоў,
Каб была моцная любоў.

— Глядзі ты, як складна, так жа яно й ёсць! — не стрымлівае ўзрушэння слухачка.

Дарую ніткі,
Каб малады не заглядваў на чужыя лыткі!

— Вой, ях хораша! Праўдзіва напісана! — усё больш захапляецца жанчына.

— А ў вас, — пытаюся, — прыгаворвалі на вяселлях? Мо што ўспомніце?

— Чаму ж не казалі — казалі. — На маё «прыгаворвалі» субяседніца зачарпнула з уласнага лексічнага засеку «казалі», ёй, мабыць, бліжэйшага ды і на слых ласкавейшага. — Але ж пазабывалася ўсё! На тваім жа вяселлі тожа ўсяк пад каравай гаварылі. Я, праўда, ня слухала — млосна мне зрабілася было, дык мусела ў кладоўцы прылегчы. Андрэй [Атрашэўскі], дзядзька твой, падышоў і паказвае да мяне: «Во, сваценка, нясу нашым дзецям качан капусты, каб ім у хаце было густа». Вясёлы быў чалавек. І зрабіць па-людску, і сказаць па-людску патрапляў. Хай яму на тым свеце лёгка будзе.

— А сваё вяселле помніце?

— Чаму ж не помню? Помню!

— І як жа тады было?

— Ну, слухай жа. У нашым сяле кірмаш быў. Папрыходзілі гэта мы з царквы — у нядзельку ж было. Маладзёжы насабіралася, старыкоў. Музыка. Гулялі ў таку. Хлопцаў, дзевак — адусюль: з Дубінак, Еськавіч, Паздзерак. Харашо гулялі. Не біліся і п'яных — ня вельмі: дарма, што кірмаш.

— Летам было?

— У іюлі, здаецца. Ці — у іюні? Пасля Сёмухі, другая нядзеля — калі гэта?

— У ліпені хутчэй.

— Сама касіць пачалі. Слухай жа далей. Патанцавалі мы, дзеўкі, а пад вечар дадому падаліся. Сядзім на лавачцы каля хаты; шчэ каровы не папрыходзілі. Ведама, цёпла і кампанія вясёлая — маладыя. Глядзь — цераз масточак вазок коціць! Якраз пачці проці нас масток гэты. Як ляцелі яны і к нам прама на двор — вароты ж адчынены. «Ну, кажуць, некаму сваты: ці к табе, Волька, ці к Анюце!»

— Анюта — другая сястра?

— Перада мной — старэйшая самая. Я другая была, за мной яшчэ чацвёра. Во — дзевак! Яшчэ брат быў адзін, Ванька, тожа меншы, — ты ж яго ведаеш. Я таго хлопца, што прыехаў, ня знала і ня бачыла ніколі. А ён мяне неяк раней бачыў — на вечарынцы. Сыходзяць гэтак з каня — двое іх было — і пад вакно. Сват стукае ў шыбу: «Ігнат, Ігнат! Адчыні нам! Гэта Іван з Каляіны». Ён Іванам зваўся. І маладога Іванам звалі. Зараз цяпло запалілі — лямпу павесілі. У нас — занавескі на вокнах, падлога пясочкам вымыта, чысценька. А як жа — дзевак чарада і каб у хату не ўвайсці? Ну, сваты — у хату, значыць, а мы сабе сядзім на лавачцы, рагочам. Чуем, тата вакно адчыніў: «Дзеўкі — дамоў!» Бацька заве — трэба ісці. Дзе ж ты не паслухаеш? Мы з падружкамі — у хату, а хлопцы пад вокнамі асталіся. Ідзем, хіхікаем. Маці выйшла: «Ня смейцеся, сваты вунь чакаюць!» Сват дзверы нам адчыніў: «Заходзьце, дзяўчаткі, заходзьце!» Мы ў чым былі, так і ўвайшлі: адзеты чыста, але ня надта каб па-святочнаму. Уваходзім: «Здрастуйце!» «Здрастуйце!» — прывіталіся. Сядзяць яны на лаўках каля стала, адзін з аднаго боку, другі — з другога, а тата — на печы.

— Летам і на печы?

— Спіна яму часта балела. З вайны, з той, першай, як прыйшоў — не мог ачуняць доўга; усё круціла яму то спіну, то ногі — рамацізм, мусіць. Ну, але слухай жа! «Знаеш што, сват, — гэта Іван да яго, дзядзька маладога, — прыехалі мы за дачкой тваёй! Можна?» «Чаму ж ня можна! Дочкамі, дзякаваць Богу, не пакрыўджаны!» — І тата з печы злазіць. «Толькі — каторую?» Малады падсеў каля мяне, а сват і паказвае: «Гэтую галубку, каля якой голуб кружыць!» «Ну, гэтай я не аддам! Яна маладзейшая. Трэба па парадку!» А сват — сваё: «Каторую бяруць, тую трэба й аддаваць». Спорылі-спорылі, ніхто не сступае. «Мы, — кажуць, — у аўторак яшчэ прыедзем». Так і паехалі назад у свае Бахаравічы — кіламетраў з сем ад нашае Закружкі. Назаўтра — толькі й чутно: «Былі сваты?» «Былі сваты!» — «У каторай?» Ведама, сяло! Дзе ж ты ўтоіш? «Ня ведаем, — кажам, — у каторай». Што ж тут будзеш казаць? У нас жа свае ўхажоры былі. У Анюты — хлопец, у мяне — хлопец.

— Любіліся?

— Не сказаць каб аж надта, але з вечарынкі праводзіў. Ды й сама шчэ маладая была, што тое жарабё — пужлівая. Колькі ж мне было? — шаснаццаць, сямнаццаты ішоў.

— А старэйшай?

— Анюце ўжо ці не дваццаты пайшоў быў.

Што ж, былі сваты — значыць, былі. Прыбягае суседка: «Глядзіце ж, дзеўкі, у аўторак на вуліцу не выходзьце! Во, яны запіску пакінулі: «Прыедзем паслязаўтра Маньку сватаць». «Няхай едуць, — тата смяецца, — людзям жа дарогу не загародзіш».

Надыходзіць аўторак. Я падлогу вымыла, ложкі пазасцілала, падушкі папастаўляла. Камінок [ад лямпы] выцерла. Тата пайшоў гарэлкі з літар узяў, сваёй мы ня гналі. Брат бацькаў заходзіць: «Ну што ж, Ігнат, аддавай, раз бяруць. Яны, гэтыя Астроўскія, — людзі не благія, ты ж ведаеш».

Я — ні блізка: «Не хачу! Ня бачыла! Не люблю!»

Прыязджаюць вечарам гэтыя маладыя. Ізноў удвох. Ён, сват, мала й старэйшы быў за маладога. Гады якія са тры, як ажаніўшыся. Але баявы такі, гаваркі.

— На адным кані прыехалі?

— На адным. У яго конь харошы быў — упітаны, ёмкі, малінавай масці з лысінкай, прама што жарабец!

Як у хату — так гарэлку на стол. А тут з вуліцы людзей сыпанула — чалавек мо з дваццаць: паглядзець маладога. «Ну што ж, — кажуць, — за такі тавар нада аддаваць! Хлопец што трэба!» — «А ты, Манька, як?» — «Я не ведаю», — кажу. Нешта як дзікая. І на яго пазірнуць баялася. Той ужо малады — да мяне: «Я ў сераду прыду, удваіх пагаворым». Што ж я скажу — «не прыходзь»?

Селі гэта за стол. Пагаварылі, папілі гарэлку. «Ну што, — тата смяецца, — сагласна, Маруся?» «Ну, сагласна», — кажу. А сама сабе думаю: «Паеду пагляджу, будзе кепска — вярнуся». Такі, бачыш, шчэ розум быў.

Праз нядзелю сваякі яго папрыязджалі — абгаманілі ўсё гуртам, дагаварыліся, а за дзве нядзелькі — вяселле. На Пятра — у самы сенакос. Зайшла і нажылася.

— А старэйшая сястра?

— Цераз год і яна выйшла. З Дубінак, што каля нашай дзярэўні, хлопец засватаў. Так і аддаваў тата адну па адной.

— Усе шасцёра замуж павыходзілі?

— І павыходзілі ўсе, і дзяцей нагадавалі, і шчэ ўсе жывем — Анюта, Волька, Каця, Алена, Наста, Шура. Ха-арошыя імёны. Ну, і Ванька — брат.

Зайшла я на Пятра, а ўвосень паехалі па пасаг. Карову, авечку, кабанчыка бацька даў. І Анюце даў. Меншым ужо не даваў. Тыя з карзінамі павыходзілі.

— Чаму?

— Бо яны ў горад падаліся. У нас было дзве каровы, цялушка, свінні. Зямлі небагата мелі, але жывёлу трымалі. Некалі ж аднаасобна жылі. Нас тата жалеў, у наймы не аддаваў. «Я, — кажа, — гадаваў дачок і буду аддаваць служыць?» Нястачы вельмі не было, але ўжо якую капейку — прыходзілася дарабляць.

— А дзе дараблялі?

— Дзе калі выпадала. Калі — у двор хадзілі; там, як паны паўцякалі, саўхоз стаў, парнікі парабілі ды шмат, а людзей не хапала. А калі — на дарогу; тады ж праз Самахвалавічы дарогу брукаваную вялі. Так і паадзяваліся і не служылі — ніводная. Пакуль калхоз ня стаў. У калхозе тожа харашо жылі. Вайна ўсё пагубіла. Каб не вайна, жылі б дасюль мо з маім Іванкам[1]...

— Харошы быў?

— Харошы? Ён ніколі на мяне па-мацярску не сказаў! Пальцам не крануў! Усе ж бачылі, што за чалавек быў. У полі, калі бабы сыдуцца: «Твой, Манька, не мужык, а золата!» Ён і да людзей, і да работы — каб калі хто Астроўскага кепскім словам абазваў, у вочы ці за вочы.

## Хлеб наш надзённы

— Не кажы, у нас хлеб не марнуецца. Паглядзеў бы ты, колькі вунь у вёдрах выносяць. У мусарніцы ля гэтых жаражоў («гараж», як і «тэлевізар», «маянэз» вымаўляе жанчына на свой лад: лявізер, ламанез) гэтулькі хлеба штодзень выкідваюць. І белага, і чорнага, і якога ты хочаш. Галубы, вераб'і панаядаліся — ня хочуць.

Вы, маладыя, калі што не так — маці вінавата: маці наслядзіла, маці разліла. А маці вунь за вамі скарынкі даядае. Адно кусок пачне — не даесць, другое — укусіла, кінула. Ведама — дзеці! Я ж сабяру скарыначкі, размачу ў місцы. А як жа! Гэта ж — хлеб! Каб некалі хлеб на падлозе ці, ня дай Божа, на сметніку ўбачыць! Крошка спадзе са стала — падымецца, пацалуецца, з'есца.

## Цяперашнім светам

— Што там! — на пяць гадоў жонка старэйшая. У нас вунь, я табе перайму гаворку, адна зайшла была за хлопца на васемнаццаць год маладзейшага. Я шчэ ў дзеўках хадзіла, як яны пажаніліся. Але нераспісанымі жылі, бо яму шаснаццаці не было, дык не пісалі.

— Такому маладому і жаніцца закарцела?

---

[1] Іван Васільевіч Астроўскі загінуў на фронце ў 1944 г. пад Беластокам.

— Закарцела, бачыш! Бацькі паўміралі, а ён адзін астаўся. Зямлю трэба ж было рабіць. Тады ж аднаасобна жылі. І жаніліся па зямлі. Дзеўка тая і красівая была, і жылі яны багата, на хутары.

— Як жа гэта? І красівая, і багатая, а ў дзеўках засядзелася!

— Як засядзелася? Сваталі яе і шмат хлапцоў сватала. Ды ўсе бяднейшыя, а бацька не хацеў. За аднаго дык і вельмі ёй рупілася. Хлопец быў, Марцінам зваўся. Такі з цябе ростам, можа, вышэйшы дажа, у плячах шырэйшы, валасы цёмныя, кучаравыя. Вя-ясёлы хлопец! І да работы, і да вечарынкі — што ўжо красівы, спраўны быў: не адна дзеўка па ім сохла. Але ж, ведама, бедны. Удвох яны з маткай жылі. Нанімалі людзей. Раней жа так і жаніліся, як бацькі наважаць. Я ж тожа за свайго Іванку пайшла, ні знай-ні ведаючы. Тату нараілі, згаварыліся з яго бацькам... Мне толькі й сказалі: «Выходзь, Манька!» Не хацелася, ды дзе ж ты супраць бацькі пойдзеш! Праўда, не скажу — харошы чалавек папаўся. І жылося, і любілася. Ну, ды слухай жа пра тую дзеўку.

Яе і адгаворвалі некаторыя: «Куды ты, Юлька, ідзеш! Гэта ж сям'я сухотная: бацька памёр, маці памерла, трое дзяцей меншых паўмірала і ўсе ад сухотаў. І Пятрок, — Пятром зваўся той хлапец, — доўга не пражыве». «Ну і што, — кажа, — памрэ — пахаваю». Два гады пажылі разам, і ён памёр. А яна тады прымака ўзяла аднекуль. Здаровы такі мужчына. Трое дзяцей ад яго было — дзяўчынка і двое хлапцоў, здаровыя, што дубы! Павырасталі ўсе, павывучваліся. Яна сама залетась памерла. Я прошлы раз як ездзіла на радзіму, бачыла яе: з палачкай хадзіла, але слабая ўжо была.

— А ад першага мужыка былі дзеці?

— Адно. Хлопчык. Чатыры гады пажыў. Ведама, хвароба: сох ён, бедненькі, сох, пакуль саўсім не сышоў. Што яна ўжо папавазіла тое дзіцянё — і па дахтарах, і па бабках, і ў Мінск колькі разоў вазіла. Ды дзе ж ты вылечыш. Але я пераняла табе гаворку. Што той хлапец, пра якога ты казаў?

— Ну, што хлапец? Сам малады, у жанчыну з дзіцем улюбіўся і да мацеры: «Давай дзяліцца!» Іх чацвёра ў адной кватэры — дзве комнаты. Маці кажа: «Пачакай, падумай, не пары гарачкі!», а ён і слухаць не хоча.

— Цяперашнім светам ні табе мацеры, ні табе бацькі — ня надта паслухаюць.

## Балючая вайна была

— Некалі ж у тую вайну... Я ўжо ладная была. А ў нашым сяле па хатах казакі стаялі. Дык адзін салдат кажа тату: «Ацец, ацец, багатым будзеце!» — «Чаму?» — тата пытаецца. «Гэта ж пяць дачок, пяць сундукоў дабра». А тата кажа: «Няхай растуць. Усім будзе доля».

Я тую вайну помню як цяпер. Тожа пабіла людзей. Але ж не палілі! Ды некалі так была вайна. Пяройдзе войска і ваююць. Тады немцаў і ня бачыў ніхто, і ня ведаў. А цяпер — і папалілі, і паніШчылі і сёлы, і людзей. Цяпер

балючая вайна была: люздей білі, палілі, лавілі, абіралі. Галодныя, пагарэлыя, раздзетыя, разутыя — нагараваліся. Ой, Божа мой, Божа. Тады ж — толькі што на вайну хадзілі. Татавы два браты пайшлі і вярнуліся. Праўда, раненыя былі, але жылі — жылі да смерці. Сваёй смерцю памiралі. А цяпер — што ўжо папакутваў народ!

У Самалеве, дзе саўхоз, была іхняя гаспадарка. Пазганялі туды хлапцоў, дзевак, ды маладзенькіх-маладзенькіх. Хлапцам — нічога: паспяць і робяць работу, што яны загадаюць, іх трымалі, каб не паўцякалі ў партызаны. А з дзевачкамі — спалі. Набралі ў двор к сабе — пятнаццаць, шаснаццаць год — і спалі з імі. Загадаюць гэтак нам, селавым, на работу — мы прыйдзем удзень. І тыя дзевачкі полюць з намі, а немцы стаяць пільнуюць. Са стрэльбамі, з сабакамі — рыжымі такімі, страшнымі. Адна была — дзіцянё шчэ, гадоў мо пятнаццаць. Дык яна падыдзе да мацеры, плача: «Мамка, — кажа, —страшна тут, спаць з імі застаўляюць, мучаюць». Маці вечарам, ідучы назад, да каменданта прасіць, бо той з яе дачкой спаў. «Паночку! Пусціце яе дамоў, яна ж хворанькая ды і ня можна ёй». «Авэк!» — рыкнуў і гаварыць не стаў. І як людзі ні прасілі, ні малілі — дзе ты бачыў? Каторыя бацькі ў двор пайшлі і там жылі, каб ля дзяцей быць. А тады ўцяклі ў партызаны. Дык тыя немцы дзевачак, дачок тых бацькоў, правялі праз усё сяло і расстралялі ля слупа. А хаты папалілі — і бацькоў, і сваякоў, усіх чыста…

Ну, а тады, як нашы пачалі наступаць, паўцякалі яны і дзевачак з сабой прынудзілі ехаць. Ужо што тыя, бедненькія, плакалі, што галасілі — дамоў прасіліся. Не пусцілі, павезлі. Пастралялі гаротных нейдзе. Куды ж ім везці.

### Вой, многа пабілі, папалілі…

— Наша ж сяло тожа, считай, што ўсё спалілі.

— Хто спаліў?

— Хто! Немцы! Бо ад нас мужчыны, хлопцы ў партызанах былі, і партызаны наязджалі часта — абагрэцца, паесці. Сёння гэтак яны залучыліся на ноч, а назаўтра раненька — немцы! Як паказаліся на гары — відаць жа! — кінуліся хто куды. Падказаў, бачыш, нехта. Самі яны не пайшлі б, няпраўда, гэта ж — не ў блакаду. Мы на другім канцы жылі, ад лесу, дык паспелі ў Баламутавічы ўцячы, праз рэку. А яны, як наляцелі з таго канца, аж да сярэдзіны сяла выпалілі ўсё. Вой, што ўжо гарэла, ды стралялі! Торп у штабелях ля рэчкі быў, дык яны з аўтаматамі між гэтых штабялёў хадзілі і людзей білі — хто дзе схаваўся. Адзін дык у зямлянку ўляцеў — ня ўспеў нікуды дзецца, за кадушкі лёг — знайшлі, забілі. Трох забілі ў зямлянках…

* * *

— Зайшлі гэтыя хлопчыкі з лесу пераначаваць — хаваліся, каб у Германію не ехаць. Ноччу акружылі немцы тую хату, як далі з аўтаматаў — усіх да аднаго палажылі — чацвёра хлапцоў, малодзенькіх, — мо як наш Вова, гадоў па пятнаццаць ці меней. Ні трун не рабілі, нічога. Дзесятнік прынёс бумажку: ноччу пахаваць. «Бацькі, — наказаў, — не йдзеце, бо на могілках калавурыць [каравуліць] будуць, хай старыя хаваюць». Завезлі гэтых хлопчыкаў на пасцілках, а пасля ўжо параскопвалі з магіл. Не мылі, нічога, — так пазакопвалі ціхенька. Пасля ўжо, як стаў мір, парабілі магілкі. А так — баяліся хадзіць. Ой, страшна ў нас было, страшна, ня дай, Гасподзь, успамінаць!

У нашым сяле шэсцьдзесят чалавек пабіла — у партызанах, на фронце — адных мужчын. Пяць хат радам — пяць удоў. І мужыкі — такія маладыя, гадоў па сорах — сорак пяць, усе пагіблі. А ў аднае — мужык і тры сыны — у партызанах, усе чыста пагіблі. Вот табе і раз. Мой бы тожа пайшоў (у партызаны), але аружыя не было, а без аружжа не прымалі.

А колькі раненых — бязногія, бязрукія папрыходзілі з вайны. А то ў пляну штук шэсць было, тожа папрыходзілі — не раненыя, нічога, так. Многія паўміралі ўжо — мала тых мужчын засталося з вайны. Ой, Божа мой, Божа…

* * *

— Дома, лічы, і не начавалі. Як толькі немцы — [мы] за дзяцей і — бегчы. Аднаго разу наляцелі — людзі ў кусты, хто куды. Тры сям'і — у рацэ. Я Соню трымаю, а сама ў вадзе — во гэтак во, па шыю. Каторыя былі ў кустох — тых пабілі. А мы — у плюшаі, як во ад гэтага дому... Чуць не патапіліся — сядзелі дзень і ноч у вадзе. Ой, што пастрадалі!

А ўжо каго ў хаце знаходзілі — на месцы клалі. У адных — маці кульгавая, дочка пры ёй меншая і хлапец гадоў дванаццаці, не паспелі ўцячы. Уварваліся немцы ў хату, усіх палажылі, з кулямёта — у плечы. Тады сам камендант зайшоў, паглядзеў: «Яны шчэ жывыя», — кажа. Дык іх яшчэ спераду прастрачылі.

## Нашы ідуць…

— Ішлі яны — дзень і ноч. І шашою, і дарогамі, з-пад Самацэвіч, з-пад Казінаўкі, з-пад Каляіны — адусюль. Нашы, рускія. Мы ўжо павыходзім, бабы, стаім каля плота. А яны і едуць, і пяхотай, і на машынах, і на конях. Пяюць, смяюцца, а мы плачам — дачакаліся, а не верыцца! Ды горача-горача. Падбягуць яны — «піць!» — просяць. Мы вёдры павыносілі, кружкі, хлеб — у каго што было. Скрозь маладыя, вясёлыя такія. «А вашы мужы [на фронт] пайшлі?» — пытаюцца. «Пайшлі!..»

## Як каму паздаровіцца

— Гэта ж як каму паздаровіцца — столькі чалавек і пражыве. Мой вунь тата ў шэсцьдзесят сем год памёр. А здаровы быў і жыў бы, каб не забілі.

— А хто яго забіў?

— Хто! Тады ж, у вайну! І за што? — за гарэлку!

Жанчыне зноў надарылася мінуту пагаварыць, і цяпер без усялякіх пытанняў дараскажа яна пачатую гісторыю. Дакладней, кавалачак гісторыі колькі раз перажыты, выплаканы пазнейшымі ўспамінамі. Вось ён, крышталь людской пячалі, застылы з кіпення чалавечай крыві і слёз.

— Яны самі ў Хамутовічах гарэлкі ня гналі. Стары калі возьме паўмяшка жыта ды Гусаку завязе. Той у Самахвалавічах на дарозе рабіў, дык у іх там кацёл стаяў. Яны ў тым катле другім разам й самагонку гналі.

Да таты партызаны часта наязджалі і находзілі. Ён і накорміць іх, з сабой дасць. ... А то — свае, селавыя падкусілі. Забралі былі карову, кабана, авечку — усё падчыстую.

— Хто забраў? — рашаюся перапытаць, усё яшчэ спадзеючыся дазнацца якой-небудзь карэкцыі ў непарушна-аднародным усведамленні гэтай жанчынай маральных якасцяў таго «партызанства», што не мела нічога супольна з народнымі мсціўцамі, хоць часам сваю брудную работу і захінала ў легендарны партызанскі плашч.

— Ну хто ж яшчэ! Партызаны! З нашай дзярэўні. Я іх помню — аднаму 38-м, а другому — 18-ць. Зайшлі яны да бацькі ўдвох: «Давай гарэлку!» Той і прасіўся, і плакаў: «Няма, хлопчыкі вы мае, дзе ж яе ўзяць, той гарэлкі!» А яны — сваё: «Давай і давай!»

— П'яныя хіба былі?

— Якія п'яныя? Цвярозыя! Вывелі тады тату ў другую хату і над яго галавой тры разы ў столь выстралілі. То мы ўжо за сцяной думалі, што й забілі. А патом ракам яго паставілі і давай прыкладамі біць. Адбілі ... Усё распухла, што й мача не йшла. Праз тры дні тата й памёр.

— І не судзілі бандытаў гэтых?!

— Хто гэта судзіць будзе?

— Як хто? Пасля вайны чаму ў суд на іх не падалі?

— Што ты гаворыш! Хто гэта будзе падаваць!

## Хай растуць вялікія

— Калі гэта, сёння яго дзень раджэння? Але, скажы ты, пераходзяць дні — Андрэйка ж радзіўся ў сыботу, а Света ў нядзелю. Хай растуць вялікія — ёй пойдзе сямнаццаты, а яму — шаснаццаты. І ня згледзелі, бачыш, як узняліся дзеці, учора, здаецца, баба на руках насіла.

Некалі куры садзілі — ці ў сыботу ці ў нядзелю, каб гэта было больш курак. А выседзяцца другім разам адны пеўні — вось табе і ўгадай.

...Снегу дало на паўпядзі. Але ён скора растане — канец жа марца. Будзе цяплець у апрэлі, няпраўда.

...Яна лепшая, як ён. Той — праціўны.

— Неслухмяны?

— Не скажу. Што ж ты хочаш — хлопец! Мужчына!

* * *

— У горадзе ня надта наспраўляешся гасцей. Тут жа прыдуць — нап'юцца, паядуць і пайшлі. Калі бутылачку віна прынясе каторы, дык і добра. А не — дык і так прыдуць. І што ж ты скажаш? Нічога не скажаш! Госці! У сяле ж падаркі нясуць, ідучы. Вунь Галя спраўляла дзень раджэння Шураў, дык яму чатыры сарочкі прынеслі.

* * *

— Сёння ж празнік бальшой, гадавой — Благавешчанне. Гэта ж я хадзіла за хлебам, дык казалі. Пайду на базар схаджу. Вазьму палачку і падамся памаленьку. Мяне ж ніхто ў каршэнь не гоніць. Айстры куплю, настурак ды пасею — пара ўжо. Вунь на суседнім балконе ўжо пасеялі. Укропу вазьму. Гэта ж прыдзецца — агуркі з тры-чатыры пасаліў і ўкроп — свой. А то плаці дваццаць капеек за якіх два-тры калівы.

### Перадавайце прывет Беларусі!

— Сёння шмат людзей падалося ў лес — з мяхамі, з сабакамі. Чаму — тамака хораша пасядзець на траве. Гэтак то пацяплела. Баба сваё ад'ездзіла, сядзі што корч — дзе ж ты паедзеш?

Той, з трэцяга этажа, у Мінск раніцой паехаў. Адтуль будзе нешта везці. «Перадавайце, кажа, бабушка, прывет Беларусі!» Ён жа ведае мяне. У яго легкавая машына з будачкай. Я пыталася, колькі часу трэба ехаць у наш бок. Трынаццаць часоў — казаў. Менш, чым поездам. Але ж усё роўна дадзене — да-арога.

* * *

— І што за надвор'е такое — як на сканчэнне свету!

— Награшылі людзі — Бог і карае!

— Праўдна — Бог карае. Бо грашаць. Гэта ж цэлую ночачку так ліло! І ўдзень лье, не перастае.

## Бабіна работа, бабін дзень

— Дзе, маці, хадзілі?

— Дзе хадзіла! У магазіне стаяла. Хацела капусты свежай узяць, ды дзе там! Адны порхаўкі. А што народу таго! Абрыкосы прывезлі. Стаяць сварацца — пашалелі людзі. Ня вытрымаць!

— Во, палатаю Андрэю наскі — цёплыя. Можа, возьме ў лагер, там зпанадабяцца, — пачці ж месяц. Надвор'е плахое, а будзе мо яшчэ плашэйшае.

— Пакуль я за той капустай выстаяла. Што ўжо народу таго! Перада мной чалавек дваццаць, за мной мо чалавек сорак, і ўсё падыходзяць, падыходзяць. Ведама, па сёлетнім леце — дзе ж таму агароду быць?! Кілаграм узяла — болей жа не данясе баба. Тады зноў пайшла, квасу купіла, на балконе вунь стаіць! Вот і бабіна работа, бабін дзень! Колькі тае бабы.

— Ты, можа, не дасі веры. Во, на пакеце напісана: рубель трыццаць. Прадавалі памідоры ў пакетах, дык я ўзяла. Тут, мусіць, больш, як кіло. Яец дзесятак купіла. Пакуль выстаяла, выхадзіла, дык і абед.

...Ну, дык ідзі, пакуль гарачае, — паядзім! Дай веры, чуць дайшла. Самлелі ногі чыста. Во, ад кадлубоў пацяжэлі, не пайсці. Дапаўзла да кухні, седзячы ўжо варыла.

## Такі яе век

— Вунь у тым доме, дзе «Кансервы», адна баба сто тры гады пражыла. Сухенькая ўся, з палачкай хадзіла. Мы гэтак, бабы, сядзім, гамонім, і яна іншым разам падыйдзе. Возьме цукерак, пячэння — нас угашчае. Гаваркая такая, харошая. «Я, кажа, шчэ на другі атаж сама ўзыходжу!» Яна і ў магазін сама хадзіла. Есці варыла. Шчэ б і жыла, можа, але ўвосень паваліласа неяк. Унук са школы прышоў, бачыць, яна на кухні, паваліўшыся. Нагу тады зламала. З месяц паляжала дома і памерла. Трэба, бачыш, было ёй ужо паваліцца.

Яно ж каму дзе пара надыйдзе.

## Ведама, горад

— Вой, чуць дастаялася ў вочарадзі гэтай! Хай яе немач, хай яе! Што ўжо народу гэтага! З раніцы пайдзі — вочарадзь, пайдзі ўдзень — вочарадзь, вечарам — зноў выстаі. Усе бяруць, усе купляюць. Ведама, на грашах жывучы. Го-орад! Усё купі! А тут мяцеліца ўсхадзілася, чуць дапляла-ся баба.

— Нахадзіліся — цяпер адпачнецца ўсмак і здаравей будзе. ...Толькі ж. Паем ды буду ляжаць. Што ж яшчэ рабіць? Такі бабін век. Нешта ж малых са школы доўга няма... Папрыходзяць, пакармлю іх, тады ўжо пайду прылягу.

## Што гэтая гарэлка з людзьмі робіць...

— Але ж, скажы, з табой гаворачы, як гэтая гарэлка людзей са свету зводзіць. Гэта ж і Косцік. Сорак год мужчыну, ды такі-то здаровы! Сама жыць! Ён жа, каб співацца, дык не, але што ўжо піў, то піў. Другім разам, праўда, прыйдзе выпіўшы, паесць, на бок паложыцца і спіць сабе, пакуль працверазее. А то выпілі добра хэўрай, ён ужо неяк і плёўся дамоў. Ды слізка, галалёд быў. Як бразнуўся, ужо каля самай хаты, то і не падняўся. Ведама, ліцом грохнуўся, што камень. Разбіў увесь нос, лоб. Каб хто тады падняў адразу! Ды хто ж бачыў? Сем часоў нейдзе было — цёмна ўжо. А жонка з фермы ў дзевяць прыходзіць. Да яго — той ужо што лёд, халодны.

## Багаты ці будзе, а жанаты будзе

— Нахадзілася баба, чыста ногі адабрала. Гэта ж мы за квасам хадзілі. Яна тожа — пры зяцю.

— Хто яна?

— Ну, тая баба. Але ты яе не знаеш — з першага пад'езда, тае Ленкі, што некалі да нашых малых прыходзіла. Дзве ўнучкі ў яе. Адна ўжо замужам, рабёнак ёсць. Ездзіла гэтая баба ў Разань нядаўна. Што ўжо грыбоў, казала, ды харошых! Цяпер яны ўпяцярох жывуць, на пятым этажы, тры комнаты — гэтак, як і ў нас. Некалі я была там, шчэ ўзыходзіла. І яна была ў нашай хаце. Цяпер жа я не ўзыйду. Зяць яе — меншы за цябе, шмат меншы.

— А кім ён робіць?

— Што ж я ведаю? Цёнгле раніцай ідзе некуды. «Здрастуйце» скажа заўсёды. Вечарам назад ідзе, пасядзіць з намі, пагаворыць. Харошы чалавек, а дзе ён робіць — не ведаю.

— А дачка?

— Там, дзе шыюць шынялі. Але яна ня шые, кроіць толькі. А Ленка гэтая — ёмкая дзевачка. Спраўная. Нізашто не скажаш, што Свеціна таварышка. Гадоў на дваццаць выглядае. Перайшла ўжо ў дзевяты, як Андрэй наш. «Мы, — кажуць, — замуж аддаваць ня будзем, хай к сабе бярэ. Тры комнаты — куды іх дзяваць?» Але яна тут ня вучыцца, нейдзе ля парку — у другой школе.

— І добра вучыцца?

— Ну, пераходзіць жа штогод.

— Вашаму ўнуку і нявестка ў самы раз!

— Я казала неяк яму. Смяецца. «У мяне, — кажа, — дзевушка ёсць». Вой! У нашым доме гэтулькі дзевак расце! Па тры, па дзве комнаты. Ной-дзе! Багаты ці будзе, жанаты — будзе.

## Так табе, бачыш, трэба

— Можа, і не залюбіш, зяцька, але што я табе скажу, дурная баба. Як жа гэта штодня — за сталом, сагнуўшыся, карчом. Ні табе разагнуцца, ні пагуляць — усё нешта пішаш, пішаш, чытаеш. Кніжак пад самую столь, дзяваць недзе, а ўсё купляеш, купляеш тыя кнігі. Калі ж іх перачытаеш столькі — жыткі ня хопіць! І нашто так галаву сушыць — вунь валасы палезлі, а ён увесь у кнігах, усё піша. І што гэта ў цябе за работа такая?

— Такая, маці, работа — застаўляюць!

— Маніш! Хто гэта застаўляць будзе? Так табе, бачыш, трэба, доля такая.

## Усе харошыя

— Бабы на лавачцы будуць другім разам казаць: у цябе, Маша, зяць правідны (правильный) — ні п'е, ні буяніць (пітакоў ціхіх бабулькі з лавачкі ў разлік не бралі). І я ж кажу: чаму ж не харошы, і жонка ў яго харошая — усе харошыя!

*1977—1979*

# НАШ МІКОЛА КАСПЯРОВІЧ

## ІДУЧЫ СВАЁЙ ДАРОГАЙ...

Яму змоладу пашчасціла вызначыць магістральны накірунак свае ўласнае дарогі: Беларусь, беларушчына, пазнаванне роднага краю. Нямала патрапіў за нядоўгае жыццё зрабіць гэты надзіва адораны прыродай і бацькамі высокай культуры Беларус. Менавіта праз яго апантанасць абраным шляхам дачасна, на чацвёртым дзесятку, гулагаўская куля абарвала шлях Мікалая Іванавіча Касяпровіча.

Пазалетась, у маі 2000 года, ва ўтульнай зальцы Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва адзначаліся 100-я ўгодкі вядомага нацыянальнага культуролага, краязнаўца і народазнаўца. Назаўтра завяршыліся чытанні акалічнасцёвай урачыстасцю на Каспяровічавай радзіме — у Чырвонакастрычніцкай школе Пухавіцкага раёна (у ваколіцах былое вёсачкі Ізабялёва), увечненай мемарыяльнай дошкай у памяць славутага земляка. Тады ж з Алесем Карлюкевічам, нястомным руплівцам «Каспяровічавага шляху», паладзілі мы, чэрвенец і пухаўчанін, наконт сумеснага права гонару двух суседніх раёнаў — Пухавіцкага і Чэрвеньскага — за гэтую адметную постаць айчыннае думкі і культуры — гадунца былое Ігуменшчыны. «Няма спрэчкі, — лагодна рэплікаваў на мае развагі калега Алесь, — ёсць супольная пабратымчая крыніца». З тым самым велікадушным зразуменнем удзельнікі чытанняў — Алеся Гесь, Ганна Жукава, Ганна Запартыка, Таццяна Кекелева, Віталь Скалабан, а таксама сын Міколы Іванавіча — Аляксандр Мікалаевіч Каспяровіч, вучоны-матэматык з Новасібірска, — вяртаючыся назад і праехаўшы Мар'іну Горку, згодна папрасілі вадзіцеля мікрааўтобуса замест мінскага напрамку збочыць на Чэрвень (перад тым клапатлівы Карлюкевіч разам з загадчыкам мясцовага аддзела культуры паруліліся дапампаваць бензабак машыны дадатковымі — дэфіцытнымі, не прадугледжанымі пуцявым лістом літрамі). Мне карцела завітаць у Чэрвень да радні, а ўсім нам — зведаць яшчэ адзін кавалачак Каспяровічавай дарогі.

Хвілін дваццаць язды хуткабежнай шасэйкай, і нашае аўто, абагнуўшы цэнтральную плошчу гарадка, прытармоўвае ля двухпавярховае цаглянае будыніны. Тыповая для пачатку мінулага веку камяніца, у якой за сотню год перабыло-перамянілася безліч уладаў... Цяпер тут месцяцца раённы краязнаўчы музей, іншыя асветныя ўстановы. Прыпыняемся ля ўвахода і, адчыніўшы цяжкаватыя парадныя дзверы, застываем перад старадаўняй, выслізганай гадамі-дзесяцігоддзямі цокальнай лесвіцай з мудрагелістай рашоткай пад парэнчамі. Па ёй, гэтымі самымі прыступкамі, узыходзіў і сыходзіў калісьці малады Каспяровіч (1920 год), прадстаўнік Беларускага нацыянальнага камітэта ў Бабруйскім і Ігуменскім паветах як «інструктар па беларускіх нацыянальных справах», яшчэ раней — арганізатар першых краязнаўчых гурткоў, беларускіх школ у раёне. Непадалёчку, ля тае самае плошчы, другая падобная будыніна з «мемарыяльным» напамінам: тут, у Ігумене, нарадзілася Марыя Апанасаўна Мякота — маці Максіма Багдановіча. Жанчынкі з нашае падарожнае грамадкі асцярожна прыладжваюць ля помнае дошкі пучок вясновых палявых кветак, сабраных на ўзбоччы пухавіцка-чэрвеньскае шасэйкі. Пацяплелы і трошкі зажураны заходзячым сонейкам маёвы надвячорак прыспешваў дадому. Завурчэў рухавічок аўтобуса, і мае мілыя спадарожнікі, пажадаўшы маскоўскаму падарожнаму прыемнага гасцявання на бацькаўшчыне, падаліся ў напрамку мінскае шашы. Я рушыў у процілеглы канец горада, да сваіх крэўных, — вуліцай Карла Маркса, збочваючы на Луначарскага, мінаючы Пралетарскую, Зоі Касмадзем'янскай, Рэвалюцыйную, Чкалава, Мяснікова... Думалася ж і шчымела пад сэрцам пра іншыя, бліжэйшыя маім памяці і пачуццям назвы («прыйдзе новы а мудры палітык у забраны, вызвалены край...»): Марылі Мякоты, Міколы Каспяровіча, тутака ж, на гэтай зямельцы, яны нарадзіліся, вучыліся, сталелі, адсюль выпраўляліся ў далёкі, цярністы шлях да Беларусі.

Ішоў я, цеплячы ў акаёмах душы несціханую думку пра нашага, майго Каспяровіча — трапяткую часцінку свайго патаёмнага мікракосмасу, што неспасціжным лучывам яднае цябе з неабдымнымі абсягамі-высямі Культуры — Народа — Чалавецтва і шчырае, нязмушанае чалавечнасці... А дасюль хваляванне маё падварушвае мілая назва Равецкі Бор, сядзібы маіх дзядоў і бацькоў — Маркі Атрашэўскага, Соні Фінскай (паходжаннем з пухавіцкіх вёсак Угалец, Турын), Ганны і Кастуся Каўкаў. Хто ведае, можа, і іх не амінулі страсці (без чаго найчасцей не абыходзілася) пры адкрыцці першае ў наваколлі школкі беларускае, заснаванай Міколам Каспяровічам (нататка В. Залужскага). Паселішча тое, праз «неперспектыўнасць», даўно знікла з адміністрацыйнае мапы Чэрвеньскага раёна. Хаця яшчэ дажываюць свой век на апусцелай аселіцы адзін-другі разложыстыя дубы і доўжыць глыбокае маўчанне пацямнелы хваёвы бор, што некалі атуляў калыскі равецкіх дзяцей...

*Аляксей Каўка*

# РОДНАЯ МОВА

Здавалася, што пытаньне аб беларусізацыі народнай асьветы так проста і ясна, што не патрабуе тлумачэньня. Няма ж у шырокіх кругах грамадзянскіх двух паглядаў на права вольнага культурнага разьвітку палякоў, украінцаў, латышоў і другіх народаў.

Між тым, культурны імпэт беларусаў сустракае варожые адносіны ў ліку большасьці беларускага настаўніцтва. Яно, настаўніцтво, прапанавало прыняць высокую вялікарускую культуру, асыміліравацца. Але ж асыміляцыя гэта ўбоство! Дый каб прыняць высокую культуру, трэба дарасьці да яе, што магчыма толькі не дарогаю самахвотнай асыміляцыі, але дарогаю разьвітку нацыянальнай беларускай культуры. Мэта ўсіх народаў — прынесьці дар усесьветнай культуры ў сэнсе высока разьвітай нацыянальнай душы.

Мова чалавечая — гэта спосаб выказываць свае думкі, бажаньні, спосаб людзей згаворвацца між сабою. Тое, што мовы бываюць розныя, што чысло іх вельмі вялікае, моцна зьвязано з разьдзелам роду чалавечага на плямёны і народы. Нам добра вядома, якую нясходную душу, які нясходны характар маюць розныя народы, хаця б і вельмі блізкіе адзін другому. А як двое людзей аднэй нацыі з рознымі характарамі ніколі ня будуць выражацца аднакімі спосабамі, так два плямёны людзей гамоняць адно з другім рознымі зыкамі, рознымі словамі, якіе залежаць як ад характару кожнага народу, так ад варункаў, у якіх ім прыходзіца жыць.

Адбіваючы ў сабе душу і характар народу, прыстасаваная к усім яе асобнасьцям, родная мова становіцца той дарогай, ідучы па якой, гэтые асобнасьці і думкі могуць найлягчэй разьвівацца.

Родная мова — скарб народны, у ёй сабрано і захавано ўсё, што мае народ найлепшага, найдаражэйшага, што падымае чалавека на высшые ступені культуры: у ём уся мінуўшчына народу і будучыня. Мова — гэта праца народнай душы, яе жывое стварэньне. І таму мова, родная мова, паказвае нам усе асобнасьці, як чалавека, так і цэлай нацыі.

Родная мова пераходзіць з пакаленьня ў пакаленьне, і гэты пераход апіраецца на закон прыроды. Нам добра вядома, што дзеці ў часе гневу моршчаць твар, крычаць, крывяць губы і дрыгаюць нагамі. Але так сама добра вядома, што іх гэтаму ніхто не вучыў: гэта ў натуры іх заложано, гэта закон прыроды, што як першабытны чалавек крывіў твар свой, так павінны крывіць і за ім ідучые пакаленьні. От на такім жа закону прыроды ў душы чалавека заложана нахільнасьць выказваць свае думкі і перажываньні тымі самымі зыкамі, а ў далейшым разьвіцьці і — словамі, якімі карысталі з няпомных часаў і папярэдніе пакаленьні. Навука кажа нам, што як родзіцца чалавек, дык мазгі ў яго прыстасаваны так, што кожнае паняцьце можа лягчэйшым спосабам найці ў ём мейсцо, калі ўводзіцца ў яго пры помачы мовы, якую ўжывае матка. А натура чалавека так накірована, што ён выбірае дарогу для свайго разьвітку з найменьшым лікам

перашкод; так і розум чалавечы выбірае сабе лягчэйшы спосаб выражэньня — тую мову, якую жыцьцё выкавало дзеля кожнай нацыі асобна і толькі дзеле яе аднэй — значыцца родную мову. Такім парадкам, родная мова, глыбока хаваючы ў сабе дух нацыі, як-бы адзначае дарогу, якой павінна нацыя трымацца, каб далучыцца да ўсясьветнай культуры: бо далучыцца да ўсясьветнай культуры можа толькі такі народ, які, разьвіваючы сваё індывідуальнае «я», мае душу, здольную прыняць гэтую культуру. Толькі высокі разьвітак дае народу можнасьць зразумець душу другіх народаў, сьцяміць іх ідэалы і, ідучы сваёй дарогай, папаўняць культурны скарб. Толькі тагды беларускі народ заваюе сабе грамадзянскіе права ў сям'і культурных нацыяў, калі, паставіўшы сваю нацыянальную культуру на высокую ступень, ён прыдзе да іх ня з пустымі рукамі, а з новым, багатым дарам для ўсясьветнай культуры.

Аграмаднае значэньне роднай мовы ў справе культурнага пад'ёму народных мас вялікіе языказнаўцы Гумбольд і Патэбня бачаць і ў тым, што яна, мова, ёсьць дарада тварыць думку, што яна — складаючая праца нашага сьвета, пагляду. Але працаваць прадуктова мова можа толькі ў абставінах нацыянальнай думкі, і толькі гэтаю дарогаю тая ці іншая нацыя ўваходзіць у вялікую сямью народаў, нясучы ў скарб агульна чалавечага знаньня свае вартасьці.

*Вольны [М. Каспяровіч]*

*Друкуецца паводле газ.: Беларусь. 1919. 7 лістап.*

## РОДНАЯ МОВА І ШКОЛА

Рвучыся к агульначалавечаму ідэалу, асобные народы, — кажа Гумбольд, — дасягаюць яго, аднак, у розным дусе: і гэта рознавобразнасьць, у якой выяўляецца чалавечая індывідуальнасьць, але не беларуская аднастайнасьць, шырацца бяз конца. Таму, каб народ мог моцна і карысна рабіць уплыў на ўвесь ход асьветы чалавецтва, не даволі таго, каб ён зрабіў усьпех у тым ці другім вучоным кірунку; трэба, каб ён выказаў энэргічнае дзеяньне ў тым, што складвае цэнтр духоўнага жыцьця і што ўсяго паўней і ясьней выяўляецца ў фільозофіі, паэзіі і мастацтве, а адсюль выліваецца на ўвесь ход яго думак, якіе творацца пры помачы мовы. У стасунку з гэтым фільозоф-мысьленьнік Ул. Салаўёў — так сама прызнае, што ўсякая творчасьць пераходзіць цераз асабістую нацыянальную форму, а потым ужо становіцца агульным, культурным скарбам. «Адмовіцца ад нацыянальнай формы мысьленьня — усё роўна, што адмовіцца ад кантаўскіх катэгорыяў пазнаньня быцьця, працягу і часу».

Такім парадкам, нацыянальнасьць беларускай творчасьці не пакідае яе агульначалавечага значэньня. Нацыянальные паэты Беларусі: Я. Купала, Я. Колас, Багдановіч і інш., яе духоўные павадыры і пракокі, памагаюць

нам сваімі творамі сьцяміць жыцьцёвую трагедыю другіх народаў, загарэцца гарачым спачуцьцем ад іх.

Яны даюць натхненьне агульначалавечым ідэалам.

Родныя нацыянальные формы творчасьці,ператвараючы агульначалавечы зьмест, шырока прызнаюцца тэарэтыкамі інтэрнацыяналізму. Яны даводзяць, што кожны народ, прыстасавана свайму тэмпэрмэнту, клімату і здабыткам сваёй культуры, кладзе сваю асобную ад другіх частку да ўсясьветнага ўтульнага скарбу. У стасунку з гэтым яны разьвязваюць нацыянальнае пытаньне, даючы кожнаму народу можнасьць «вольна разьвіваць свае духоўныя сілы і здольнасьці».

Пры сьвеце вот гэтых данных становіцца ясна, што ўсялякіе перашкоды, наўмысьля пастаўленые на дарозе разьвіцьця мовы, адбіраюць у народу самабытнасьць, сковываюць і гасяць мысьлі народу, яго творчые сілы, нівеліруюць яго жывую душу. Калі ж такая дэнацыяналізацыя праводзіцца ў пачатковай народнай школе, творыцца злачынство, якому, па пагляду прафэсара Расалімы, няма найменьня. Мова ёсьць самы жывы, самы багаты і моцны зьвязак, злучаючы ўжо аджыўшые цяпер і будучые пакаленьні ў адно вялікае гістарычнае цэлае.

Яна ня толькі паказвае жывучасьць народу, але і ёсьць гэта самае жыцьцё. Калі памерла народная мова, народу болей няма! Покуль жыве мова народная ў вуснах народу, датуль жыве і народ. І няма гвалту большага і страшнейшага, як той, які хоча адабраць у народу яго спадчыну, створаную нясчысьленымі пакаленьнямі аджыўшых продкаў. «Адбярэце ў народу ўсё, і ён усё верне, але вазьміце мову, і ён ніколі ня створыць яе; новую бацькаўшчыну можа стварыць народ, а мовы ніколі. Памерла мова ў вуснах народу — памёр і народ. Але калі душа чалавечая дрыгацьме перад забіцьцем аднаго недаўгавечнага чалавека, то што яна павінна пачуваць, калі пасягаюць на жыцьцё векавечнай гістарычнай асобы народу, гэтага найвялікшага з усіх твораў Божых на зямлі?» — пытае вялікі пэдагог Ушынскі. І маўчаць творучые гэты гвалт над беларускімі дзяцьмі ў такім росьце, калі працэс словастварэньня ў іх ня кончыўся, калі яны ня маюць вялікага запасу прадстаўленьняў і паняцьцяў.

На першых жа лістох лепшых буквароў дзеці сустракаюць большую палавіну незразумелых слоў, а то і ўсе, як, напрыклад, «ау, сор, шар» і інш.

А далей лік такіх слоў і зваротаў расьце, творучы новые перашкоды ў справе навучаньня дзяцей на чужой мове.

Вучыць дзяцей з малых дзён мове, а тым болей даваць ім навуку ў незразумелай мове, — гэта значыць забіваць прыродные нахільнасьці і здольнасьці дзяцей, вясьці па крывой дарозе, заміж простай, на якой жыцьцё ім прысудзіло ісьці.

Зразумелі гэта навет кітайцы: у новых пачатковых школах забаронена вучыць чужые мовы, бо гэта забівае прыродные здольнасьці вучняў.

Ды няма ніякай можнасьці адзяліць школу ад вучня, ад яго прыроды: здаволіцца адным няжывым перадаткам знаньняў настаўнік ня можа па

самай уродзе асьветы, якая зьвязана з гадаваньнем. А таму і мэта ў іх адна: «не перамяніць чалавечую натуру, а злажыць найлепшые варункі дзеле нармальнага разьвіцьця душы дзіцяці ў поўнай гармоніі з псіхафізычнай прыродай данага індывідууму і яго саматворчасьці».

*Вольны [М. Каспяровіч]*

*Друкуецца паводле газ.: Беларусь. 1919. 8 лістап.*

## БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЬНАЙ РАДЗЕ МЕНШЧЫНЫ

*Інфармацыя-атчот інструктара Ігуменскага павету Залужскага*

*Студня 17 дня 1920 году*

Школьная справа ў павеце стаіць вельмі дрэнна. Перш-наперш затым, што настаўнікі саўсім несвядомы ў беларускім руху, у беларускай справе, гэтак сама затым, што і насяленне, несвядомае ні ў чым беларускім, вядзецца тымі расейскімі настаўнікамі за ўсім расейскім. Далей ёсць у павятовых школьных урадах «гаспада», каторыя стараюцца ўсімі сіламі тармазіць адчыненне беларускіх школ і не хочуць прымаць іх на скарбовыя ці земскія кошты. Так, у вёсцы Дзерць (Пухавіцкай воласці)[1] у беларускай школе ёсць 67 вучняў, а яна і дагэтуль не прынята на земскія кошты. Таксама і першая пачатковая школа да майго прыезду саўсім не лічылася школай з пагляду «господ» з кураторыума, настаўніца, змучаная голадам, хацела ўжо ехаць да хаты. У вёсцы Падвалошкі[2] ў м[есяцы] кастрычніку сяляне па ініцыятыве настаўніка Бабіновіча зрабілі пастанову аб адкрыцці замест былой расейскай беларускую, але, дзякуючы настаўніцы другога камплекту, зноў школа перайшла на расейскую, а Бабіновіч астаўся без школы затым, што яго камплект, адчынены савецкім урадам, зачынены палякамі. Нават на настаўніка Баб[іновіча] данесла павятоваму старасце, каторы ўзяў яго пад апеку жандармерыі і г. д. Усюды вот гэтакія абразы па павеце, усюды бэсціцца ўсё беларускае, з аднаго боку — «господами», а з другога — панамі, а насяленне чакае... чаго? Гэта другі раз скажу.

Як прыехаў у Ігумен, я перш-найперш затрымаў настаўніцу беларускай школы, даўшы ёй дапамогу 50 руб. Зарэгістрыраваў павятовую раду, каторая была заложана Каспяровічам, адчыніў беларускую школу у с. Астравок, перавёў туды настаўніцу з Ігуменскай школы ў Астравы (Граб[ён-

---

[1] Вёска Дзерць паводле сучаснага адміністрацыйнага падзелу знаходзіцца ў Грабянецкім с/с Чэрвеньскага р-на.

[2] Вёска Падвалошка цяпер у Паплаўскім с/с Бярэзінскага р-на.

скай] вол.). I, паехаўшы ў павет, збіраў сходы ў вёсках: Турыне і Угольцы, Лучное, Пальчык і Дзерць Пухавіцкай воласці, Трохгранны Дуб Якшыцкай вол., Палянкі, Равецкі Бор, Клімовы Лог Хутарскай воласці, Астравы Грабёнскай воласці[3]. Па валасцях не было як ездзіць затым, што павятовы стараста не даў пасведчанняў ні на падводы, ні на права збірання сходаў, і ўсе сходы рабіліся толькі з майго ведама. Ехаць у Менск, як гаварыў мне павятовы стараста, і даставаць пасведчанне ад Рачкевіча[4], абіваючы яго парогі, як я абіваў яго цэлых чатыры дні, я не лічыў патрэбным. Матэрыяльнае становішча настаўнікаў беларускіх школ цяжкае, але цяпер як найхутчэй трэба ехаць і трымаць за вушы куратара земскага т. Булгака, каб усё ж такі хоць на 1920 год прыняў школы беларускія на земскія кошты.

Ніякіх арганізацыяў, як культурных, так і другіх саюзаў, не было зложана затым, што павятовы урад не даў права збіраць сходы. За якія можна было папасці ў квадратную кануру.

Больш пакуль што і ўсё ў школьных справах па павеце. Школы жадаюць адчыніць і Трохгранны Дуб Якшыцкай вол., Красная Слабада Якшыцкай вол., Палянкі, Равецкі Бор, Клімавы Лог Хутарской воласці, Кулікі Смілавіцкай воласці[5].

Інструктар па Ігуменскаму павету Залужскі.

*НАРБ, ф. 368, воп. 1, спр. 9, арк. 15—15 адв.*

## З ІНФАРМАЦЫІ ІНСТРУКТАРА В. ЗАЛУЖСКАГА Ў БНК МЕНШЧЫНЫ

*У арганізацыйны аддзел*
*Беларускага Нацыянальнага*
*Камітэту Меншчыны*

*Лютага 19 дня 1920 г.*

Заехаў у Ігумен добра і ўжо пачаў працу. Мыслю абхваціць шырокі раён. Успеў ужо быць у в. Аляксандраўцы Хутарскай воласці, дзе залажыў сельскагаспадарскае таварыства, і ў в. Красная Слабада Якшыцкай воласці, дзе пры прысутнасці рэвізійнай камісіі рабіў рэвізію каапературу і, зрабіўшы сход, выбраў прадстаўніка на з'езд 15 марта, папаў усім вядомы Вам

---

[3] Усе пералічаныя вёскі, апрача Турына і Угольцаў (Пухавіцкі р-н), — у сучасных межах Чэрвеньскага р-на.

[4] Рачкевіч Уладыслаў — пад час польскай акупацыі Беларусі генеральны камісар Усходніх зямель і камісар Мінскай акругі.

[5] Усе пералічаныя вёскі ў сучасных межах Чэрвеньскага р-на.

Мікола Каспяровіч. У самым Ігумені 17-га сядзеў цэлы дзень, хадзіў па ўрадах з сваімі дакументамі, на каторыя яны пісалі свае, і зрабілі ўціскі падобнага роду: 1) усе сходы павінны быць скліканы з паведамлення раённага н[ачальні]ка; 2) збіраць сходы забараняецца за граніцай франтавой паласы; 3) сходы можна збіраць у кірунку нацыянальным, школьным, сельскагаспадарскім і кааператыўным, а ў культурна-асветным шэфам канцыляры і этапу забаронена. Заяў і паперак ад Нацыянальнага камітэту урады не прымаюць напісаных па-беларуску і прапануюць заўсёды пісаць вытлумачэнне, а вытлумачэнне Вы ведаеце пісаць як? Няхай яно трымя перунамі згараць з іх вытлумачэннем. Бо ведаеце, вучыцца гэтай [неразб.] цяпер надта цяжка. Зацверджаны настаўнікі Астраўской, Рудскай — (Кудзелька), Русаковіцкай — (Шэлех), Кармянскай — (Матэйчук), Дзерцяўскай — (Макась), с. Астравы Граб. вол. (Харытановіч), а ў самым Ігумене настаўніка няма, і з гэтым пасылаю да вас трэбаванне настаўніка. Цяпер еду ў раён Пухавіцкай, Навасёлкаўскай і Амельнянскай воласці. Буду ў Мар'іна-Горскай гаспадарскай школе!!! Пра[д]стаўнік будзе! Ваша толькі праца зрабіць яго беларусам, так прыбудзе вялікая культурная і свежая сіла!.. Другіх болей талковых пакуль што не маем...

*Залужскі*
*19/II.1920 г. м. Ігумен.*

*НАРБ, ф. 368, воп. 1, спр. 9, арк. 16—18.*

## ПРОТОКОЛ
### обыска КАСПЕРОВИЧА Николая Ивановича от 29.VI.1930 г.

При обыске изъято: 1) удостоверение личности, выданное БАН за № 27, и командировочное удостоверение; 2) журнал «Революция и национальности»; 3) конспект для доклада «О задачах краеведения» на 26 календарных листках, на которых наклеен машинописный текст; 4) книжка «Труд деревенских ребят»; 5) программа «Изучение быта деревенских детей» на 32 стр.; 6) отчет о собирании детских игр на 29 стр.; 7) заметка о дореволюционном русском краеведении на 5 стр.; 8) чистая тетрадь; 9) программа этнографического изучения колхозов; 10) разная переписка на 5 стр. (одна открытка).

## АНКЕТА
### [арыштаванага]

КАСПЕРОВИЧ Николай Иванович

родился: дер. Изабелево Пуховического р-на 30.V.1900 г.

окончил Высшие курсы народоведения; научный работник, учился в г. Червене.

1907—1919 — учился в дер. Вязовка[1] Червенского уезда.
1919—1920 — учился в Учительском институте.
1920—1921 — инспектор Наркомпроса.
1922—1923 — инспектор школ Слуцкого уезда.
с 1926 — научный сотрудник БАН.
Арестован в Орше 20.VII. [так у тэксце. — *А. К.*]

*Архіў КДБ РБ, спр. 20951-С, т. 1, арк. 216.*

## З ПАКАЗАННЯЎ М. І. КАСПЯРОВІЧА на следстве па справе «Саюза вызвалення Беларусі» (1930 г.)

Да, я по существу был членом СВБ. В контрреволюционную национал-демократическую организацию я [вступил] приблизительно с весны (точно не помню) 1928 года. Оформление меня состоялось таким образом. Ластовский пригласил меня в кабинет к себе и после беседы по разным вопросам заговорил о распыленности белорусских культурных сил, о том, что они не дружны и т. д., как будто подчеркивая и мою вину в этом. В дальнейшей беседе он сказал, что дело не в названиях, организационных формах и прочее, а в существе, и что если я хочу работать именно организованно, то должен делать все, советуясь с ним, тем более что он непременный секретарь ИБК. Я согласился, хотя и понял, что речь идет о нелегальной какой-то организационной работе. Весной 1928 года я как-то раза два был у Ластовского на дому, где мы говорили о моей работе над темой о волотах, и я слушал его стихи. После этого он мне сказал, что мне не следует бывать у него. Это меня окончательно убедило, что я вовлечен в нелегальную работу, и я не протестовал.

...Узнав о моей заинтересованности редкими книгами, Ластовский высказал идею организации всебелорусского общества библиофилов, устав которого был составлен так, что мог служить целям пропаганды любви к белорусской старинной книжке. Я организовал общество, председателем которого был избран Щекотихин, но общество своей деятельности не проявило.

Содержание краеведческой работы рассчитывалось на возбуждение националистической любви к прошлому Белоруссии и ее настоящему — история, язык, фольклор, быт, археология и т. п., а также на утверждение полной преемственности прошлого и настоящего. Даже инструкция по изучению революционного движения в известной мере способствовала этому.

Вся работа краеведческой сети была рассчитана на воспитание краеведов, а через них и более широких масс в нацдемократическом духе. Ко всему этому специальной ролью краеведческой сетки БССР было представление нацдемократической науке нужных ей фактов, а также облегче-

---

[1] Мабыць, памылка ў назве вёскі Язоўка (Язовка) Калодзежскага с/с Чэрвеньскага р-на.

ние работы местных нацдемократов. Приезжающим краеведам с мест давались [у Цэнтральным бюро краязнаўства. — *А. К.*] ценные советы и разъяснения и почти всегда их препровождали к Ластовскому — диалектическая [мабыць, дыялекталагічная. — *А. К.*] комиссия, к Некрашевичу, Белькевичу — словарная комиссия, по линии которых краеведческая работа велась наиболее интенсивно. Там они получали наиболее детальные указания. В этом устном инструктаже нацдемократические тенденции проявили себя наиболее глубоко. Инструктор выезжал на места для инструктажа местных организаций, проводил там общие установки нацдемократического характера. Возвращаясь, инструктора посещали наиболее заинтересованные в краеведении учреждения БАН и информировали их об успехах краеведческой работы.

Моя отдельная книга «Краязнаўства» была также построена по принципу националистическому. Словом, все мои большие и малые работы имели националистическую целеустремленность, и все их Ластовский одобрял.

В 1928 году Ластовский предложил мне примкнуть к работе, которая бы сформировала культурное строительство Беларуси, придавала ему щиро белорусский характер и направляла его в общенациональное, а не классово-пролетарское русло... Я понял, что за Ластовским стоит другой мир, что мы не одни, а за известной мне работой по ЦБК и кафедрой этнографии стоит аналогичная работа других учреждений БАН, выполняемая другими лицами. Но об этом мы никогда не говорили, как и вообще о способах и формах национал-демократической работы в целом.

В кафедре этнографии я работал над темой о волотах, имевшей доказать исконность белорусов на территории этнографической Белоруссии и поэтизировать ее. Такая установка служила целям единого национального фронта и по существу была контрреволюционной. Моей научно-исследовательской работой Ластовский чрезвычайно дорожил. Он вообще говорил мне, что нужно стараться накопить побольше научных фактов и выводов, разумеется, национал-демократических, чтобы и сейчас ученому миру доказать право Беларуси на независимость и, в случае успеха, быть во всеоружии доводов. Работа о волотах форсировалась мной необычно, и я за год сдал Ластовскому вступление в нее, которое и пошло в очередном томе трудов кафедры. Моя отдельная книга «Краеведение» была также построена по принципу националистическому, а не классовому. В ней была выпячена краеведная работа «Нашей нивы» и незаметно перебрасывался мост от нашенивского краеведения к сегодняшнему.

*Архіў КДБ РБ, спр. 20951-С, т. 8.*

*Падрыхтоўка і каментарыі тэкстаў М. Касяровіча (псеўд. Вольны) і В. Залужскага Алесі Гесь. Публікацыя з архіва КДБ РБ Аляксея Каўкі.*

# НЕЗАБЫТЫЯ ТЭКСТЫ

## ЗАБЫЦЦЮ НЕПАДУЛАДНАЕ

Найперш — этнаграфічна-краязнаўчая справаздача М. А. Янчука. Тэксту больш за сотню гадоў, а дагэтага прываблівае глыбінёй, лагічнай збудаванасцю зместу, а галоўнае, шчырай заклапочанасцю лёсам занядбанага беларускага краю. Нешта значыць і занатаваны аўтарам на Ігуменшчыне ледзь чутны водгук у народзе нейкага эпічнага твора. Пры больш чым сціплых набытках нашае народнае эпікі няхай жа хоць гэты гераічны легендарны радок падварушвае, прыўздымае нашу даўнінную памяць — «Як узялі Мечыеньку каля Новай Нівы...». Пэўным чынам падштурхнула да ўзнаўлення гэтага твора і маё, ігуменца, нераўнадушша. Маскоўскі вучоны хадзіў, гаманіў з людзьмі ў ваколіцах майго дзяцінства, юнацтва — вёсак Хутар, Гарадзішча, Новая Ніва, невялічкае рэчкі Уса. Можна толькі пашкадаваць, што ў нядаўна выпушчанай у свет «Памяці» Чэрвеньскага раёна ані словам не спомнены ні знаны добра славянскаму свету этнолаг Янчук, ні яго ігуменскія замалёўкі. Ды і гожы, каларытны фотаздымак вядомага вучонага-народазнаўца толькі абагаціў бы ўнушальную ў згаданай кнізе фотагалерэю мясцовых партызан, даярак, свінарак, брыгадзіраў, настаўнікаў, спартоўцаў. Як не менш вабна глядзеўся б у тым самым радзе і здымак другога знакамітага вучонага-краязнаўца, карэннага ігуменца Міколы Касяровіча — таксама абдзеленага ўвагай у фаліянце чэрвеньскай «Памяці».

Зачакаўся, мяркуем, свае пары і артыкул Браніслава Тарашкевіча «Беларускія палітычныя пастулаты» (1920), якому чамусьці не знайшлося месца пад вокладкай «Выбранага» (1991) гэтага выдатнага вучонага, дзеяча-адраджэнца. Тэкст гэты прапаноўваўся намі яшчэ ў 3-м выпуску «Скарынiча», але вымушанае «ўшчупленне» рукапісу гадавіка, пасля нечаканага, не з нашае віны, «разводу» з выдавецтвам «Мастацкая літаратура», зашкодзіла здзейсніцца кнізе ў запланаваным аб'ёме. Затое цяпер, спадзяемся, да «поўнага» Тарашкевіча будзе крокам бліжэй. Відавочна артыкул

нясе ў сабе канкрэтныя адзнакі даўно прамінулага часу — пэўнага, як звыкла драматычнага, адрэзку на Беларускім вызвольным шляху. Але не лічым колішнія палітычныя развагі аўтара цалкам перагорнутымі гісторыяй старонкамі. Праблема дачыненняў Беларусі з бліжэйшымі і дальшымі суседзямі скрозь актуальная, на свой лад злабадзённая. Ці не сёняшнія рэаліі прадбачліва падкрэсліваў непахісны змагар-думаннік пан Браніслаў, засцерагаючы наступнікаў восемдзесят гадоў таму назад: «...узнікненне (і, дадайма, узмацненне. — *А. К.*) Беларускае дзяржавы — справа не толькі беларускага народу, але разам з тым справа Польшчы, Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі і ўсіх народаў, якія не могуць абапірацца толькі на свае ўласныя сілы. Не забывайма пра гэта ні ў вайну, ні ў мірным часе... Бо ўсе мы будзем зраўнаваныя ў няволі, калі не здолеем у вольнасці шанаваць правы іншых».

Чытачоў, а перадусім літаратараў, пэўне, зацікавіць артыкул Яўгенія Ляцкага, прысвечаны творчасці Максіма Багдановіча. Пра значны культуратворчы, не адно «фальклорны», уклад у беларусістыку вядомага рускага славіста, актыўнага арганізатара рускага, часткова і беларускага культурнага жыцця сярод эміграцыі ў даваеннай Празе нямала новага сказана ў публікацыі С. І. Міхальчанкі «Евгений Ляцкий. Материалы к биографии» (Брянск, 2000). Гэтай жа яркай постаці прысвечаны і грунтоўны артыкул светлай памяці Івана Цішчанкі «З думай пра Беларусь...» (Полымя. 1999. № 1), які ўслед за Васілём Хомчанкам закрануў літаратуразнаўчыя росшукі Ляцкага на абшары беларускага прыгожага пісьменства (пра творчасць Якуба Коласа).

Гэтым разам рускі вучоны паўстае перад намі ў якасці тонкага, праніклівага аналітыка спадчыны аўтара векавечнага «Вянка». З вышыняў сучаснага багдановічазнаўства, мабыць, не ўсе меркаванні крытыка прымуцца як бездакорныя. Мачыма, перабольшана ім думка аб залежнасці паэтычнай манеры беларускага Майстра ад Афанасія Фета або яго «вучнёўства» ў рускіх сімвалістаў; удакладнення вымагала б і праблема спалучэння ў паэтычнай стыхіі Багдановіча народна-лірычнага пачатку і ўласнага культурнага досведу, філіграннай тэхнікі творцы-прафесіянала. У галоўным жа, на наш погляд, Ляцкі пранікліва вычуў і своечасова звярнуў увагу еўрапейскага чытача на непаўторны, высокаэстэтычны і тым універсальны феномен Багдановічавай ліры. І зрабіў гэты высакародны крок — варта памятаць — пры даволі сціплых, пачатковых набытках міжнароднай беларусістыкі, пашырэннем якой у славянскім, заходнееўрапейскім свеце мы значна абавязаны нашаму знакамітаму земляку-менчуку. Італьянскі падрадкоўнік цытаваных у артыкуле вершаў Багдановіча заменены намі адпаведнымі фрагментамі арыгінала паводле Поўнага збору твораў паэта (Мн., 1992. Т. 1).

З тых самых, пераважна літаратуразнаўчых, меркаванняў змяшчаем лісты Максіма Гарэцкага да Л. М. Клейнбарта (захоўваюцца ў Інстытуце

рускай літаратуры РАН (Пушкінскі дом), копіі з якіх ласкава даслала з Санкт-Пецярбурга для «Скарыніча» Галіна Максімаўна Гарэцкая. Многае, відаць, скажуць даследчыку і звыкламу чытачу гэтых некалькі эпістaлярных старонак нашага светладумнага, высока-спагадлівай душы пісьменніка-пакутніка. Не можа не кранаць яго заступніцтва, у адным з лістоў, за сабрата па пяру, вязня Салаўкоў — Францішка Аляхновіча. Крок, як па тым часе татальнае слежкі і палітычнага сыску, даволі мужны — калі, да ўсяго, улічыць цяжкую навальнічную хмару, што ўжо згушчалася над галовамі беларускіх творцаў, грамадскіх, культурных дзеячаў з так званага «нацдэмаўскага» асяроддзя (гл. «Докладную записку» І. Апанскага ў раздзеле «З архіўных паліц»). Пазней, на крыжавых вёрстах аўтара «Руні» і «Дзвюх душ» ці трапіўся яму падобнае высакароднасці заступнік? Прынамсі, архівы на гэты конт пакуль што маўчаць.

Затым — невялічкі, але важкі, сэнсоўны тэкст А. Бужанскага — аб Іване Саланевічы, валанцёры расійскага манархізму, зацятым ворагу беларушчыны з ліку землякоў «тоже белaруссов» (з тых здавён прыслаўленых «костак» нашых, «сабачым мясам» аброслых). Памфлет узрушлівы, перакапальны і, мяркуем, не патрабуе спецыяльных удакладненняў. Апрача аднаго — сапраўднага прозвішча аўтара. За псеўданімам А. Бужанскі тоіцца не больш не менш як вядомы з часоў «Нашае нівы» крытык, публіцыст, бібліяфіл Рамуальд Зямкевіч. За гэтую ідэнтыфікацыю аўтара выказваем падзяку гісторыку Станіславу Рудовічу.

Украінскі тэкст «Визвольний рух Білорусі» (змяшчаем у арыгінале) даслаў нам малодшы калега з Кіева пан Віктар Дудко. Матэрыял, лічым, па-свойму унікальны: і месцам, і часам з'яўлення ў друку, і загадкавасцю асобы беларускага аўтара, стоенага за крыптанімам Х. Х. (увага, Янка Саламевіч!). Бясспрэчна, артыкул належыць пяру чалавека не проста дасведчанага ў беларускім пытанні, але не выключана — аднаму з непасрэдных арганізатараў нашага нацыянальнага руху. Не менш верагодна і тое, што трапіць за мяжу гэты матэрыял мог найхутчэй з Заходняй Беларусі (у БССР к таму часу людзі падобнае думкі былі ўжо вынішчаны дарэшты) альбо з беларускае эміграцыі ў Чэхаславакіі. Дадатковую значнасць артыкулу надае абнародаванне яго — ва ўкраінскім замежным друку; не багата пад той час гучала на Захадзе галасоў у падтрымку паняволенае Беларусі, зрэшты, як і самое сястры-Украіны.

Насустрач даследчыцкім пошукам-разважанням этнолагаў, гісторыкаў выходзіць артыкул Мікалая Шкялёнка «Аб нашым нацыянальным назове» (прапанаваным да друку А. М. Гесь). Як бачым, у славутага адкрывальніка «літоўскае» Беларусі, незабыўнага Міколы Ермаловіча былі дасведчаныя папярэднікі. Хаця яшчэ раней за Шкялёнка гэтую ж тэму так ці іначай закраналі Іван Насовіч, Язэп Лёсік і іншыя. Сутнасць пытання, наколькі разумеем аўтара артыкула, не ў замене сучаснае саманазвы «беларусы», на чым налягаюць некаторыя з нашых шчырых «літвінафілаў». Справа

ў чымсьці іншым — у веданні, павазе да ўласных каранёў гістарычных і, адпаведна, да свае нацыянальнае годнасці, якой у беларусаў, здаецца, ніколі не было залішне. Аб чым, між іншым, нагадвае літаратурна-навуковая спадчына М. Шкялёнка, падрыхтаваная да выдання асобнай кнігай стараннямі слонімскага краязнаўцы, нашага аўтара Сяргея Чыгрына.

І нарэшце — ліст Ірыны Зварыкі: жанрава нібы «выломваецца» з агульнага раду папярэдніх тэкстаў, але, лічым, сэнсава і сутнасна працягвае, завострана актуалізуе скразную нацыянальна-адраджэнскую ідэю, з беларуска-рускай састаўляючай. З чым іншым недалёкім палітыкам, заўзятарам прыяднання Беларусі да велікадзяржаўнае Расіі, на ўзроўні чалавечай этыкі і індывідуальнага нацыянальнага пачуцця, варта было б лічыцца. Тым болей што ў сваіх поглядах на праблему сапраўднага, не банкетнага, ўзаемаразумення і ўзаемапавагі паміж народамі абедзвюх краін спадарыня Зварыка, падазраём, далёка-далёка не адзіная і не адзінокая — ні ў Беларусі, ні ў Расіі.

*А. К.*

**Николай ЯНЧУК**

## ПО МИНСКОЙ ГУБЕРНИИ

*(Заметки из поездки в 1886 г. )*

Белоруссия, эта настоящая падчерица в семье славянских народностей, много потерпевшая от судьбы-мачехи, и до сих пор остается каким-то забытым, заброшенным краем, никого не интересующим и как будто не заслуживающим внимания. Не говорим уже о вопросах, касающихся администрации, экономического положения белорусского народа, судов, народного образования и т. п. Это вопросы такого рода, что ими не всегда удобно заниматься. Но удивительно, что даже отвлеченная наука, свободная от всяких заблуждений, сторонится этого края. Мы не знаем языка белорусов, мы не знаем миросозерцания белоруса, его религиозных воззрений, его взглядов на семью и родовые отношения, хотя беремся широко трактовать о какой-то народной религии, о народном праве, нередко навязывая нашему народу такие мысли и взгляды, от которых истинный представитель народа открещивался бы обеими руками.

[...] Если весь народ представляется нам таким образом какою-то жалкою единицею, которою всякий считает себя вправе помыкать, вовсе не зная его. А что касается Белоруссии, то мы, кажется, недалеко ушли от того времени, когда греки, эти носители цивилизации, были убеждены, что всякий белорус обязательно должен один раз в году пробежать извест-

ное время по лесам в виде волка. Мы и теперь готовы представлять себе белоруса каким-то полудикарем, полузверем, живущим в лесу, и только наука способна пролить истинный свет на эту темную страницу нашего народоведения.

Но где же эта наука и каковы ее силы?

В 1886 г., благодаря поддержке некоторых лиц из Русского географического общества в С.-Петербурге, ему удалось командировать двух своих членов — К. Н. Икова и меня на летнее время в Белоруссию. Имея в виду изучение типа белорусской народности, ее особенностей в физическом строении, пополнить запас сведениями относительно народного быта белорусов, их обычаев, образования, мировоззрения, а также языка, что достигается личным ознакомлением с разговорным языком, а равно как точными записями песен, поверий, суеверий, обычаев и т. п.

Белорусы с незапамятных времен поставлены судьбою на перепутье между разными народностями: великорусами, малороссийцами, литовцами, — отсюда понятно, что в течение веков они претерпевали самые разнообразные влияния и смешения. Следить за всеми этими изменениями — значит, уяснить себе причины и условия образования видоизменяемых, так сказать вторичных и третичных, типов и наблюдать законы применения приспособления основного типа к известным условиям, представленным историей и культурою.

Археология... Все данные по вопросу о белорусах, какими располагает антропологический отдел Московского общества любителей естествознания, ограничиваются чуть ли не несколькими десятками черепов, раскопанных в Минской губернии и присланных гр[афом] К. Тышкевичем и Р. Игнатьевым на бывшую в Москве в 1879 г. антропологическую выставку. В нынешнем году Минский губернский статистический комитет предоставил в распоряжение общества около 30 черепов, добытых при раскопках в последнее время Г. Татуром и др.

Скажу прежде всего о проведенных мною раскопках. Первую более продолжительную остановку я сделал в Игуменском уезде в Юревической волости. Там, на берегу речки Усы, под лесом, есть урочище под названием Городище, а при нем курганы. Оно представляет из себя довольно большой окоп, с одной стороны круто спускающийся к речке, имеющий в своем вале два входа, или въезда, с востока и запада, и окруженного рвом. Внутренняя его площадка была некогда заросшая лесом, но крестьяне, посланные помещиком на городище, срубили лес, землю вспахали, в валу настроили погребов; курганы также большей частью раскопаны. При пахании площади городища, по рассказам, находили немецкие монеты 1-й половины XVIII в., большие, довольно оригинальные стальные шпоры, черепки посуды толщиною в палец и притом иногда с признаками лепки без помощи гончарного станка, наконец множество железного нагара, по местному *дзындры*, и еще какие-то вещицы небольшие, немного сплюс-

нутые шарики из обожженной глины, вроде огромных бус, с дырой посредине. Из этого видно, что здесь остались следы разных эпох, как более древнего, так и более позднего времени. В особенности загадочны эти шарики. Их находили исследователи и в других частях Белоруссии, напр., в Витебской губернии; по поводу их высказывались различные мнения: принадлежность рыболовных сетей (что вряд ли вероятно, так как шарики слишком легки); принадлежность наряда языческих жрецов, а может быть, и простых смертных, наподобие того, как теперь цыгане увешивают себя разными костями и т. п. бубенцами. Местный священник, почтенный старичок, проживший едва ли не все время своего священства в этом приходе, настаивает на том убеждении, что по народному преданию на месте Городища было некогда языческое капище; то же самое, вероятного догадке батюшки, утверждают и местные крестьяне. Умерший лет десять назад в глубокой старости крестьянин Ковган рассказал, что он слышал от своего деда, будто окоп на Городище устроен был каким-то князем Мечеем, который защищался в нем вместе со своей дружиной против другого князя, но не устоял и был взят в плен. Об этом сообщении прежде была известна даже песня, но теперь ее никто не знает, а сам Ковган помнил только начало:

Як узялі Мечаеньку
Каля Новай Нівы...

Новая Нива — ближайшая деревня. Кто такой этот Мечей и с кем он воевал, достоверно нельзя сказать. Может быть, он даже не был владетельным князем, а только простым предводителем известного отряда, превратившегося в народном предании в князя. Хотя, с другой стороны, мало ли было русских и литовских князей и князьков, имена которых не записаны на страницах истории? Все они когда-то жили и действовали, воевали и мирились, а мы ничего не знаем об их жизни. Жители местностей, ознаменованных их деятельностью, хранили некоторое время в своем предании их имена, но мало-помалу и этот источник истории иссяк, прежде чем какой-нибудь ученый успел им воспользоваться. И сколько таких преданий гибнет безвозвратно!

Со своей стороны я бы предложил догадку, не скрывается ли под Мечеем какой-нибудь Мечислав, или же украинский Нечай. Раскопки самого Городища, может быть, бросили бы какой-нибудь свет на этот темный вопрос, но для этой работы у меня не было достаточных средств и при том не хотелось бы вводить в убыток крестьян, засеявших площадь Городища.

Я должен был ограничиться раскопками вблизи лежащих курганов; три из них были у самого Городища, еще два — в лесу. Что они довольно стары, свидетельствовало то, что на них успел отжить свой век такой многолетний [«жилец»] как дуб. Известно, как сами крестьяне объясняют про-

исхождение курганов, или *копцов,* как их называют белорусы Минской губернии. Большинство курганов, по мнению народа, осталось от разных войн, в них зарыты тела убитых воинов, но есть и такие курганы, которые ссыпались над телами отдельных умерших в мирное время. В старину, говорят крестьяне, когда наши прапрадеды были еще не крещенными, каждый родственник на могилу носил землю каждый год, при совершении поминок, — то же самое в протяжении нескольких поколений, пока память об умершем не успевала сгладиться. Чем больше было у покойника родственников, тем большим выходил курган. Когда же умирал большой пан или князь, то данная обязанность лежала не только на родных и близких, но на всех ему подвластных: отсюда — чем богаче и представительнее был покойник, тем внушительнее оказывался «копец», и здесь вторая причина в различии курганов.

Во всем этом есть значительная доля правды, когда эти насыпи были единственными памятниками славы предков. И теперь белорусы через год после чьей-нибудь смерти совершают так называемые *прикладины*, т. е. кладут на могилу доску, иногда с выгибом, чтобы она обхватывала могилу, как седло, что, может быть, находится в связи с предполагаемым обычаем присыпания.

Все эти рассказы о курганах и о самом Городище еще более подогрели мое любопытство, и я разрыл три кургана. В каждом из них оказалось по одному человеческому скелету, чему крестьяне немало удивились: они были уверены, что эти курганы от какой-нибудь войны и что в каждом зарыто несколько человек. Возможно, это могилы полководцев состоявшейся битвы, так как двое помельче курганов были уже распаханы. Странно только одно, что в курганах не оказалось никакого оружия, кроме остатка небольшого ножа с костяной ручкой; кроме того, из вещей было найдено только одно серебряное, плетеное, неспаянное колечко и больше ничего. Добытые черепа — слишком низкий и притом довольно покатый лоб с сильно выдававшими вперед бровными костями; вряд ли это белорусский лоб.

[...] Трудно было бы определить тип белоруса — тем более что название «белорус» книжное, сочиненное, а сами белорусы никогда не называют себя белорусами. В народе существует только подразделение на русских и поляков, но не следует думать, что эти различия основаны на национальности; это деление — по вероисповеданию. Всякий белорус-католик считает себя поляком и наоборот, православный считается уже русским, к какой бы национальности он ни принадлежал. Правда, иногда и исследователи склонны к такому неправильному отождествлению (напр., Р. Ф. Эркерт).

Язык, каким говорят дома, — но и он нередко подводит при установлении национальности. Например, мещане большей частью говорят по-польски, с другой стороны, мелкая польская шляхта, живущая среди крестьян-белорусов, говорит очень часто по-белорусски.

Другое затруднение, что на местном языке нередко смешиваются названия Белоруссии и Литвы, белорусского языка и литовского, т. е. по старинной памяти о тех временах, когда Белоруссия составляла одно целое, *все белорусское называлось литовским* [курсив наш — *А. К.*]. Спроси, например, какую-либо мещанку, кто она такая? — Polka, — ответит она вам. Откуда родом? — z Litwy. Как говорят дома? Po-litewsku. Между тем, по наведению справок выясняется, что ни сама она, ни ее родные ни слова не понимают по-литовски, а исключительно говорят по-белорусски.

## ПЕСНІ ВЁСКІ ЮРАВІЧЫ ІГУМЕНСКАГА ПАВЕТА, ЗАПІСАНЫЯ МІКАЛАЕМ ЯНЧУКОМ*

### Каляды і шчадроўкі

А ў полі, полі зялёна ёлачка,
Святы вечар — зялёна ёлачка.
Пад тою ёлачкай — зялёна далінка,
А на той далінцы вараны конь ходзіць,
А на том кані — залатое сядзельца,
А на том сядзельцы — залатое стрэменца,
А на тым стрэменцы — малады панічык,
А на тым панічыку — вішнёвая шапачка,
А на той шапачцы — чырвоная кветачка,
А на той кветачцы — яровая пчолачка.
То не кветачка — яго дзеванька.
Мне з кветачкаю толькі дзень быці,
А з жоначкаю трэба век жыці,
Святы вечар — трэба век жыці.

### Масленічныя

Я маладзенька не ўгадала
Ці было лета, ці не было,
Мамка на вуліцу не пускала,
Ў каморачку замыкала,
А ў каморачцы — акенечка,
А на акенечку — кватэрачка,

* Запісы падаюцца ў сучаснай арфаграфіі *(заўв. укл.)*.

А я выб'ю вакенечка,
Зірну, гляну на вулічку —
На вулічцы дзеўкі ходзяць,
Дзеўкі ходзяць і гуляюць,
А мой нялюбы перад водзіць,
А бадай ён таночку не зводзіў,
Як я вяночка не знасіла.

* * *

Кароўка мычэ — вясну клічэ,
Волік бушуе — вясну чуе,
Курка кудах — есці хоча,
Дзеўка плача — замуж хоча.
Не мыч, кароўка, намычышся,
Не плач, дзеўка, нажывешся.

**Велікодная**

У гародзе за клеткаю
Расла ружа з кветкаю, —
Хто ж тую ружу шчыпаць будзе?
Малада паненка зашчыпала,
Зашчыпала, у рукавец клала,
З рукаўца брала, к ліцу раўнавала.
Каб маё ліцо да такое было,
Не пайшла б я за багатага,
А пайшла б я за сенатара,
Што з коніка не ссядае,
Мяча з плеч не скідае,
Пуховай шапкі не знімае.

*Труды этнографического отдела Императорского общества любителей естествознания, антропологии и этнографии. Мн., 1989. Кн. IX.*

Браніслаў **ТАРАШКЕВІЧ**

# БЕЛАРУСКІЯ ПАЛІТЫЧНЫЯ ПАСТУЛАТЫ

«Пра Літву, дальбог, менш ведаю, чым пра Кітай!» — выхваляецца ў «Дзядах» адзін элегант з зямель Кароннай Польшчы. Сто гадоў мінула з таго часу, прагрэс культуры і цывілізацыі гэтак палегчыў абмен думкамі і камунікацыю ўсялякага роду, што сёння ўжо карэнны паляк, напрыклад, сярэдні варшавянін, пра Літву ведае напэўна крыху болей, чым пра Кітай, а гэта таму, што... пра Кітай не ведае нічога; пра Літву ж, у кожным выпадку, ён чуў прынамсі хоць сёе-тое: літоўская унія, «Літва, мая айчына!» ды колькі іншых паўсвядомых вобразаў і думак з далейшае ці бліжэйшае мінуўшчыны, а ў гэтыя дні Літоўская тарыба, Літоўска-беларускі фронт — усё гэта нейкае далёкае, нецікавае. І гэта нягледзячы на столькі стагоддзяў супольнае з тою «Літвою» гісторыі, нягледзячы на так шчодра пралітую якраз на той Літве кроў польскіх жаўнераў!

А тыя, хто браў удзел у кампаніі на Літоўска-беларускім фронце, маглі пазнаць той край бліжэй і дакладней, але дзеля адсутнасці агульнае тэндэнцыі грамадства ў тым кірунку яны часам задавольваліся азнаямленнем з «польскім таварыствам на крэсах».

Можна, аднак, усё гэта прабачыць сярэдняму грамадзяніну, які не займаецца палітыкаю, але недаравальным грэхам, які выклікае нябесную помсту, ёсць тое, што гэткае няведанне ў справах такое вялікае важнасці, звязаных з самім існаваннем Польшчы, сустракаецца сярод людзей, якія прафесійна займаюцца палітыкай. Яшчэ нядаўна можна было пабачыць паслоў, журналістаў, якія мелі ў гэтых адносінах вельмі невыразныя гістарычныя і геаграфічныя ўяўленні. Такую раскошу можа дазволіць сабе хіба толькі Лойд Джордж!

Часам не маюць нават дакладнага ўяўлення, што гэта такое тая Літва, забываюцца, што паняцце гэтае ахоплівае сабою ўсю Беларусь, краіну з 10 мільёнамі насельнікаў, краіну з тэрыторыяй, большаю за шмат якія еўрапейскія краіны, забываюцца, што беларуская мова была дзяржаўнаю моваю Вялікага княства Літоўскага, моваю Ягайлы і Літоўскага статута — і гэта ў тую гістарычную хвіліну, калі беларускі народ зноў абуджаецца да палітычнага жыцця, імкнецца адбудаваць страчаную дзяржаўнасць і шукае дапамогі і падтрымкі ў сваіх суседзяў, звязаных з ім супольным лёсам.

Першым крокам да збліжэння народаў павінна стацца як мага лепшае ўсебаковае і аб'ектыўнае іх узаемнае пазнанне.

Мэтаю гэтага артыкула ёсць кароткае азнаямленне з пастулатамі беларускага палітычнага руху, бо польскае грамадства ў гэтай справе, апроч урыўкавых, часта памылковых і нават аблудных звестак, ніякае інфармацыі не мае.

* * *

Беларускае нацыянальнае адраджэнне натуральным парадкам павінна было абудзіць да жыцця і беларускую палітычную думку. Першыя крокі гэтае палітычнае думкі былі незвычайна смелыя і шырокія. Яшчэ панавала ўсеўладарна царская цэнтралісцкая Расія, а ўжо ў 90-х гадах Беларуская сацыялістычная Грамада[1] высунула праграму незалежнасці Беларусі ў федэратыўным саюзе з этнаграфічнай Літвою, з супольнай сталіцаю ў Вільні. Ужо тады было зразумела, што толькі разам з іншымі заняволенымі народамі Беларусь можа адваяваць сабе права на свабоду і толькі ў блізкім саюзе з імі тую свабоду захаваць.

1905 год падмануў на той час надзеі на лепшае заўтра народаў, што стагналі пад ярмом царскае няволі. Рэвалюцыя была растаптаная, а з ёю растаптаны быў і ўсялякі палітычны рух. Аднак з гэтага вызвольнага перыяду Беларусь вынесла тую неацэнную карысць, што дамаглася права на свой друк у роднай мове.

З таго часу беларусы выдаюць свае часопісы, друкуюць кніжкі, могуць адкрыта весці нацыянальную працу над усведамленнем народа. Незвычайна хутка развіваецца беларуская літаратура, літаратура беларускіх паэтаў-песняроў, якія выйшлі з народа і здолелі прамовіць да душы гэтага народа такімі зразумелымі словамі і свойскімі вобразамі.

Гэтая нацыянальная літаратурная творчасць, культурная і асветная праца сярод народа і для народа засеялі зерне абуджэння нацыянальнае свядомасці, якое ўжо неўзабаве мелася зазелянецца палітычным коласам на беларускіх палях, узараных сусветнаю вайною.

Выбух рэвалюцыі 1917 года зрынае царызм, а разам з ім рассыпаецца ў пыл гліняны калос Расійскае імперыі. Пад абломкамі і руінамі вымалёўваюцца абрысы новых нацыянальных утварэнняў, якія воля свабодных народаў хоча ўзвесці на руінах гэтай «турмы народаў». Абрысы тыя не аднолькава выразныя, не ва ўсіх аднолькава моцная воля — усе, аднак, непахісна пастанавілі не вяртацца ў тую турму.

То ж і беларускія арганізацыі адразу пасля рэвалюцыі пачынаюць энергічную палітычную дзейнасць. Ужо ў сакавіку 1917 года ў Менску адбыўся з'езд беларускіх грамадскіх дзеячаў, які выбраў Беларускі нацыянальны камітэт і выслаў дэлегацыю да тагачаснага Часовага ўрада кн. Львова. Прэм'ер прыняў дэлегацыю з кіслай мінай, нягледзячы на тое, што петыцыя мела хутчэй нацыянальна-культурны, чым палітычны характар. Гэта яшчэ раз пацвердзіла бясспрэчную праўду, што трэба пакладацца толькі на арганізацыю сваіх уласных сіл.

І вось у красавіку Беларускі нацыянальны камітэт склікае другі з'езд, у якім бяруць удзел беларускія палітычныя арганізацыі і партыі. Як выка-

---

[1] Памылка: Беларуская сацыялістычная грамада (напачатку Беларуская рэвалюцыйная грамада) утворана ў 1902 г. (Тут і далей заўвагі ўклад.).

навучы орган гэтага з'езда ўзнікае Цэнтральная рада беларускіх арганізацый і партый. У кастрычніку 1917 года трэцяя сесія Цэнтральнае рады аднагалосна падкрэсліла неабходнасць неадкладнага стварэння беларускай нацыянальнай дзяржаўнай інстытуцыі, што было таксама прызнана з'ездамі беларусаў-вайскоўцаў: Заходняга фронту ў Менску (18—24.X.1917), Паўночнага ў Віцебску (15—20.XI.1917), Румынскага ў Адэсе (5—8.XII.1917) і Паўднёвага ў Кіеве (5—6.XII.1917). Да гэтае рэзалюцыі далучыўся цэлы шэраг стыхійных беларускіх грамадскіх з'ездаў: Усебеларускі з'езд беларускіх арганізацый бежанцаў у Маскве[2], настаўніцкія і кааператарскія з'езды ў Смаленску, Полацку і іншых гарадах і мястэчках. Беларускі нацыянальна-палітычны рух з таго часу набыў магутную рухавую сілу ў шырокіх масах, і бальшавіцкі цэнтралізм не ў стане яго ўстрымаць. Наадварот, у пэўнай ступені беларускі рух выяўляецца як здаровая рэакцыя супраць гэтага цэнтралізму.

У выніку прыгаданых вышэй грамадскіх і вайсковых з'ездаў Цэнтральная рада беларускіх арганізацый і партый ператвараецца ў Вялікую Беларускую раду, пры якой як аддзел узнікае Цэнтральная вайсковая рада. Гэта была інстытуцыя, якая яднала вакол сябе ўсе мясцовыя беларускія элементы, але прадстаўляла іх даволі выпадкова і нераўнамерна.

Гаворка ж ішла пра стварэнне такога органа, аўтарытэт і павага якога не падлягалі б ніякаму пярэчанню. Таму Вялікая рада прыступае да склікання Усебеларускага кангрэса. Ён меўся адбыцца пасля правядзення выбараў ва ўсе земствы на Беларусі, а справа кангрэса і адпаведных мандатаў абмяркоўвалася на земскіх сходах. Скліканы ў Менску Усебеларускі кангрэс распачаў сваю працу 28 снежня 1917 г.[3] У ім узялі ўдзел усе без выключэння земствы (губернскія, павятовыя і гмінныя), усе самаўрадныя, бежанскія і кааперацыйныя арганізацыі — разам 1167 дэлегатаў з вырашальным голасам[4]. Гэта было неўзабаве пасля бальшавіцкага перавароту. Бальшавікі яшчэ не чулі пад сабою моцнага грунту і не здолелі перашкодзіць скліканню кангрэса. Толькі калі, нягледзячы на арышты і пагрозы расстрэлу, кангрэс аднадушна заявіў аб суверэннасці беларускага народа, абвясціўшы Беларускую Народную Дэмакратычную Рэспубліку ў этнаграфічных межах (31 снежня 1917 г.) і калі пасля гэтага была выбраная Рада Рэспублікі, якой з'езд перадаў усе свае паўнамоцтвы аж да склікання Беларускага Устаноўчага сойма, тады бальшавікі ўвялі ў залу пасяджэн-

[2] Недакладнасць у назве з'езда: Усерасійскі з'езд бежанцаў з Беларусі (ліпень, 1918).

[3] Усебеларускі з'езд (кангрэс) працаваў 7(20) — 18(31) снежня 1917 г.

[4] Паводле мандатнай камісіі з'езда агульная колькасць дэлегатаў, з улікам 705 асобаў з правам дарадчага голасу, складала лічбу 1872.

[5] Дакладная назва абвешчанага З'ездам органа ўлады: Усебеларускі Савет сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў.

няў войскі і пасля некалькіх гадзін супраціўлення дэпутатаў здолелі з'езд разагнаць, а віднейшых асоб арыштаваць.

Надышоў час мірных перамоваў у Брэсце, а разам з імі да Менска набліжалася нямецкая акупацыя. Бальшавікі ў перапудзе ўцякалі ў Смаленск. Тады Рада Рэспублікі (дапоўненая прадстаўнікамі нацыянальных меншасцяў — палякаў і жыдоў), хочучы ўзяць у свае рукі ўладу ў краі, стварае Народны Сакратарыят (пасля перайменаваны ў Раду Народных Міністраў).

Аднак і нямецкія акупанты намагаліся пазбавіць беларускі ўрад нават ценю ўлады: скарб быў канфіскаваны, цэлы шэраг сяброў вайсковых арганізацый і ўрадавых функцыянераў быў арыштаваны — увогуле, усімі сіламі імкнуліся перашкодзіць беларускай арганізацыйна-дзяржаўнай працы. Аднак разам з тым Рада Рэспублікі была захаваная ў якасці краёвага прадстаўніцтва, а ў канцы акупацыі беларусам нават пачалі перадаваць некаторыя галіны адміністрацыі (напр., школьніцтва).

Намеры нямецкае палітыкі ў дачыненні да Беларусі былі няпэўныя і невыразныя: з аднаго боку, дапускалася фікцыя беларускае дзяржаўнасці, з другога боку, захоўвалася лаяльнасць да брэсцкага трактата, г. зн. працягвалася падтрымка Расіі.

У кожным выпадку, улічваючы тагачасную сітуацыю, нямецкая акупацыя мела ўсё ж да пэўнай ступені дадатны ўплыў на развіццё беларускага руху, і гэта з двух меркаванняў.

Перш за ўсё, яна адсунула бальшавіцкую анархію аж за Дняпро і Дзвіну, а разам з ёю выкінула мноства прыблуднага чужога элементу, імпартаванага сюды ў ваенным часе з глыбіні Расіі, элементу, заўсёднай і асноўнай уласцівасцю якога ёсць тое, што ён паўсюль чуе сябе як дома і паўсюль у межах колішняга царызму бачыць «матушку Россию» незалежна нават ад самых розных грамадскіх перакананняў.

Другім станоўчым вынікам пашырэння нямецкае акупацыі на ўсход было тое, што яна такім чынам злучыла Меншчыну з Заходняю Беларуссю, што дало беларусам магчымасць аб'яднаць сілы і скаардынаваць працу. Толькі тады выявілася, бо дагэтуль з таго боку фронту не даходзіла ніякіх вестак, што на Віленшчыне і Гродзеншчыне пад час нямецкае акупацыі беларусы здолелі выканаць велізарную культурна-нацыянальную і палітычную працу. Адчыніліся беларускія народныя школы і настаўніцкая семінарыя ў Свіслачы, паспяхова развівалася беларуская выдавецкая дзейнасць; узнік цэлы шэраг новых культурных і асветных устаноў.

У палітычных справах беларускія дзеячы ў Вільні, верныя старым ідэалам беларускага руху, стаялі на пазіцыях адбудовы беларуска-літоўскае дзяржаўнасці. Таму на канферэнцыі прадстаўнікоў Віленшчыны і Гродзеншчыны, якая адбывалася ў Вільні 25, 26 і 27 студзеня 1918 года, яны выказваюць патрабаванне, каб акупаваныя беларуска-літоўскія землі ўтварылі незалежную суверэнную дэмакратычную дзяржаву, складзеную з дзвюх галоўных аўтаномных нацыянальных тэрыторый: беларускай і літоўскай, у найшчыльнейшай еднасці з незалежнаю Латвіяй з той умо-

ваю, каб правядзенне ў жыццё гэтых пастулатаў належала сойму Беларусі і Літвы, скліканаму ў Вільні на падставе ўсеагульнага, беспасярэдняга, таемнага, роўнага і прапарцыянальнага галасавання паводле нацыянальных курыяў.

Дазволю сабе тут падаць яшчэ два ўрыўкі з рэзалюцыі гэтае канферэнцыі: адзін, што датычыць лёсу рэшты беларускіх зямель, і другі — стаўлення канферэнцыі да Тарыбы.

«Канферэнцыя патрабуе, каб — у імя права на непадзельнасць раз'яднанага лініяй фронту беларускага народа і ў імя еднасці ўсіх літоўска-беларускіх зямель— да памянёнае [вышэй] дзяржаўнае арганізацыі, якая заўсёды складала ядро Вялікага княства Літоўскага, была далучаная і рэшта беларускіх зямель як частка да цэлага. У сувязі з гэтым канферэнцыя звяртаецца да замежных беларусаў з гарачым заклікам аб змаганні супольнымі сіламі за згаданае ідэі».

«Канферэнцыя абвяшчае, што не лічыць за выраз беларуска-літоўскага голасу пастановы Літоўскае Рады (Тарыбы) і не прымае на сябе абвешчаных ёю палітычных абавязанняў».

Гаворка ідзе пра тое, што літоўцы, якія ўжо папярэдне былі дамовіліся з беларусамі, палякамі і жыдамі, абвясціўшы сваю згоду на дуалістычную дзяржаву з агульнай сталіцаю ў Вільні, атрымалі пасля з Берліна іншыя канкрэтныя прапановы і парушылі ўмову, маючы на ўвазе карысці, што выцякалі для іх з Брэсцкага трактата.

Савецкі ўрад, які ў тым трактаце разглядаў Беларусь не як пэўную цэласць, а як «ряд губерний Северо-Западной области», са спакойным сумленнем падзяліўся з Германіяй беларускімі землямі, аддаючы ім Віленшчыну і Гродзеншчыну.

Беларусы пратэстуюць супраць гэтага гвалту, учыненага над жывым народам бальшавікамі супольна з Германіяй. Рада Рэспублікі разам з прадстаўнікамі Віленшчыны і Горадзеншчыны абвяшчае поўную незалежнасць Беларусі на пасяджэнні ў ноч з 24 на 25 сакавіка 1918 г. і выдае наступную Грамату[6]:

«Год назад народы Беларусі разам з народамі Расіі скінулі ярмо Расійскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь; не пытаючыся народа, ён укінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускія. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і назалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржаваю. Самі народы Беларусі, у асобе свайго ўстаноўчага сойма, пастановяць аб будучых дзяржаўных звязях Беларусі.

[6] Тэкст 3-й Устаўнай граматы цытуецца паводле першаснага арыгінала, з захаваннем тагачасных лексіка-стылістычных асаблівасцяў дакумента.

На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя звязі, якія далі магчымасць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасці, што забівае на смерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсці ў адносіны з зацікаўленымі старанамі, прапануючы ім перагледзець тую часціну Берасцейскага трактата, якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую ўмову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласне Магілёўшчыну, беларускія часці Меншчыны, Горадзеншчыны (з Горадняй, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часці суседніх губерняў, заселеныя беларусамі.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі пацвярджае ўсе тыя правы і вольнасці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаны Устаўнай граматай ад 9 сакавіка 1918 г. [Тут ідзе гаворка пра наступныя пункты згаданага акту: 5. У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі абвяшчаецца свабода слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; безумоўная свабода сумлення, недатыкальнасць асобы і памяшкання. 6. У рубяжох Беларускае Народнае Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-персанальную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі. — *Б. Т.*]

Абвяшчаючы аб незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры здзейсніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы».

Такая пастаноўка справы ішла насуперак інтарэсам і планам Германіі, якая хацела забяспечыць сабе шлях з Прусіі на Украіну праз Гродзеншчыну (чыгуначная лінія Крулевец — Беласток — Бельск — Брэст), далучаную да Літвы — на той час саюзніцы Германіі — а таксама праз паўднёвую Меншчыну (водны шлях Нёман — Шчара — канал Агінскага — Ясельда — Прыпяць — Дняпро), далучаную да захопленай немцамі Украіны і занятую пераважна ляснымі абшарамі, вельмі прыдатнымі для эксплуатацыі. Таму, як ужо зазначалася вышэй, нямецкія ўлады чынілі ўсялякія перашкоды ў беларускім дзяржаўным будаўніцтве.

Аднак ідэя беларускай незалежнасці знаходзіла ўсё жывейшы водгук у шырокіх масах і сярод народнай інтэлігенцыі. Ваенная катастрофа і пераварот у Германіі дазвалялі спадзявацца арганізавання краёвай улады, былі нават спробы стварыць збройныя сілы, якія ў выпадку адступлення Германіі маглі б абараніць край ад бальшавіцкае акупацыі. Аднак з увагі на раззбраенне ў Каралеўстве Польскім і на ўкраінскія ўзброеныя выступленні немцы не толькі катэгарычна адмовіліся дапамагчы ў стварэнні антыбальшавіцкіх збройных сіл на Беларусі, але здушылі нават самастойную ініцыятыву і адступілі, аддаючы край на знішчэнне бальшавіцкім ордам. На другі дзень пасля заняцця Менска бальшавікі пасылаюць з Бела-

русі некалькі цягнікоў з харчамі як «подарок для красного Петрограда и Москвы». Неўзабаве цэлая навала «спекулянтаў» з Масквы, Петраграда і іншых расійскіх гарадоў запаланіла Беларусь, вывозячы адтуль рэшткі харчоў у глыб савецкага раю. Вайсковыя рэквізіцыі і рабункі, гаспадаранне камісараў дапаўняюць карціну бальшавіцкага панавання на Беларусі. Праз некалькі месяцаў амаль па ўсім краі ўспыхваюць шматлікія сялянскія хваляванні, а пасля і арганізаваныя паўстанні беларускай «зялёнай арміі», якія нямала прычыніліся да поспехаў польскае зброі на тым фронце.

Беларускі селянін, які ніколі не ведаў маскоўскай «общины», які быў і ёсць цвёрдым прыхільнікам індывідуальнае гаспадаркі і валодання зямлёю «ва ўласнасць» — ніколі не пагодзіцца на камуну, не верыць у яе магчымасць, ён прынцыповы вораг камуністычнага ладу (ці лепш сказаць няладу) і панавання камісараў. Пасля дасведчанняў страшэннай вайны, якую, паводле агульнага меркавання народа, «прыдумаў цар», пасля цяжкай нямецкай акупацыі, ва ўмовах шалёных бальшавіцкіх эксперыментаў і страшнага рабавання краю на карысць камуністычных войскаў і Цэнтральнае Расіі — ідэя, што «мы самі мусім гаспадарыць у сваім краі» знаходзіць у народзе ўсё болей гарачых прыхільнікаў. Таму бальшавікі, якія ў спасціжэнні псіхалогіі масаў не ведаюць сабе роўных, ідучы насустрач тым настроям, 1 студзеня 1919 года выдаюць маніфест «часовага работніча-сялянскага савецкага правіцяльства Беларусі», дэкларуючы беларускім рабочым і сялянскім масам:

«Ад гэтага дня і вы — разам з працоўным народам Расіі, Літвы, Украіны і Латвіі — становіцеся вольнымі, паўнапраўнымі гаспадарамі Вольнай *Незалежнай Беларускай Савецкай Рэспублікі*». У хуткім часе выявілася ўся бальшавіцкая падступнасць: гэта была толькі шыльда без усялякага беларускага зместу. Неўзабаве пасля абвяшчэння гэтага акта беларускія камуністы (Жылуновіч, Дыла, Няцецкі і інш.) былі выкінутыя з урада, а некаторых арыштавалі і вывезлі ў Маскву. І тут Савецкая Расія засталася верная культурнаму і дзяржаўнаму цэнтралізму Расіі царскай, верная яе імперыялістычным традыцыям.

Нянавісць да тэрарыстычных парадкаў бальшавіцкіх камісараў вярнула пачуццё сімпатыі беларускіх масаў да адроджанае Польшчы. Не зніклі яшчэ, што праўда, сляды нядаўняе дзейнасці расійскіх уладаў, якія хцівасцю і фальшам — найбольш непачцівымі спосабамі, карыстаючыся недасведчанасцю народа і грамадскімі антаганізмамі, стараліся прышчапіць гэтаму народу нянавісць да ўсяго польскага. Савецкі ўрад тым болей, хоць і з меншым поспехам, пашыраў недавер да Польшчы. Свежы яшчэ быў ў памяці народа тэрор «змагарнага» корпуса генерала Доўбар-Мусніцкага, яго нялюдскія гвалты і экзекуцыі ў Бабруйскім павеце; «змагарныя» і незвычайна «разумныя дзеянні», якія, здавалася, мелі на мэце апраўдаць гнюсную царскую працу і абгрунтаваць хлуслівую бальшавіцкую агітацыю. Аднак праўда пра новую дэмакратычную Польшчу, пра народны ўрад,

пра аграрную рэформу — пранікала праз лінію фронту, прабівала мур хлусні, паклёпу і памылковых поглядаў. Таму Беларусь сустракала польскага жаўнера не як новага акупанта, але як вызвольніка ад бальшавіцкай тыраніі і рыцара новых ідэй, які на сваім штандары нясе высакародны дэвіз — «За нашу і вашу свабоду!».

Віленская адозва Галоўнага начальніка войска, якая абвяшчала, што пераможныя польскія войскі нясуць на сваіх штыхах кожнаму народу «права самому вырашаць сваю будучыню» — абуджала і ў беларускім народзе давер і надзею на ажыццяўленне яго палітычных ідэалаў. Лічым мэтазгодным прывесці тут урывак з мемарыяла, які адразу пасля ўзяцця Вільні склала Начальніку Дзяржавы Віленская Беларуская рада (выбраная яшчэ на канферэнцыі 25—27 студзеня 1918 г. у Вільні пад час нямецкае акупацыі), дзе яна проста і ясна выказала свае погляды:

«Вось прабіла новая гадзіна, адгарнулася новая старонка гісторыі беларускага адраджэння. У Вільню і іншыя землі Беларусі прыйшлі і яшчэ ідуць польскія войскі, абвяшчаючы свабоду і правы ўсім грамадзянам Беларусі і Літвы.

Віленская Беларуская рада хоча верыць, што тыя дэкларацыі ўсеагульнай свабоды будуць няўхільна праводзіцца ў жыццё і што беларускі народ, замучаны нямецкім і бальшавіцкім прыгнётам, нарэшце атрымае спакой і магчымасць адбудовы сваёй незалежнай і непадзельнай Бацькаўшчыны.

Віленская Беларуская рада спадзяецца, што Ваша Эксцэленцыя дапаможа аб'яднаць усю Беларусь і адбудаваць яе як незалежную дзяржаву, повяззю суседства і прыязні злучаную з Польшчай, якой больш, чым іншым народам, вядома, як цяжка жыць у няволі і быць падзеленай на часткі».

Гэта першая афіцыйная беларуская дэкларацыя ў польска-беларускіх дачыненнях. Асцярожная, але, безумоўна, шчырая і прыязная.

На тых пазіцыях непадзельнасці і незалежнасці Беларусі з апораю на народную Польшчу не стаяла ніколі ніводная беларуская арганізацыя або палітычная партыя. Можна смела сказаць, што ўсе беларускія партыі — як эсэраўская лявіца, гэтак і эндэцкі цэнтр і незалежнікі (не кажучы ўжо аб партыях, што стаялі правей) — шукалі гэтай апоры ў Польшчы. Толькі пасля заняцця Менска, калі канчаткова высветлілася, што цяжка спадзявацца, каб характар улады на Беларусі змяніўся на лепшае, — больш радыкальна настаўленыя групы выступаюць у адкрытай апазіцыі супраць польскай акупацыі.

Гэтая прынцыповая згоднасць беларускіх поглядаў у справе збліжэння з Польшчай і апоры на яе ў нацыянальна-дзяржаўным будаўніцтве яскрава выявілася ў працы і палітычных выступленнях Беларускае рады Віленшчыны і Горадзеншчыны. Гэтая рада была выбраная на з'ездзе прадстаўнікоў беларускага насельніцтва Віленшчыны і Горадзеншчыны, а таксама беларускіх арганізацый. З'езд адбыўся ў Вільні 10—12 чэрвеня 1919 г., у ім бралі ўдзел усе партыі. Сход аднагалосна ўхваліў пастанову аб утва-

рэнні беларускага войска, якое пад агульным з палякамі камандаваннем будзе змагацца супраць варвараў-акупантаў. Таму на падставе ўхваленых на з'ездзе прынцыпаў рада, як яго выканаўчы орган, высылае ў Варшаву дэлегацыю, у склад якой увайшлі: Б. Тарашкевіч, старшыня рады, а таксама П. Аляксюк, М. Кахановіч і айцец Кушнён. Дэлегацыя склала Начальніку мемарыял у справе стварэння беларускага войска, які быў прыхільна прыняты і паслужыў падставай да адпаведнага дэкрэта аб фарміраванні беларускіх вайсковых частак. Апроч акцый ва ўрадавых і партыйных колах дэлегацыя змясціла ў варшаўскім друку адозву да польскага грамадства, дзе тлумачыла беларускае палітычнае становішча. Падаем важнейшыя фрагменты гэтай адозвы, якія дагэтуль не страцілі сваёй актуальнасці:

«Ідэя незалежнасці Беларусі ў цалкам скрышталізаванай форме была абвешчаная на цэлым шэрагу з'ездаў прадстаўнікоў беларускага народа ў Вільні, Гродне, Менску, Магілёве і інш. І таму мы з усёй пэўнасцю можам сказаць, што беларускі народ ва ўсіх адносінах мае права існаваць незалежна і што нездзяйсненне ідэі незалежнасці беларускага народа было б гістарычнаю памылкай, якую чалавецтва ў будучыні мусіла б выкупіць патокамі крыві. Прыступаючы да рэалізацыі гэтай ідэі, мы бачым, што цяпер найпрасцей і найлягчэй можна яе ажыццявіць пры дапамозе Польскай Рэспублікі, якая вуснамі Начальніка Дзяржавы абвясціла народам былога Вялікага княства Літоўскага, што прызнае іх правы самім вырашаць далейшы лёс іх краю, без найменшага гвалту або прымусу з боку Польшчы.

Мы добра разумеем, што польскія войскі прыбылі на нашую Бацькаўшчыну з мэтай утварэння з зямель былога Вялікага княства Літоўскага цвярдыні для абароны Польскай Рэспублікі ад маскоўскае агрэсіўнасці. Палітыка гэтае дзяржавы дагэтуль была і, трэба меркаваць, доўга яшчэ будзе варожай да беларускае дзяржаўнасці. З гэтага вынікае, што гэтак зразуметы інтарэс Польшчы ёсць і нашым інтарэсам. Вось жа гэтая супольнасць інтарэсаў дае нам магчымасць будучую працу адбудовы незалежнай і непадзельнай Беларусі абаперці на фундамент паразумення з польскім народам. Гэтае паразуменне на падставе прызнання польскім народам незалежнасці і непадзельнасці Беларусі, звязанай з Польскай Рэспублікай супольнасцю абароны свайго незалежнага існавання, мы лічым пажаданым і карысным для абодвух народаў».

Мы затрымаліся крыху падрабязней на дзейнасці Беларускай Цэнтральнай Рады Віленшчыны і Гродзеншчыны перш за ўсё таму, што ў часе паміж узяццем Вільні і ўзяццем Менска польскі ўрад не хацеў прызнаваць ніякіх беларускіх інстытуцый дзяржаўна-палітычнага характару, аднак да прыгаданае Рады як да нацыянальнага органа ставіўся талерантна — бо яна была адзіным лучнікам паміж беларусамі і польскімі ўладамі. На думку ўрада Беларускай Народнай Рэспублікі, цэнтральны польскі ўрад і створанае ім Цывільная ўправа Усходніх зямель занялі надзвычай недальнабачнае і самалюбнае становішча. Гэтае дзіўнае палітычнае адхіленне і хвара-

вітая блізарукасць дайшлі да таго, што найвышэйшыя функцыянеры ЦУУЗ, якія за паўгода перад тым яшчэ засядалі на лавах польскай фракцыі ў радзе Беларускай Народнай Рэспублікі, цяпер нават слухаць не хацелі пра беларускую дзяржаўнасць, а польскае Міністэрства замежных спраў адмовілася візаваць беларускія дыпламатычныя пашпарты..., на якіх стаялі французскія і англійскія візы, у той час калі незалежнасць Беларусі прызналі Фінляндыя, Эстонія, Латвія, Украіна. Тлумачылі гэта цяжкасцямі з Антантай. Не пярэчым, што такія цяжкасці маглі існаваць. Аднак мы перакананыя, што неадкладнае ажыццяўленне прынцыпаў віленскай адозвы, г. зн. скліканне краёвага ўрада (магчыма, на падставе паразумення з беларускім урадам) захавала б Польшчу ад шматлікіх расчараванняў і абвінавачанняў ў імперыялізме. Прыгадаем толькі прызнанне ўсяго Захаду і давер краю да памянёнай вышэй адозвы Галоўнага начальніка войска. Але, на жаль, недальнабачнасць і дробязныя апетыты тагачасных кіраўнікоў дзяржавы скіравалі польскую палітыку на аблудныя шляхі анексіі, падзелаў і неагляднай акупацыі. Пасля ўзнёслых лозунгаў, абвешчаных у віленскай адозве, стварэнне ЦУУЗ было проста правакаваннем насельніцтва. Польскі ўрад перш за ўсё перакрэсліваў тым самым столькі разоў выказваную беларускім народам волю да незалежнасці, а на месца ўжо выкананай дзяржаватворчай беларускай працы ставіў плебісцыт. Аднак не выклікае сумненняў, што выкарыстанне гэтага, здавалася б, найбольш дэмакратычнага і адзіна справядлівага сродку ў гэтых умовах было б відавочнай несправядлівасцю і ганебным гвалтам над беларускім народам. Тэарэтычна плебісцыт — рэч дасканала справядлівая, і ён быў бы такі і на практыцы, калі б мог адбывацца ў гэткіх самых дасканала справядлівых умовах: пры поўным адхіленні абодвух зацікаўленых бакоў ад уплыву на свядомасць і выбар насельніцтва або пры дапушчэнні абодвух бакоў да аднолькавага ўплыву. Гэта поўны абсурд. І таму амаль кожны плебісцыт канчаецца больш або менш гладкім ашуканствам або разнёй і скандалам. Гісторыя апошніх плебісцытаў красамоўна сведчыць пра гэта. Палякі, пэўна, найлепей мусілі б зразумець усю недарэчнасць няўдалае задумы Уілсана. А той, хто лічыць польскую справу на Мазурах і ў Варміі справядлівай, хоць і прайгранай, як ён можа патрабаваць плебісцыту на Беларусі? І аднак плебісцыт на беларускіх землях меўся адбыцца толькі пры значна больш несправядлівых умовах, чым плебісцыт на Шлёнску, Мазурах, у Варміі, бо з выключным удзелам толькі аднаго боку, які ўжывае не толькі маральны націск... Ці ж маглі б беларусы прыняць і прызнаць які-колечы плебісцыт, арганізаваны акупацыйнаю ўладай, якой патрэбнае такое і ніякае іншае вырашэнне справы! І мы вельмі сумняваемся, каб нейкія войскі, абыякавыя да вынікаў галасавання, маглі заняць беларускую тэрыторыю. Нават у такім выпадку спатрэбіўся б пэўны час, каб краіна магла хоць трохі супакоіцца і прыйсці хоць бы да адноснай раўнавагі пасля страшных выпрабаванняў вайны.

Таму цяпер усе беларускія палітычныя партыі станоўча і аднадумна прызналі, што толькі беларускі Устаноўчы сойм, скліканы ад імя краёвага ўрада, можа вырашаць лёс усяго краю і дамаўляцца з суседзямі ў справе спрэчных межаў*.

Бо якія ж то пытанні меліся быць вырашаныя гэтым плебісцытам? Можа, пытанне, ці беларускі народ жадае дзяржаўнае незалежнасці? Мы перакананыя, што пры хоць бы адносна справядлівых умовах плебісцыту (а значыць, адыходзе польскіх і расійскіх войскаў) адказ значнай большасці быў бы станоўчы. Мы аднак не заплюшчваем вачэй на факт, што народ яшчэ не зусім усвядомлены і што ў асобных выпадках мог бы трапіцца і іншы адказ, — але запытаемся: калі б падобны да гэтага плебісцыт правесці ў некаторых ваколіцах Каралеўства [Польскага], ці не даў бы ён часам зусім неспадзяваных вынікаў! Трэба думаць, што воля беларускага народа была б перакрэсленая і згвалчаная, як бы цалкам недвузначна і станоўча ён ні выказаў жаданне сваёй дзяржаўнасці. Сілаю абставін заставалася б вырашыць адзінае пытанне: Польшча або Расія?!. Гэта непазбежна прывяло б да падзелу Беларусі на «польскую» і «расійскую» і прынесла б вялікае задавальненне эндэцыі (хоць лінія Дмоўскага без сумнення была б адсунутая далёка на захад). Але не ўсё, што падабаецца эндэцыі і іншым прыхільнікам анексій, карыснае польскаму народу і дзяржаве ў цэлым. На нашу думку, гэта стварыла б для яе вельмі няпэўную і нават небяспечную сітуацыю. Польшча атрымала б вузкую паласу зямлі, заціснутую паміж Расіяй і Літвой. Значны працэнт насельніцтва гэтае тэрыторыі складаюць праваслаўныя беларусы, якія зусім не паддаюцца паланізацыі. Паланізаванне беларусаў-католікаў, з увагі на вельмі хуткі рост нацыянальнага адраджэння, таксама вельмі праблематычнае. Беларусы ніколі не пагадзіліся б з такім станам рэчаў і заўсёды былі б там запальным матэрыялам, які ў любую хвіліну мог бы выклікаць выбух вайны паміж Польшчай і Расіяй — бо ж у інтарэсах Расіі ляжыць шырэйшая мяжа з Літвою і нават шлях у Германію праз Беласток — Граева! Утрыманне гэтай лініі пры няпэўным, а можа, і адкрыта варожым стаўленні літоўцаў было б стратэгічна немагчымым. З гаспадарчага гледзішча гэта была б поўная эканамічная пагібель гэтых няшчасных зямель. То ж якім абсурдам і злачыннай легкадумнасцю былі ўсе захопніцкія і плебісцытныя планы!.. Польшчы яны не маглі прынесці б ніякай карысці, а толькі паглыбілі б прорву непаразуменняў паміж ёю і Літоўскай дзяржавай, нішчылі б ужо закладзены падмурак беларускай дзяржаўнасці — фундамента той будучай крэпасці, якая з самой натуры рэчаў першая б мусіла супрацьстаяць агрэсіі ўсходняга суседа.

Сёння больш чым калі становіцца ясна, што не толькі Беларусь і Украіна не здолеюць узнікнуць і ўзняцца, не толькі Літва, Латвія, Эстонія, але

---

* Цікава, што нават расійскія эсэры на Беларусі сталі цяпер на грунт склікання Беларускага Устаноўчага сойма. А так апошнім часам не было партый (апроч камуністаў і Бунда, што ім сімпатызуе), якія б не падзялялі гэтага гледзішча.

Фінляндыя і Польшча не здолеюць утрымацца, калі ўсе гэтыя нацыянальныя дзяржавы не здолеюць утварыць трывалага і згоднага саюзу. Важнасць такога саюзу ў першую чаргу зразумеў беларускі ўрад, калі ён яшчэ ў 1918 г. выступіў з праектам утварэння чарнаморска-балтыйскага саюза ў складзе Украіны, Беларусі, Літвы і Латвіі. Востры антаганізм паміж Украінай і Польшчай і вайна за Львоў не дазволілі тады ставіць пытанне аб уключэнне ў гэты саюз Польшчы. Аднак развіццё падзеяў паказала, якою аднабаковай і памылковай была гэтая пазіцыя. Няўдачы Украіны, рост польскай магутнасці, заняцце Гродна і Вільні, віленская адозва — усё гэта прывяло беларускіх палітыкаў да пераканання, што перш за ўсё ў Польшчы трэба шукаць падтрымкі, тут трэба дзейнічаць і пераконваць, не расчароўваючыся ніякімі няўдачамі.

Прадстаўнікі беларускага ўрада запрапанавалі стварэнне краёвага ўрада (пакуль што без этнаграфічнай Літвы) у паразуменні з польскімі партыямі. Такім чынам гэты ўрад набыў бы ў пэўнай ступені санкцыі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі — адзінай дагэтуль праўнай прадстаўніцы беларускага народа. Краёвы ўрад мусіў бы склікаць Устаноўчы сойм і неадкладна стварыць армію для змагання з Савецкай Расіяй. Было відавочна, што Беларусь пайшла б поплеч і звязала б свой лёс з тым, хто б ёй у гэтак важную хвіліну аказаў бы вырашальную дапамогу.

На жаль... Справа пакуль што ўвесь час адкладалася — нібыта да часу заняцця Менска. Менск занялі — і стварылі Менскую акругу. Такім чынам на беларускіх землях аж да Бярэзіны запанавала Цывільная ўправа ўсходніх зямель — у выніках сваёй дзейнасці — з тэндэнцыямі больш абшарніцкімі, чым дэмакратычнымі, выключна польская — для зямель, дзе палякі, што ні казаць, складалі толькі меншасць.

Лозунг самавызначэння быў выкарыстаны толькі як спосаб для непрыстойнай антыбеларускай агітацыі, на што выдаваліся вялікія грошы (прыгадаем гэтак званую «крэсовую стражу»). Гэтая агітацыя незвычайна аблягчала працу русіфікацыйным элементам, якія з усёй відавочнай слушнасцю маглі сцвярджаць, што якраз Польшча стаіць на перашкодзе стварэнню Беларусі і што з ёю перш за ўсё і трэба ваяваць, абапіраючыся вядома ж на Маскву. У практыцы ЦУУЗ нямала фактаў непасрэднае падтрымкі расійскіх элементаў у іх змаганні супраць беларусаў. Адзначаліся выпадкі, калі школьныя інспектары адмаўлялі выдаць дазвол на беларускую школу, матывуючы гэта тым, што прызнаюць толькі польскую або расійскую школу. Увогуле ўсё, што рабілася ў справе школьніцтва, ніякім чынам не можа быць названа падтрымкай беларускае школы.

«Усходнія крэсы» былі падзеленыя на «сферы ўплываў». У Віленскай і Брэсцкай акруг гвалтоўна стрымліваліся ўсялякія праявы нацыянальнай беларускай дзейнасці. Толькі ў Менскай акрузе беларусам пакінулі адносную свабоду. Урадавыя колы рыхтавалі праект далучэння дзвюх першых акруг да Польскай Рэспублікі, тым часам як для Менскай акругі прадбачылася нейкая мізэрная аўтаномія.

І так была перакрэслена воля беларускага народа, які прагнуў незалежнасці.

Таму, калі пасля гадавога перапынку 7 снежня 1919 г. у Менску зноў сабралася Рада Рэспублікі, нягледзячы на выказаную перад тым згоду Начальніка Дзяржавы, яе дзейнасць была адміністрацыйна прыпыненая. Гэты крок выклікаў раскол ва ўлонні самой Рады. Адкалолася скрайняя меншасць, і быў створаны новы ўрад на чале з Ластоўскім, урад, варожа настаўлены да польскае акупацыі, які лічыць любое супрацоўніцтва з палякамі ў такіх умовах немагчымым і нават шкодным.

Нягледзячы на гэта, большасць у Радзе Рэспублікі не перастала верыць, што польскі народ раней ці пазней зразумее і выправіць палітычныя памылкі свайго ўрада на Беларусі, падаўшы беларускаму народу братнюю руку дапамогі ў яго імкненнях да сваёй дзяржаўнасці.

Гэтая большасць, лічачыся з немагчымасцю далейшага легальнага існавання Рады Рэспублікі, даручае свае паўнамоцтвы і мандаты выбранай з свайго складу Найвышэйшай Радзе, якая надалей мае праводзіць беларускую дзяржаўную і нацыянальную дзейнасць — даручае гэтай Радзе захаванне і развіццё волевыяўлення беларускага народа, выказанага на Беларускім кангрэсе.

Найвышэйшая Рада бярэ ў свае рукі цяжкае заданне вызначэння магчымага modus vivendi ў цяжкіх умовах акупацыі. Стрымліванне ўсялякай дзяржаватворчай беларускай працы на фоне акупацыйных нягодаў і, нягледзячы на ўсялякую ўяўную дэмакратыю, па сутнасці — бяспраўнае становішча насельніцтва, — стварае настрой расчараванасці. У выніку — вельмі вострыя канфлікты з уладамі, нават паўстанні.

Найвышэйшая Рада, лічачы ўсялякае хваляванне шкодным і бессэнсоўным, гасіла вельмі паспяхова гэтыя выбухі незадавальнення ўжо ў самым зародку, увесь час цярпліва дамагаючыся з боку польскага ўрада нейкіх рэальных крокаў, якія маглі б сведчыць аб прыхільным стаўленні да беларускага народа.

Дзеля справядлівасці трэба прызнаць, што з боку польскіх кампетэнтных органаў былі зробленыя два такія крокі.

Першы — гэта стварэнне Беларускай вайсковай камісіі, якая павінна была заняцца справай беларускага войска. Што праўда, справа гэтая зацягнулася на цэлы год, і калі ўрэшце пасля першага бальшавіцкага наступу на паўночным фронце было афіцыйна дазволена правесці мабілізацыю, дык, з другога боку, сакрэтнымі цыркулярамі гэтая мабілізацыя ўсяляк стрымлівалася. І ўсё ж гэта быў першы рэальны паважны крок.

Другім рэальным крокам былі перамовы польскіх упаўнаважаных — паўнамоцнага міністра Леана Васілеўскага і Уладыслава Рачкевіча — з Найвышэйшай Радай у сакавіку 1920 г. у Менску, дзе была абмеркавана і прынята аўтаномія беларускай школы і прызнаны некаторыя, праўда, у вузкіх межах, правы беларускае мовы. Апрача таго, польскі ўрад у асобе

сваіх прадстаўнікоў абавязаўся матэрыяльна падтрымаць беларускія нацыянальныя і культурныя ўстановы — перш за ўсё з увагі на несправядлівы падзел краёвых сумаў. Аднак статут аўтаномнай Беларускай школьнай рады так і не быў зацверджаны. Урэшце, пра выкананне гэтае ўмовы гаварыць цяжка з прычыны бальшавіцкага наступу і эвакуацыі з беларускіх зямель.

Польская акупацыя пакінула па сабе справядлівую прыкрасць і расчараванне «шчырасцю» польскае палітыкі, якая разглядала Беларусь толькі як свае «Усходнія крэсы». Аднак свядомая беларуская нацыянальная думка не перастала шукаць падтрымкі ў Польшчы, верачы, што прынцыпы сапраўднага дэмакратызму мусяць урэшце перамагчы.

Мы перакананыя, што, незалежна ад таго ці іншага стаўлення вялікіх дзяржаў да расійскае справы, незалежна ад заключэння міру або працягу вайны — словам, незалежна ад палітыкі сённяшняга дня, узнікненне Беларускае дзяржавы — справа не толькі беларускага народа, але разам з тым справа Польшчы, Украіны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі і ўсіх народаў, якія не могуць абапірацца толькі на свае ўласныя сілы.

Не забываймася пра гэта ні ў вайну, ні ў мірны час.

Пазіцыя саюза прынцыпова мусіць быць нязменная і незалежная ад усялякіх палітычных сітуацый: гісторыя не сёння канчаецца; мы яшчэ далёкія ад грамадскай і палітычнай раўнавагі. Неабходна ўвесь час мець на ўвазе той нязменны прынцып, што або вольныя будзем усе, або ніхто з нас, а абавязковай умовай дзейснасці саюза павінна быць абсалютная роўнасць паміж саюзнікамі.

Хай мацнейшы не ўжывае сваёй сілы ў дачыненні да слабейшага, бо няроўнасць нашая захаваецца ненадоўга. Бо ўсе мы будзем зраўнаныя ў няволі, калі не здолеем у вольнасці шанаваць правы іншых. Толькі так і не іначай трэба разумець польскія лозунгі: «Вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі», «За нашу і вашу свабоду!».

Такія палітычныя лозунгі і памкненні беларускага руху. Кажучы коратка, можна сцвярджаць, што беларусы дамагаюцца ад урадаў і грамадства прыязных сабе народаў прызнання наступных прынцыпаў:

Беларусь з этнаграфічнага, геаграфічнага і эканамічнага гледзішча складае адзіную цэласць, якая ніякім чынам не можа быць вырваная з комплексу саюзных у будучыні «малых» і «новых» народаў ад Балтыкі да Чорнага мора. Беларускі народ адназначна абвясціў свае правы па ўласную дзяржаўнасць — значыць за неадменны прынцып неабходна прыняць прызнанне незалежнасці Беларусі ў яе этнаграфічных межах, гэтую незалежнасць падтрымліваць і ў кожны адпаведны палітычны момант дзейнічаць у гэтым кірунку.

Дзяржаўныя формы, а таксама характар будучых сувязяў з суседзямі павінен акрэсліць Беларускі Устаноўчы сойм, скліканы часовым краёвым урадам. Такая цяпер палітычная пазіцыя ўсіх партый на Беларусі (апроч

камуністаў і чорнай сотні).

Ад польскага ўрада і грамадства, у прыватнасці, патрабуем, каб аграрная рэформа лічылася ўнутранай справай Беларусі; павінен быць абвешчаны поўны desinteressement у справе маёмасці земляўласнікаў-палякаў, уласнасць якіх мусіць падлягаць тым самым законам, што і ўласнасць усіх іншых грамадзян Беларусі. Апрача таго, ад польскай народнай дэмакратыі патрабуем адмовы ад усіх штучных дзяржаўных каланізацыйных планаў у Заходняй Беларусі.

Толькі такая пастаноўка справы можа выкараніць усё пустазелле ўзаемнага недаверу і шматвяковых крыўдаў, якім так густа зарасло поле польска-беларускіх дачыненняў. Гэтага патрабуе справядлівасць і добрасуседскасць. Надзвычай важна, каб выразная пазіцыя ў гэтай справе польскіх шчыра дэмакратычных і народных партый сталася вядомая шырокім масам беларускага народа, каб у ім абудзіўся давер да народнай, дэмакратычнай Польшчы.

Такія нашы нязменныя пастулаты. Што ж да таго, якія нашы патрабаванні і планы на бліжэйшую будучыню, даем вельмі лаканічны адказ. Найпільнейшаю справай мы лічым выгнанне бальшавікоў, хоць бы за Бярэзіну, і стварэнне паводле нашых першапачатковых планаў беларускага краёвага ўрада (вядома ж, без ніякіх папярэдніх часовых органаў у выглядзе нейкіх цывільных упраў). Мы не патрабуем ад польскага народа, каб ён крывёю сваіх грамадзян будаваў для нас Бацькаўшчыну, бо справядліва было б, каб мы за сваю свабоду змагаліся самі. Аднак, калі стратэгічныя або якія іншыя прычыны перасунуць фронт на Беларусь, хай жа вольна нам будзе змагацца супраць супольнага ворага, змагацца з моцным перакананнем, што змагаемся мы за сваю Бацькаўшчыну. Таму, як толькі польскі жаўнер ступіць на беларускую зямлю, мусіць быць закладзены падмурак беларускае дзяржаўнасці. Можна дыскутаваць наконт формаў ажыццяўлення гэтае задумы, але нязменным зместам павінна быць беларуская дзяржаўнасць. Калі ж польскі ўрад мае іншыя намеры — польскаму жаўнеру нельга пераступаць беларускай этнаграфічнай мяжы. Tertium non datur. Бо ўсім анексіям і непачцівым акругленням межаў мы абвяшчаем рашучае змаганне. Прэч бяздумную акупацыю! Хай жыве салідарнасць і ўзаемная павага!

*Пераклад з польскай Сяргея Шупы*

*Друкуецца паводле час.: Przymierze (Warszawa). 1920. № 3.*

**Евгений ЛЯЦКИЙ**

# БЕЛОРУССКИЙ ПОЭТ МАКСИМ БОГДАНОВИЧ

Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі верш,
Абрабіць яго трэба з цярпеннем.
Як ударыш ты ім, — ён, як звон, зазвініць,
Брызнуць іскры з халодных каменняў.
*М. Багдановіч. Песняру*

Как-то Некрасов сказал:

Не рыдай так безумно над ним, —
Хорошо умереть молодым...

Но возрождающаяся Белоруссия так не скажет. Ведь для нее особенно дороги молодые силы и, когда она теряет кого-нибудь из своих людей в расцвете лет, полных надежд, огромны ее боль и сожаление. И вот преждевременная смерть унесла одного из лучших ее поэтов, Максима Богдановича. Ему едва исполнилось двадцать пять лет, когда 25 мая 1917 года, на заре новой жизни его страны, в момент ее создания безжалостный тиф[1] лишил поэта жизни. Богданович был сыном этнографа Адама Богдановича, учился в Демидовском лицее в Ярославле. В Богдановиче счастливо объединились тонкая поэтическая чувствительность и глубокое знание русской и иностранных литератур. Судьба подготовила ему завидную карьеру: ему было предназначено пробудить молодую Белоруссию, он мог бы подняться до высот современной европейской мысли и новых достижений в искусстве.

Богданович не так уж много оставил своим землякам, но ценность и качество его наследия велики. В его маленькой книжке (М. Багдановіч. Вянок. Вільна, 1913) нашло яркое отражение его стремление помочь белорусской литературе занять в области последних усовершенствований поэтической техники почетное место.

Среди белорусских поэтов XX века Богданович достиг наибольшей виртуозности в области формы. Форма легко подчиняется состоянию его души, послушно следуя за всеми ее капризами и волнениями. Чаще всего состояние души Богдановича обуславливается его глубочайшим эстетизмом. Его прежде всего привлекала красота, будь то внешние впечатления, будь то внутреннее отражение эстетического восприятия. Поэтическая карьера Богдановича началась в момент максимального расцвета русского символизма, и в своем стремлении воспевать по преимуществу красоту он

[1] Багдановіч памёр ад туберкулеза (*заўв. уклад.*).

долгое время был преданным учеником русских символистов. Именно они внесли в его душу нежное очарование Верлена и Анри де Ренье, хотя, что вполне вероятно, он их читал в подлиннике. Очевидно, что «Серые песни» Верлена произвели очень сильное впечатление на Богдановича, потому что они придали его поэзии воздушную легкость линий в пейзажных зарисовках, наполнив их нежным романтизмом печали и неудовлетворенных желаний. Именно они оторвали его мысль от грубой реальности и влили в нее колеблющуюся воздушность небесной фантазии. Наконец, именно они подсказали ему нежные и томные созвучия, которые пробуждают высокую печаль из-за невозможности достигнуть вечного.

Но поэтические темы Богдановича не исчерпываются мотивами раннего французского символизма. Возвышенный, неясный и чисто эстетический элемент это только одна ступенька, на которую поднялся Богданович в области технической обработки белорусского языка. Этот язык, древний, как славянская кровь в венах современного человечества, старого и мудрого, еще настолько молод, простодушен, так доверчиво относится ко всем соблазнам литературной европейской культуры. Богданович провел этот язык по крутым вершинам зеленеющих гор и сверкающих водопадов, подняв его до озаренных нетленным блеском красоты вершин чистого созерцания. Но в его душе живет и другое: красота и печаль, любовь и сострадание к своей Белоруссии. И он не захотел остаться на вершинах великолепного, но холодного парнасского эстетизма. Белоруссия потянула его к себе спокойной задумчивостью своей природы, сладкой тайной своей вековой печали, кроткой песней материнской ласки, оплакивающей непонятую ею тоску своих сыновей. Песни Богдановича, посвященные родной Белоруссии, это не спуск с парнасских вершин, это не отказ от них, но это попытка достичь гармонии, расширить и углубить шкалу чувств поэта. Однако не все полностью согласуется с основным тоном. Городские песни Брюсова не могли совпасть с поэтическими аллегориями белорусского пейзажа, с ее долинами и ее полями. Холодны и его стихи о боли и страданиях человечества. Более живые краски, более теплые звуки появляются тогда, когда поэт чувствует под своими ногами родную белорусскую землю.

Даўно ўжо целам я хварэю,
І хвор душой, —
І толькі на цябе надзея,
Край-родны мой!
У родным краю есць крыніца
Жывой вады.
Там толькі я змагу пазбыцца
Сваей нуды.

Калі ж у ім умру-загіну, —
Не жалюсь я!
Не будзеш цяжкая ты сыну
Свайму, зямля.
Там хоць у гліне, хоць у брудзе,
Там, пад зямлей,
Найдуць мае слабыя грудзі
Сабе спакой.

*(***Даўно ўжо целам я хварэю...)*

Богданович познакомился с Белоруссией поздно. Сначала он узнал ее по книгам, по песням и по сказкам. Он приехал на родину уже сложившимся поэтом, очарованный теми образами, которые красота порождает в мотивах вселенской любви и жажде жизни. Но, соприкоснувшись с Белоруссией, поэт ощутил под своими ногами почву, которая благосклонно приняла его музу. Белорусский язык нежный и сердечный. Нежна в народной белорусской поэзии и природа: ее невысокие холмы, ее потайные долины, ее мелководные реки. Но в зелени лесов, в цветущих полях, в широте ее полей для поэта крылось утешение, которое вызывало в его душе смятение, наполняло ее поэзией и глубокими мыслями о жизни. Поэтому не случайно, что Богданович только робко прикоснулся к символизму в его наиболее четком выражении и, в конце концов, повел свой стих по пути прозрачной и четкой мысли, ясных и сдержанных слов. Таинственные тени и загадочные намеки раннего символизма не могли совпасть с духовным строением точного, простого и ясного народного белорусского языка.

У него, безусловно, зародились мысли о судьбе Белоруссии и, слившись с горячим желанием мыслящей части общества, пробудили в его душе современную белорусскую поэзию. Весьма характерен его сонет, где сливаются два таких разных и далеких мира, как Египет и его родина:

Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі,
Над хвалямі сінеючага Ніла,
Ўжо колькі тысяч год стаіць магіла:
Ў гаршчку насення жменю там знайшлі.
Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё ж такі жыццёвая іх сіла
Збудзілая і буйна ўскаласіла
Парой вясенняй збожжа на раллі.

Вось сімвал твой, забыты краю родны!
Зварушаны нарэшце дух народны,

Я верую, бясплодна не засне,
А ўперад рынецца, маўляў крыніца,
Каторая магутна, гучна мкне,
Здалеўшы з глебы на прастор прабіцца.

*(Санет)*

Не нужно забывать, что мы говорим о Белоруссии, язык и литература которой только начинают осознавать свою принадлежность к Европе...

Поэты появились в ней до того, как заграничные учения дали ей эстетическую теорию. Она, безусловно, была создана, но она рождалась в моделях, уже разработанных первыми мастерами родного художественного слова. Не так уж и важно знать, какие мотивы и ритмы Богданович заимствовал у поэтов в предреволюционные годы и к какой из школ можно отнести того или другого поэта. Намного важнее, что такой поэт, как Богданович, которого нельзя приписать ни к какой определенной школе, смог объединить свое высокое художественное чувство с образами народной поэзии, рожденной в полях и лесах. Если во внешней простоте и родниковой чистоте его стихов можно различить следы различных влияний — рядом с З. Гиппиус и Бальмонтом сверкают отблески Фета, Апухтина, А. Толстого, и все эти следы и отблески вошли в поэтическую технику поэта, стали инструментами его мастерства, то в самой поэзии, как в спокойной глади реки, отражается его собственное, глубинное понимание жизни. Богданович принадлежит к той категории поэтов, для которых родной язык и собственная страна являются источником теплоты и нежности. Именно им он открыл свое горячее и любящее сердце, а свои слова наполнил спокойной сердечностью, чарующей красотой полевых цветов и легким сонным покоем, освещенного солнцем леса. И в этом сонном покое разворачивается лесная сказка:

Чуеш гул: — Гэта сумны, маркотны лясун
Пачынае няголасна граць:
Пад рукамі яго, навяваючы сум,
Быццам тысячы крэпка нацягнутых струн,
Тонкаствольныя сосны звіняць.

Ці казаць, ад чаго пацямнела рака,
Зашамрэлі мацней каласы
І аб чым шэпча ім галасок вецярка,
Што зіяе-дрыжыць на лісцёх лазняка:
Кроплі слез ці халоднай расы?

*(***Чуеш гул? — Гэта сумны, маркотны лясун...)*

Здесь нет ни пана, на дриад, но только фантазии Фета и замирающие аккорды Шопена. И в душу вливается легкость и нежность. Здесь нет ни

мистики, ни страха, ни смутной истомы в небесной лазури, все просто и естественно, как и в самой белорусской поэзии. Водяной (дух воды) и русалки приходят сюда не из преисподней и не из мельничного омута, они не внушают страха, не топят, а завораживают, баюкают и усыпляют. Послушайте, что говорит о себе водяной, которому не хочется даже быть дальним родственником страшных духов русских и украинских сказок:

Сівавусы, згорблены, я залёг між цінай
І гадамі грэюся — сплю на дне ракі.
Твар травой аблутана, быццам павуцінай,
Засыпаюць грудзі мне жоўтыя пяскі.

Над вадой ля берага ціха спіць асока,
Ды лаза зялёная жаліцца-шуміць,
Хвалі ціха коцяцца і бягуць далёка, —
І усё навокала сном адвечным спіць.

*(Вадзянік)*

И «лясун» (дух леса), которому приписывают столько непонятного в легендах о таинственных глухих лесах, почти ничем не отличается от простого пасечника, который много знает и мало говорит. Вот как рассказывает о нем поэт:

Стаяў калісь тут бор стары,
І жыў лясун у тым бары.
Зрубалі бор — лясун загінуў,
Во след яго ад той пары:
Сваё люстэрка ён пакінуў.
Як у нязнаны свет акно,
Ляжыць, халоднае, яно,
Жыццё сабою адбівае
І ўсё, што згінула даўно,
У цёмнай глыбіні хавае.

*(Возера)*

Послушайте соблазнительно текущую песню русалок. Но не бойтесь ни ужасов, ни смертельных соблазнов. Вас окружит поэзия лунной летней ночи. И пробудит в вас страсть к поэзии и мечтаниям, и перед вашим взором возникнет написанная поэтом картина:

Сонца ціха скацілася з горкі;
Месяц белы заплаканы свеціць,
Аглядае бахматыя зоркі,
Цягне з возера срэбныя сеці.

Ў іх русалкі заблуталі косы, —
Рвуць і блутаюць срэбныя ніці;
Ноч плыве над зямлёй, сее росы,
Ноч шапоча русалкам: «Засніце».

*(Над возерам)*

Но это действительно русалки? А может быть, невинные души детей или несчастные жертвы неразделенной любви? В них нет ничего, выдающего их потусторонность, ничего, что заставляло бы думать о чарующем грехе, ничего, предвещающего гибель потерянной души. Они больше похожи на девушек, пришедших из соседней деревни поиграть в серебристой темноте лунной ночи, полюбоваться своей красотой, помечтать о счастье. Возможно, днем они превратятся в тех ткачих, о которых поэт рассказывает в своем стихотворении «Слуцкія ткачыхі»:

Ім не пабачыць роднай хаты,
Не ўчуць ім дзетак галасы,
Яны у панскі двор узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Аб шчасці ўжо забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад персідскі ткуць яны.
А за сцяной шляхі у поле,
Шуміць чарэмха ля акна, —
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна.
Там так вясёла і прыгожа:
Зіяюць срэбрам ручайкі,
І у зялёных хвалях збожжа
Закрасавалі васількі.
Там шчыры бор шуміць сувора...
Ты тчэш, бязвольная рука,
Заміж персідскага узора,
Цвяток радзімы васілька.

Иногда в лирику Богдановича вплетаются эпические мотивы. Много раз встречающийся архаичный образ летописца вызывает в памяти бесстрастную и далекую мысль, спокойно текущую над людскими судьбами. Впрочем, поэт не рисует образ летописца древних лет, похожего на бессмертного пушкинского Пимена. В этом летописце он рисует самого себя. Он страстно хотел бы рассказать о том, что он пережил и о том, что взволновало его страну.

Хай тыя ведаюць, што з'явяцца па нас,
Ўсю праўду пра жыццё у наш і пройшлы час,
Пра войтаў, лаўнікаў, і райцаў, і паспольства,
Пра розных каралёў, і бітвы, і пасольства,
Што тут чынілася у даўнія гады,
Што думалі, чаго жадалі мы тады,
За што змагаліся, як баранілі веру, —
Хай зведаюць усе патомкі праз паперу!

*(Летапісец)*

Подобный настрой и в стихотворении «Перапісчык». Бумага покрывается красивыми, ровными строчками. Буквы одна другой лучше и четче. Разноцветные буквицы украшают возвышенные мысли, которые призвала с любовью и страстью опытная рука. И соблазны солнечного, летнего дня не могут победить смотрящего в окно ревнителя «прекрасных трудов». Но лирические поэты не превращаются ни в летописцев, ни в прилежных «повторителей» чужих мыслей. Они сами живут, искушаемые звуками и красками; они сами являются искусителями для других, у которых нет дара слагать новые песни. А Богдановичу предназначено слагать стихи или, быть может, создавать самобытное сопровождение для слов и мыслей, которые ему предлагает народная белорусская лирика. Возможно, именно поэтому появляется чувство, что Богданович одновременно поэт и музыкант, так мелодичны и ритмичны его песни. Иногда кажется, что слышатся два мотива, два гармонизующих тона: один, вдохновленный белорусской стихией, и другой, который варьируется, ритмически окрашивая и виртуозно располагая всемирные созвучия:

Парой ён спыніцца, каб лепей завастрыць
Пяро гусінае, і гляне: светла сонца
Стаўпамі падае праз вузкае аконца,
І круціцца у іх прыгожы, лёгкі пыл;
Як сіняваты дым нявідзімых кадзіл,
Рой хмарачак плыве; шырокімі кругамі
У небе ластаўкі шыбуюць над крыжамі,
Як жар гарашчымі, а тут, каля акна,
Малінаўка пяе і стукае жаўна.
І зноў ён схіліцца, застаўку зноў выводзіць
Няяркім серабром; нячутна дзень праходзіць;
Ўжо хутка будзе ноч, і першая гвязда
Благаславіць канец прыгожага труда.

Такова в общих чертах поэзия Богдановича. В ней много еще не понятого, что еще нужно внимательно изучать, особенно те ответвления его творческой мысли, в которых с наибольшей силой проявляется влияние

народной лирики. Но нам кажется, что-то, о чем мы рассказали, достаточно для того, чтобы сделать заключение о такой чувствительности, силе и гибкости поэтического вдохновения, как Богданович, который является весьма значительным явлением не только для возрождающейся Белоруссии, но и для всего культурного славянского мира.

*Пераклад з італьянскай Наталлі Сухanавай*

*Друкуецца паводле выд.: Rivista di literature slave. Roma. 1928. Anno III. F. 2.*

## ЛІСТЫ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА ДА ЛЬВА КЛЕЙНБАРТА

*22/XII-1927*

Уважаемый Лев Максимович!

Сегодня же посылаю Вам свою книжку. А биографических сведений обо мне, если можно, никаких не помещайте, о моем сборнике «Рунь» и драматических сценках «Антон», пожалуйста, напишите пару слов, т. к. эти вещи относятся ко взятому Вами периоду. Что касается сведений о белорусских критиках, то я, к глубокому сожалению, не могу быть Вам полезным. Я думаю, что будет лучше всего, если Вы обратитесь к ним непосредственно. Только вот т. Антон Луцкевич сидит теперь в тюрьме в Польше, так о нем сообщу, что знаю, но сведения мои о нем очень скудны, лучше знают его Купала, Бядуля, Ластовский, Ц. Гартный и др. Если у Вас нет книжки Антона Луцкевича «Našy pieśniary» (Вільня, 1918 г.), Вам ее может выслать Белгосиздат, в частности, т. Жилунович. Я считаю, что наибольшее право называться белорусским критиком имеет Антон Луцкевич. Он, вместе со своим [пропущен целый лист] время руководил революционной белорусской печатью в Вильне, работал в Белорусском научном обществе (в Вильне), в Белорусской школьной раде и гимназии и приводил в порядок богатейший музей, собранный его братом и завещанный Белорусскому обществу (теперь это «Беларускі нацыянальны музей імя Івана Луцкевіча»). В 1927 г. Антон Луцкевич был арестован и, как пишут газеты, предается суду по делу Белорусской громады, вместе с белорусскими депутатами и тысячами членов Громады. Антону Луцкевичу, известному под псевдонимом Антон Навіна, принадлежит масса статей по белорусскому вопросу в русских (Брокгауз и Ефрон), польских, украинских, чешских, немецких и др. изданиях. Он —лучший белорусский публицист, прекрасный стилист. Он написал много критических статей, заметок, рецензий, рассеянных в разных белорусских изданиях. Творчество белорусских поэтов и писателей он рассматривает, главным образом, с точки зрения публициста-художника и национального революционера, в разрезе социальном и эстетическом.

Самое ценное в белорусской критике после 1905 г. и до настоящего времени — это, пожалуй, упомянутая мною его книга «Našy pieśniary» (по-белорусски латиникою).

Кроме того, я посылаю Вам вырезку из газеты «Беларусь» (Минск, 1920 г., № [не показан на вырезке. — *Г. Г.*][1], где я пишу о Лявоне Гмыраке, в связи с 5-летием его смерти. Он тоже работал по белорусской критике (его статья в «Колядной пісанк.», 1914 г.». и проч.), но преждевременная смерть на войне прервала все его работы и замыслы. Очень прошу Вас написать о нем.

*М. Горецкий.*

Белоруссия, Горкі, Аршанскае акругі, Акадэмія сельск[а]гаспад[арчая], к. 68, Максіму Гарэцкаму.

*Ленинград, Петроградская сторона,*
*улица Литераторов, д. 19, комн. 14*
*Льву Максимовичу Клейнборту*

*22/XII-1927*

Уважаемый Лев Максимович!

В настоящее время в Ленинграде (Переяславская улица, 1, больница им. д-ра Гааза, 3 отд., камера 71) находится белорусский писатель-драматург Франц Карлович Аляхнович. Он в прошлом году приехал из Вильны в Минск, принял советское подданство, сдал свою новую пьесу «На крэсах» 2-му Белорусскому государственному театру и сам начал работать в этом театре, но потом, через месяца два, был арестован и коллегией ГПУ осужден на 10 лет в Соловки. Если не находите неудобным для себя посетить его, так он мог бы сообщить Вам какие-нибудь интересные сведения о белорусской литературной жизни взятого Вами и позднейшего периода.

Я вспомнил это, когда уже послал Вам, сегодня, письмо и свою «Гістор[ыю] беларускай літарат[уры]».

*М. Горецкий.*

*6/I-1928*

Уважаемый Лев Максимович!

Я не посылаю Вам биографических сведений о себе потому, что мне будет приятнее, если о моей жизни будут знать меньше. Библиографию же всего, что я написал и что было напечатано, Вы найдете в посланной Вам моей «Гістор[ыі] белар[ускае] літарат[уры]».

*М. Горецкий.*

*Публікацыя Галіны Гарэцкай*

---

[1] Гарэцкі М. Лявон Гмырак (1891—1915) // Беларусь. 1920. 7 ліп. № 145 (*заўв. уклад.*).

**А. БУЖАНСКІ [Рамуальд ЗЯМКЕВІЧ]**

# ІВАН САЛАНЕВІЧ

Аб Івану Саланевічу мала хто з Беларусаў што-колечы ведае, а ён цярпеў, працаваў, змагаўся й далей няўтомна змагаецца за сваю справу. Жыве ён у Бэрліне, а ў Софіі выдае тыднёвік пад назовам «Наша газета», у каторым вядзе напружаную барацьбу з бальшавізмам пад сьцягам вялікай і непадзельнай Расеі.

Чытачы «Калосься» падумаюць: — тут нейкая няўвязка, нехта змагаецца з бальшавізмам, вельмі добра, але што ж супольнага мае гэты расейскі чорнасоценец з беларускім народам?

Дык вось, у сваей векапомнай працы «Россия в концлагере», у каторай ён надта маляўніча апісвае свае прабываньне ў савецкім лагеры ў Карэліі й уцечку адтуль, гэты дзеяч коратка й ясна падчыркнуў уласную беларускасьць і свае адносіны да беларусаў і беларускай справы.

Аб двухтамовай кнізе Саланевіча пісаць ня будзем, у кожным выпадку, хто прыпамінае передваенныя сшыткі «Нат Пінкертон кароль сышчыкаў», той будзе мець належнае прадстаўленьне аб літаратурных прыёмах і вартасьцях аўтара.

Важна тое, што ў першым томе «России в концлагере» ў кароткай дэклярацыі ён заяўляе: — Я стопрацэнтовы беларус і магу ганарыцца тым, што мяне ўзгадавалі на Пушкіну, ані на якімсьці Янку Купале; маю пагарду да патрыётызмаў у павятовым маштабе й да нацыянальнага будаўніцтва з соймам у Менску ці ў Вільні. — Апошняе, дзеля асаблівай кур'ёзнасьці й дзеля спадобы, ня вельмі вымагаючай, у сваей масе, расейскай публіцы падана поўпабеларуску. Адным словам, прыпраўлена «з душком».

Бязумоўна, гэты вырадак не прачытаў аніводнага верша Купалы й ня мае мінімальнага паняцьця аб сучасным беларускім адраджэнскім руху, — але сваю «прафэсарскую апінію» ён выражае дужа аўтарытэтна.

Наагул, вырадкаў маем нямала, стагодзьдзі нацыянальнага заняпаду даюцца ўзнакі, тым ня менш такіх тыпаў, як Саланевіч, афішуючыхся стопрацэнтавай беларускасьцю, трэба біць, прынамсі, па брудных лапах. Няхай ня думаюць, што калі яны знаходзяцца далёка ад беларускіх цэнтраў, дык маюць магчымасьць бяскарна ізрыгаць свае істінно-русскія блявоціны на беларускі народ.

Хто чытаў «Расею ў канцлагеры», прыпамінае, напэўна, што было духовым апірышчам аўтара падчас лагернага жыцьця. Гэта ягоны сын Юры ў мамэнты дэпрэсыі бацькі напяваў яму дзеля бадзёрасьці песьні Верцінскага.

Дробязь, але вымоўна характэрызуючая духовы клімат розных Саланевічаў. Беларуская музыкалёгія ні Верцінскага, ні падобных яму іншых

шарманшчыкаў ня мае, таму, магчыма, для гэткае публікі тут недзе трэба шукаць жаролаў духовае няпрымірымасьці.

Пасьля ўцечкі з лагеру «наш герой» хутка заінсталяваўся ў расейскай эміграцыі — падыйшоў пад колер. Пэўныя колы ўважаюць яго нават за нейкага аракула, іншыя йзноў называюць савецкім агентам і правакатарам. Зрэштай, гэта іх сямейная справа.

Арганізуе нацыянальны «трудавы» саюз новага пакаленьня — няхай арганізуе, палемізуе з Мілюковым — няхай палемізуе, але быламу савецкаму спэцу (праектаваў будову стадыёнаў Дынамо), а цяпер альфонсу расейскай эміграцыі рашуча забараняем паганіць беларускую справу. Можа свае жарты ськіваваць у іншы бок.

З узгляду на актуалізацыю беларускай справы, гэны цынічны рэнэгат (родам, здаецца, з Менска) можа рабіць спробы перакінуцца на беларускі грунт. Трэба, каб нашае грамадзянства добра запомніла ягонае прозьвішча.

Паўтараю: — Іван Лукіяновіч Саланевіч.

*Друкуецца паводле час.: Калосьсе. 1939. Кн. II.*

**Х. Х.**

## ВИЗВОЛЬНИЙ РУХ БІЛОРУСІ

Статтю, що нижче подаемо в українському перекладі, написав для нас один із білоруських активних політичных діячів, прізвища якого з певних причин не наводимо.

*Видавництво.*

### І. ВСТУП

З глибоким вдоволениям іду назустріч пропозиції видавництва українського альманаху «На службі нації» подати огляд білоруського визвольного руху. Інтерес українського суспільства до нашої справи свідчить про його симпатії до нас — білорусинів — як природних союзників у майбутніх боях за незалежність із спільними ворогами українського й білоруського народів. І справді, кожний активний українець, що реально ставить перед собою проблєму визволення власної батьківщини, не може, на нашу думку, не застоновитися зо співчуттям над змаганнями Білорусі — змаганнями, що мають тотожни історичні шляхи з Україною. Відсутність якихбудь протирічностей між обома братерськими народами, що мають кількасот кільометрів спільного кордону, робить порозуміння між ними не тільки оправданим, але й необхідним.

Як наростають силы білоруського народу, якими шляхами вони формуються, наскільки здорові їхні коріння й яке займуть вони місце в майбутніх подіях — виложити це все в короткій статті доволі тяжко. Щоб уявити собі білоруський визвольний рух у всій його реальній повноті, треба було б зайнятися висвітленням не тільки останніх подій, але цілого історичного процесу боротьби білоруського народу за незалежність. Але для цього необхідно було б присвятити обширнішу працю. Не маючи можливости цього зробити, обмежимося на схематичному виложенні постапленої теми.

## II. ТЕРИТОРІЯ Й НАСЕЛЕННЯ

Етнографічна територія Білорусі точно наразі ще не оприділена. Згідно з обчисленнями деяких етнографів, вона перевищує 300 000 кв. кільометрів, включаючи до свого складу (цілком або частинно) наступні губернії був. Російської імперії: Минську, Могилівську, Вітебську, Гродненську, Виленську, Смоленську, а далі кілька повітів Сувальської, Курської, Псковської й Твєрської губерній. Загальна кількість населення Білорусі виносить 14 мільйонів душ. Деякі білоруські вчені знаходять, що етнографічна територія Білорусі простягаєтся значно далі на північ, досягаючи меж був. Петербургської губернії й берегів Балтійського моря.

## III. ПРИРОДНІ БАГАЦТВА БІЛОРУСІ

Говорячи про економічні ресурси країни, звичайно мають на увазі, як основні, мінеральні багацтва. До цього часу, під впливом тенденційно-фальшивих теорій московських і польських вчених, існують погляди, ніби Білорусь цих багацтв не посідає. В подібних розважаннях, за тип білоруської землі приймається її південну багонну частину й робиться заключення, що це «забута» самим Богом країна.

Плиткість цих «теорій» видна вже хоч би з того, що на території Білорусі не існувало ні одної науково-дослідної установи и не переведено ніякої научної експедиції. Брехня московських учених виходила виключно з інтересів російської імперіялістичної політики, що бажала бачити в Білорусі насамперед пляцдарм із рідким населенням, непереходимими лісами й багнами, супроти грізного сусіда — Німеччини.

Відроджена білоруська наука вже за короткий час зробила багато на шляху дослідження підземних багацтв країні. В 1933 році спеціяльна комісія Білоруської академії наук уже виступила з проєктом експльоатаци встановлених родовищ залізної руди, вслід за чим було сконстатовано наявність покладів вугілля, соли, срібла, нафти и навіть... діямантів (останні знаходяться в багнистих районах). Нажаль, наївні білоруські вчені не врахували, що господарський розвиток Білорусі не в інтересах і «нової» Росії — з «братерським пролєтарським урядом» на чолі... Цей останній, ще може

калег-беларусістаў, украіністаў. Тым болей што пачатковы, па высокай мерцы чырвоны радок мяркуемай працы ўжо створаны — апошнім лістом светлай памяці беларускага Паэта.

Ніжэй прапануюцца чытачу абодва — Масея Сяднёва і мой, у адказе, лісты.

*Аляксей Каўка*

«Дарагі, вельмі паважаны Спадар Аляксей.

У маё хворасьці Вашае сьвяточнае слова было найлепшым лекам для мяне. Стылістычна і рытмічна ў сукупнасьці яно набыло цудадзейную сілу. Дык шчыра-шчыра дзякую. У маіх «праведных клопатах» гэта тое, што яшчэ трымае мяне. Як доўга?

Зычу Вам у Новым годзе, у новым сталецьці шчасьця і посьпеху, здароўя і сілы напісаць яшчэ адну асаблівую [...] кнігу пра народ наш паспаліты..

Пытаеце пра Яўгена Маланюка, ці ведаў яго асабіста. Вашае пытаньне ўзбўдзіла ў мяне шырокую тэму маіх украінскіх сувязяў. Насьветліць гэтую тэму, як хацелася б, няма змогі, дык спынюся тут на найбольш зыркіх момантах.

Рэгенсбург. Лягер для перамешчаных асобаў (ДП лягер). Антон Адамовіч просіць мяне пачытаць новыя вершы на сустрэчы з адным вялікім украінскім паэтам. Ён цікавіцца беларускай паэзіяй. Глядзі не падкачай. Пытаюся, хто ён такі. Скажу, дык ты яшчэ спужаесься. Знаёмства адбылося — Яўген Маланюк просіць мяне пачытаць свае вершы. Я сыпаў і сыпаў, задаволены, што госьць слухае ўважліва. Па сканчэньні Маланюка зацікавілі мае радкі: «Патушыла полымя ў паэце холаднасьць няўмольная ўладык». Маланюк і Адамовіч пачалі разьвіваць тэму «полымя» і «халоднасьці», а я, задаволены, з цікавасьцю слухаў масьцітых асобаў. Дык гэта была мая першая сустрэча з Маланюком. Было яшчэ дзьве пад час зьездаў МУРу (Містэцкі украінскі рух). На адным з гэтых зьездаў у Аўсбургу былі гасьцьмі Адамовіч, Арсеньнева і я. Удзельнікі былі прыемна ўражаныя выступленьнем Адамовіча, палавіну якога ён гаварыў па-ўкраінску. На гэтым зьездзе я пазнаёміўся з крытыкам Юрыем Шэрахам. Паэтамі Ярам Славутычам, Леанідам Палтавай, Леанідам Ліманом, Ганнай Чэрынь, Верэтэнчанка, Карпенкам-Карый, Осьмачкам (дарэчы, гэты апошні прачытаў на памяць на зьездзе санэты М. Багдановіча) і іншымі. Пачалося беларуска-ўкраінскае супрацоўніцтва ў галіне перакладніцтва. Шмат маіх вершаў па-ўкраінску было зьмешчана ў роўзных украінскіх выданьнях. Стараўся і я: напрыклад, у Канадзе (Эдмантон) выйшла кніжка Я. Славутыча «Выбранае» ў маім перакладзе, з маім уступным словам. Не заставаўся ў даўгу і Я. Славутыч: з перакладаў бел[арускіх] паэтаў на ўкр[аінскую]

мову ён маніўся выдаць анталогію беларускай паэзіі па-ўкраінску. У Рэгенсбургу ў часопісе «Рiднэ слово» быў зьмешчаны мой «Цень Янкі Купалы» ў перакладзе Л. Палтавы. У перакладзе Карпэнко-Карый выйшла мая рэч «Смерць музыкі».

У садружнасці з Л. Палтавай і інш[ымі] укр[аінскімі] паэтамі абкалясіў лагеры, дзе знаходзіліся ўкраінцы і беларусы (у Нямеччыне, у Аўстрыі). Напрыклад, у Гановэры пасьля майго выступленьня камэндант лагеру, прафэсар (ня памятаю), каб дагадзіць мне, сказаў — толькі моваю Шаўчэнкі можна выказаць пачуцці ад маёй паэзіі. Доўга гаварыў, да зморанасьці, аб украінска-беларускіх узаемінах.

Назад да Маланюка. Пісямцо Я. Маланюка, пра якое Вы згадваеце, выкліканае ад чытаньня Маланюком майго «Галубінага сэрца». Там гаворыцца між усяго іншага, як галубок, склаўшы крыльле, падаў долу. Адсюль жаданьне Маланюка, каб не складваў сваіх крылаў. У гэтым «Сэрцы» шмат мяне самога.

Дык гэтулькі, дарагі Аляксей, пра Вашае пытаньне адносна Маланюка. Пісаў як папала, выбачайце. Не зьвяртайце ўвагі на мае памылкі і на мой выклад.

Яшчэ раз шчасьця, здароўя. Хацеў бы дачакацца Вашай працы пра Маланюка ў украінска-беларускім кантэксьце.

Усяго добрага

*28.12.2000* *М. Сяднёў».*

*«19 студз. 2001 г.*

Даражэнькі Масей Ларыёнавіч.

Сёння Дзень хрышчэння Гасподняга — Вадохрышча, як звыклася ў нас казаць. Толькі што вярнуўся дахаты з бутлем свянцонае вады, напоўненым з бруістага ручая, што пульсуе ў расколіне, з глыбіняў, між тымі самымі Холмами Крылатскими, дзе цяпер жыву. Калісьці Іван Грозны (Жахлівы), рушыўшы з сваім абозам на Лівонскую вайну, меў у гэтым месцы першы ад Крамля прыпын, тутака ж, вярнуўшыся з паходу, на памятку аб сваёй перамозе (спапялёным Полацку таксама...) загадаў закласці царкву Ражства Прасвятой Багародзіцы. Пазней Пётра I фундаваў узвядзенне на гэтым жа месцы цаглянага храма, які толькі нядаўна вярнулі вернікам і пачалі аднаўляць. Дык вось за вадой мусеў адстаяць з гадзіны дзве, а праціснуцца ў цэркаўку праз густы, расцягнуты на колькісот метраў тлум сілоў ня стала. Але падняўся ў сваю кватэру, на 11 паверх, трошку прасвятлелым, душэўна злагоджаным, з тым таемным, малітоўным настроем, калі і маўчыцца хораша, і слова шчырае само набягае на вусны. Прызнаюся: у спомненым храме з прычын зразумелых пакуль не дайшло і магчыма не дойдзе да маёй споведзі, хоць грахі ў сабе цягаць неадпушча-

нымі што раз цяжэй, нязносней. У Менску ж, колькі ні наведваюся, ніяк не дапасьці беларускае службы. І святая, інтымная справа міжволі набывае адзнакі нейкае знарочытасці, якогась мерапрыемства — нядобра! Як жа быць, спадару Масею?

Гэта ж Вашае мілае лісцянятка разварушыла, расчуліла мяне — хоць спавядайся. Калі дойдзе да «Маланюка», згадкі бясцэнныя Вашыя скарыстаюцца цалкам. На «асаблівую кнігу», да якое ласкава мяне падбіваеце, ужо не манюся, амаль выпетрыліся глузды, усохлі пачуцці. Можа, сёе-тое з тых мрояў і боляў «асаблівых» адклалася ў дасылаемых Вам кніжачках. Першая з іх («Жывом!») стракаціць процьмай тэхнічных памылак — прабачце. На Антона Адамовіча таксама завёў творчае «дасье», нядаўна здаў у друк артыкул пра ягоную канцэпцыю беларускага гісторыка-літаратурнага працэсу. Увогуле лічу гэтую постаць выключнай у нашай творчай спадчыне, нацыянальнай думцы. Калі б, шаноўны пане Масею, захацелі колькі драбніц падаць пра гэтую неардынарную асобу... Але я, мабыць, надужываю Вашаю ласкай. Галоўнае — дзякуй Вам агромісты за нязвыкла чалавечы і боскі водгук на маё запытанне.

Шчасці Вам Божа.

*А. Каўка*».

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**
**Андрэй КАСТУСЁНАК**

## ІГУМЕНСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Чэрвеньскага р-на. — Мн.: БЕЛТА, 2000. — 623 с.; іл.

У шэрагу гісторыка-дакументальных хронік раёнаў, якія размешчаны на тэрыторыі колішняга Ігуменскага павета, чэрвеньская «Памяць» — першая ластаўка. Ні Пухавіцкі, ні Уздзенскі, ні Асіповіцкі, ні Бярэзінскі раёны яшчэ не маюць уласных «энцыклапедый». Акалічнасць істотная. Астатнім ёсць на што арыентавацца яшчэ і таму, што ў значнай ступені матэрыялы згаданых раёнаў дакастрычніцкага часу маюць самае непасрэднае дачыненне да Ігумена (Чэрвеня), да Ігуменскага павета.

Па традыцыі хроніку адкрываюць звесткі па археалагічнай даўніне раёна. Прыемна, што ўкладальнікі не абышлі ўвагай артыкул, які ў свой час быў надрукаваны ў часопісе «Наш край» і прысвечаны гарадзішчу ля вёскі Іванічы на беразе ракі Волма. Следам ідзе артыкул вядомага вучонага В. Насевіча — «Чэрвеньшчына ў X—XIII ст.». Варта заўважыць, што

звесткі, пададзеныя ім, досыць лаканічныя. Але ж і час, заўважце, з найцяжэйшых для даследавання. Тым болей калі мець на ўвазе вузкарэгіянальны кантэкст, тэрыторыю, якая фактычна не згадвалася ні ў якіх летапісах. В. Насевіч не спакушаецца агульнымі карцінамі, якія б у аднолькавай ступені маглі расказваць і пра Чэрвеньскі край, і пра Смалявіцкі, і нават пра Бялыніцкі ці Хоцімскі. Гэты ж гісторык асвятляе і далейшую гісторыю Чэрвеньшчыны — «У складзе Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай». Вось тут ужо і крыніц хапае, і тэкст выглядае своеасаблівай захаплялльнай міні-манаграфіяй пра край у XIV—XVIII стагоддзях. Месцамі даследчык выходзіць за межы сучаснай Чэрвеньшчыны, але агаворвае гэтую акалічнасць: «Паўднёва-ўсходняя частка Чэрвеньшчыны адносілася да Свіслацкай воласці, вылучанай са складу аднайменнага княства. Яе мяжу можна правесці крыху на поўнач ад лініі вёсак Вялікая Ганута — Горкі — Пальчык, адкуль яна цягнулася ў прылеглыя часткі сучасных Пухавіцкага, Асіповіцкага і Бярэзінскага раёнаў і далей за раку Бярэзіну. Пасля скасавання Свіслацкага княства гэта воласць на доўгі час перайшла ў рукі вялікіх князёў, якія прызначалі сюды сваіх намеснікаў». Дарэчы, В. Насевіч пазначае і адну істотную загадку. Значную вядомасць у гісторыі Ігуменшчыні мае Бакштанская воласць. Альбо — воласць Бакшты. Чытаем у В. Насевіча: «Месцазнаходжанне яе цэнтра невядомае. Калі тут і было паселішча з назвай Бакшты, то яно знікла вельмі рана, не пазней XVI ст. Абшар гэтай воласці ахопліваў, апрача захаду Чэрвеньскага, значную частку тэрыторыі суседняга Пухавіцкага раёна». Задача для краязнаўцаў — знайсці. І пошук бы найперш весці пухавіцкім краязнаўцам. Якраз такія сілы ў Пухавіцкім раёне ёсць. У Мар'інай Горцы — Аляксандр Пранові́ч, Браніслаў Зубкоўскі, Барыс Муха. У Гарэльцы — Сяргей Сіпач. У Тальцы — Наталля Ільініч. У Дукоры — Васіль Свістун. У Суціне — Леанід Доўнар. Патрапіла б ім толькі на вочы «Памяць. Чэрвеньскі раён»... Між іншым, узнікае заканамернае пытанне: чаму б невялікую частку тыража (10—20 асобнікаў) рэгіянальнай «Памяці» не адпраўляць у асноўныя бібліятэкі суседніх раёнаў?..

Прадстаўнічай з'яўляецца чэрвеньская гісторыка-дакументальная хроніка і ў плане выкарыстання, адкрыцця архіўных матэрыялаў. У большай ступені яны друкуюцца ўпершыню.

З многімі артыкуламі ў «Памяці» выступаюць і краязнаўцы, дырэктар Чэрвеньскага раённага краязнаўчага музея Ганна Аўласенка, а таксама Вячаслаў Мысліцкі, Анатоль Фурык, Уладзімір Дарагуж. Пра праваслаўныя цэрквы на Ігуменшчыне расказвае Ф. Крыванос, гісторык выдавецкага аддзела Беларускага Экзархата. У яго артыкуле, у прыватнасці, уражвае такі фактаграфічны радок: «Згодна ведамасці за 1845 год Ігуменская добрапрыстойнасць уключыла 107 цэркваў». Дзе зараз іх шукаць — праваслаўныя ігуменскія цэрквы?! Хутчэй за ўсё — толькі на пажоўклай архіў-

най паперы. Многія культавыя пабудовы ўжо нават зніклі з памяці людской. Пік знішчэння-раструшчвання прыйшоўся, канешне ж, на 1920—1930-я гады. Астатняе даруйнавана было яшчэ і полымем Другой сусветнай і пазнейшым процірэлігійным змагарствам. Сустракаючы такія радкі-факты, якраз і задумваецеся над тым, як што знішчалася. Мо і на Чэрвеньшчыне так, як адбілася ў мастацкай, паэтычнай памяці Алеся Пісьмянкова:

Яна маўчала без званоў.
Казалі, звон зняў Іваноў.
Я добра помню Іванова,
Згасаў, як свечка, ён і сох.
Я чуў:
«Яго карае Бог...»
Шкада было мне Іванова.
Наш ганаровы піянер
Не проста быў пенсіянер:
Лічы, герой — былы камбед...
Дагэтуль помніць сельсавет:
«Царква — вось корань нашых бед!
Багоў мы пусцім
на распыл...»
І звон ляцеў на шэры пыл —
Жах у вачах здзіўлёных стыў.
..............................
Яе прыгадваю я зноў:
Яна маўчала без званоў.
Там быў прытулак кажаноў.
Памёр даўно ўжо Іваноў.
Даўно ў магіле святары,
І толькі часам дзяк стары
Пасе на цвінтары казу
Ды ўспамінае праз слязу:
«Вячэрні звон, вячэрні звон,
Як многа дум наводзіць ён».

Падаючы ў «Памяці» біяграфіі землякоў, укладальнікі, калі справа датычыць часін ранейшага адміністрацыйнага дзялення, не абмяжоўваюцца Чэрвеньшчынай. Раздзел «Яны нарадзіліся на Ігуменшчыне» адкрывае жыццяпіс мастака Апалінарыя Гараўскага (Бярэзінскі раён). Далей — расповяды пра славутага гісторыка Аляксандра Ельскага, скульптара Казіміра Ельскага, кампазітара Міхала Ельскага (усе нарадзіліся ў Дудзічах Пухавіцкага раёна), гісторыка, педагога Аляксандра Здановіча (радзіма — вёска Белькавічы таксама Пухавіцкага раёна).

Чэрвеньскай «Памяццю» могуць карыстацца і ў Пухавіцкім, і ў Бярэзінскім, і Уздзенскім раёнах Міншчыны. Гэта датычыцца і выкарыстаных архіўных матэрыялаў, і спісаў рэпрэсаваных, і значнага раздзела, прысвечанага тэме Вялікай Айчыннай вайны. Чэрвеньцы пераконваюць: яны па-ранейшаму знаходзяцца ў эпіцэнтры сацыяльнага, грамадскага, палітычнага жыцця краіны.

Яшчэ адзін плюс чэрвеньскай «Памяці». Укладальнікі, грамадская камісія (а ў яе ўвайшоў і рэдактар чэрвеньскай раённай газеты Аляксандр Бушэнка) досыць уважліва паставіліся да публікацыі падборкі паведамленняў з раённай газеты «Калектывіст» (цяпер яна мае назву «Раённы веснік»), якая працуе на агульны гістарычны фон, выразна ілюструе пэўныя храналагічныя адрэзкі. І ўсё ж. Агульнае станоўчае ўражанне ад гэтага ўнушальнага тома не здымае неабходнасці ў некаторых удакладненнях. Прыкладам, царкоўная унія на Беларусі афіцыйна была скасавана ў 1839 годзе (на старонцы 53 пададзены 1834 г.). Выклікае пытанні і неадназначнасць подпісу пад фотаздымкам з раённае выставы 1999 года «Русь—Індыя» (с. 563). Пра якую Русь гаворка — Кіеўскую, Літоўскую, Вялікую? Ці гэткім, відавочна адвольным, назовам прадстаўлена краіна-дзяржава Беларусь?

Найбольшая частка кніжнае плошчы адведзена найноўшаму, асабліва паслякастрычніцкаму (1917), часу, што наогул характэрна для падобных выданняў у іншых раёнах. Аднак і ў паказе савецкае эпохі вельмі сціпла адлюстравана культуратворчая, нацыянальна-адраджэнская тэматыка. Цалкам абыдзена беларусізацыя 20-х гадоў — агульнадзяржаўная падзея, якая адбілася выразнай пячаткай і на грамадскім жыцці тагачаснае Чэрвеньшчыны. Паказальны ў гэтых адносінах творчы плён знакамітага ігуменца Міколы Касяровіча, аднаго з заснавальнікаў, арганізатараў краязнаўчага руху, беларускіх школ у раёне. А быў жа ён далёка не адзіным мясцовым падзвіжнікам беларушчыны. Не застаецца незаўважанай, кранаючы іншыя вядомыя імёны, і наступная акалічнасць. Пад факсіміле тытула «Краёвага слоўніка Чэрвеньшчыны» Мікалая Шатэрніка (с. 127) чамусці не згадана аб дароўным аўтографе на ім, тытуле, Браніслава Эпімаха-Шыпілы, дарэчы, і рэдактара гэтага выдання. Нібы драбніца. Але ж ужо адно імя славутага асветніка, духоўнага настаўніка Янкі Купалы ў дадзеным кантэксце толькі б пашырыла і абагаціла культурную прастору раёна. Тым болей што Чэрвеньская «хроніка» не перанасычана фігурамі ўсебеларускага значэння. Нават у адносінах тых, хто так ці іначай адзначыўся на ростанях гэтага горада і раёна — Якуб Колас, Аркадзь Смоліч, Фелікс Стацкевіч, паэтыпакутнікі Алесь Салавей, Тодар Лебяда (П. Ф. Шырокаў; між іншым, працаваў на пачатку 1960-х у чэрвеньскай райгазеце «Уперад»), а яшчэ раней, у XIX ст., — Аляксандр Незабытоўскі, Войслаў Савіч-Заблоцкі, Янка Лучына (І. Неслухоўскі). Або — Напалеон Орда, славуты пясняр-жывапісец

беларускіх краявідаў. Пэўна абагаціла б кнігу прозвішча мастака пад гравюрай, а дакладней, лінагравюрай сядзібы Манюшкаў у в. Убель (с. 111), з уласнаручным подпісам аўтара: «Дом, у якім нарадзіўся Станіслаў Манюшка 5 мая 1819 г. Памёр у Варшаве 4 чэрвеня 1872 г., меў 52 гады». Не менш уражліва выглядала б і другая работа гэтага ж майстра (пры недастковасці ілюстрацыйнага матэрыяла дасавецкіх часоў) — касцёла і місіянерскага кляштара ў Смілавічах. Тым болей што ад колішняе фацэтнае забудовы-помніка беларускае готыкі і барока — нашчадкам засталіся адно рэшткі падмурка.

Выказаныя намі меркаванні, мабыць, не будуць залішнімі, калі вартасць лакальнае, рэгіянальнае мінуўшчыны ўзважваць на трывалых шалях агульнанацыянальнае гісторыі і культуры. Што, па вялікім рахунку, і вызначае прываблівасць краязнаўчых выданняў — для сучасных і, трэба спадзявацца, наступных пакаленняў чытачоў.

Галоўнае ж, чэрвеньская «Памяць» адбылася, калі можна так сказаць. Але гісторыя раёна не супыняецца. Значыць — і кніга будзе з працягам.

# ВЕРШЫ НАШАГА ЧАСУ

## ВЫПРАБАВАННЕ НА ТРЫВУЧАСЦЬ

Вершы нашага, інакш — беларускага, непрамінальнага часу. Наколькі скрозь востра актуальнай была і ёсць справа нацыянальнага самазахавання, грамадзянскага самасцвярджэння белых русічаў. Гэтай скразной — пякучай і гаючай ідэяй быць, застацца сабой, у шырокі свет імкнучыся, пэўне, і роднящца між сабой творы прапануемай ніжэй паэтычнай падборкі.

Праблема быцця і тоеснасці чалавека ў паэзіі сягае намнога вышэй і далей ад штодзённага, аднастайнага быту. Яе неўтаймаваная стыхія хвалюецца, спавядаецца, пратэстуе, узрываецца, урэшце, накіпелым болем сораму і гневу. І не абавязкова, каб ад свяшчэннага выбуху дрыжэла наваколле, звінелі, трэскаліся шыбы ў вокнах. Дастаткова гарачага ўзрушэння паэтавага пакутлівага сэрца, каб ад хваляў яго глыбіннага выбуху ўскалыхнуўся чуйны радар чытацкай душы. Тут ужо не «выцісканне па кроплі», але бязлітаснае ачышчэнне праведным агнём усяго рабскага, халопскага ў прыцярпелым, «абыціхлым» (ад «абы ціха», «абы вайны не было») нявольніку. Зноў жа, праблема не толькі, не выключна беларуская, хоць і прадстаўлена на гэтых старонках перадусім нашымі айчыннымі майстрамі слова. Але падобнай трагічна-прасветнай парадаксальнасцю бясконцага чалавечага імкнення да лепшага перагукваюца з імі пякучыя, высока сімвалічныя строфы польскага і ўкраінскага паэтаў К. Тэтмаера, Я. Маланюка. Прадстаўляем іхнія тэксты ў арыгінале, разлічваючы, па-першае, на абазнанасць «двуязычнага» беларуса таксама ў другіх, абок рускай, блізкасуседніх мовах. Па-другое, хацелася б прывабіць прафесійную ўвагу да гэтых вершаў беларускіх перакладчыкаў. Майго ж аматарскага імпэту хапіла ўсяго на некалькі тэтмаераўскіх радкоў:

І гневам апякло наскрозь
Яго натхнёны сон дасюль.
«Ў жыцці, — ускрыкнуў, — маю досць
І толькі з жыцця маю нуль!»

І вандроўніку біў у скронь
Гарачай хваляй сухавей:
Ідзі далей... далей... далей.

Значыць — трываць, ісці, не спыняцца.

Асобна некалькі меркаванняў адносна верша «За ўсе краі, за ўсе народы свету...». Ад пэўнага часу не пакідае мяне вярэдлівая спакуса за прозвішчам аўтара У. Дубоўкі паставіць пытальнік. Нікольki пры тым не пасягаючы, не памяншаючы довады даследчыкаў на гэты конт (У. Міхнюк, Дз. Давідоўскі ды інш.). І ўсё ж — ці Дубоўкаў гэта твор? Факт, што адпаведны машынапісны тэкст верша быў зыдэнтыфікаваны з машынкай прадстаўніцтва БССР у Маскве, дзе працаваў паэт, штосьь нам падказвае, але пытання канчаткова не даказвае, не развязвае. Згаданая машынапісная тэхніка магла быць выкарыстана дзеля размнажэнняў чыйгосьці ўжо існуючага тэкста. Далей. У справе Дубоўкі з следчага працэсу па так званым «Саюзе вызвалення Беларусі» сярод розных абвінавачанняў, прад'яўленых падследнаму, згаданы верш, мяркуючы паводле пратаколаў допыту, наогул не ўпамінаецца — гэткі-то аргумент на карысць «контррэвалюцыйнасці» абвінавачанага! Ці выпадкова? Пытанні-сумненні можна доўжыць.

Але ёсць другая творчая постаць, якая, паводле маіх прадчуванняў (пакуль толькі прадчуванняў) прэтэндуе, не з меншым правам, на аўтарства гэтага надзвычай моцнага, цяпер кажучы, эпахальнага твора беларускай паэзіі — Янка Купала. Не рызыкую пакуль ні налягаць, ні развіваць прапануемае дапушчэнне. Абмяжуюся агульным меркаваннем: лексіка-стылістычная, вобразна-выяўленчая фактура твора, пякуча-балесная, як жа знаёмая нацыянальная самаіронія, нарэшце, незвычайны, непаўторны сваёй самаахвярнай моцай лірыка-эпічны размах і ўздым — усё разам узятае даволі адчувальна нагадвае творчую манеру, уключна з унікальным грамадзянскім (так і просіцца на вусны — Купалавым) пафасам іншага, адрознага ад Дубоўкавага, стылю і настрою аўтара. Магчыма, таго самага, які прыкладна ў тым самым часе часткова і быў выплеснуў перад чытачом пякельную горыч з глыбіняў свайго паэтычнага, нясцерпна агністага вулкана:

Нявольніцтва, жабрацтва так нас з'ела
І так нам высмактала з сэрца сок,
Што нат у вочы глянуць, плюнуць смела
Не смеем, стоптаныя на пясок...

*(Янка Купала. Перад будучыняй)*

Словам, пытанне ёсць і яно пастаўлена.

*Аляксей Каўка*

**Уладзімір ДУБОЎКА**

* * *

За ўсе краі, за ўсе народы свету,
І што былі, і прыйдуць што пасля,
Аздобленае горкім, цьмяным цветам,
Зазнаць нам гора лёс благі паслаў.

Скараліся і моўчкі ўсё прымалі.
Самохаць, можа, прыйдзе лепшы час.
Як ліцьцінку на поплаве качалі,
І зневажалі чужаніцы нас.

Калёнія праз некалькі сталецьцяў,
Наедак ненажорным груганом...
Я прысягаю — праклянуць нас дзеці...
За апяшаласць нашу нам праклён.

На плечы ганьбы мы прынялі многа:
Нявольніцтва, жабрацтва навакол.
Слязьмі сясьцёр чужынцам мыем ногі,
Заместа песень — стогны бедакоў.

Прыціх наш край: ад гутарак аскома...
Прыціх наш край: маўчаць, усе маўчаць.
Свабодай карыстаюцца сачкомы,
Каб тых, хто мысліць, у астрог саджаць.

Дакуль чакаць і варажыць павінны?
Пакуль раса не выесць вочы нам...
З усіх бакоў над нашаю краінай
Сплялася несусветная мана.

На нашым карку торг спраўляе смела
Масква з Варшавай, й з Рыгай і Літвой,
І наша змучанае катам цела
Штогодна новай кроіцца мяжой.

Масква сусвету вушы прашумела
Пра самавызначэнне аж да зор.
Смаленск дзе? Невель? Гомель дзе падзела?
Стварыла Гомельскі ганебны калідор.

Мы цацкай нейкай для чужынцаў сталі,
Пасмешышчам для свету усяго,
Як быццам мала ў нашай волі сталі,
Як быццам ў сэрцах нашых згас агонь.

Браты мае! Даволі ашуканства.
Гасьцей дахаты выправіць пара.
З лазы заплаканай спляцём ім кайстры
Для нарабаванага у нас дабра.

Сьляды іх гідкія пяском пасыпем,
Пясочкам сьветленькім пасыпем іх,
Каб гэтай шумы, акупантаў-злыдняў
Апошні водгук прагучаў і сціх.

А не, дык надарма усё, жыццё надарма,
Лажыся ў яму сам, народзе мой!
Пакуль ты сам не будзеш гаспадарыць, —
Не развітаешся з жабрацкай калітой.

*Друкуецца паводле час.: Беларуская культура (Вільня). 1927. № 1.*

## З-ЗА КРАТАЎ

...А вясна ідзе на Беларусі,
Апранае у страі прасторы,
Прамяністасьць жменяю цярусіць
І зь лясамі ветліва гаворыць.

А вясна спаткае вас прыхільна,
Пушча-бор цымбальна прывітае, —
Забруіцца ў сінім небасхіле
Песьня жаўранкава залатая.

Праз дарогу шмат пяройдзе рэчак,
І Дняпро зь Бярэзінай праскочыць.
З ласкай ціхай хвалі ўсьлед зашэпчаць,
З ласкай ціхай лягуць на пясочак...

Я на росстань не скажу нічога,
Я вясну за кратамі спаткаю...
Усьміхнуся вершам на дарогу:
Доля нашая такая...

*Друкуецца паводле час.: Сакавік. 1947. № 1.*

Анатоль **ВЯРЦІНСКІ**

## ПРА ДАРАВАННЕ

Ян Павел II 12 сакавіка... у саборы св. Пятра ўрачыста папрасіў прабачэння ў людзей і пакаяўся за ўсе грахі каталіцкай царквы перад чалавецтвам...

Папа рымскі
просіць даравання.
Папа ўкленчыць
каля ўкрыжавання,
Згадвае Ісусаў
Запавет...
Слухае і бачыць
цэлы свет.
Чуе, пэўна,
і мая краіна.
Боль кальнуў маю
душу
раўніва,
Калі я пачуў тую імшу.
Устрывожыў боль
маю душу.
Хто і як:
з амбона ці на пляцы,
Галаву схіліўшы пры распяцці,
На вачах сусвету усяго, —
Да народа звернецца майго?
Ды прамовіць у глыбокай скрусе:
«Выбачайце, людзі Беларусі!
Бачыць Бог і Сын Яго Ісус,
Просім даравання,
беларус!
Просім даравання
за ўсе беды,
За падман і крыўды,
што ты зведаў,
За знявагі, здзекі і разбой,
што ўчынілі злыдні над табой».
Мы ці дачакаемся такога?

Калі не — то на якога Бога
Можам спадзявацца мы тады?
Можа, толькі на сябе, браты!
Папа рымскі просіць даравання,
Папа ўкленчыць каля ўкрыжавання.
Промень міласэрнасці
не згас...
Хто папросіць даравання ў нас?
І калі надыдзе гэты час?

*26 сакавіка 2001 г. Пасля Дня Волі*

*Верш прачытаны аўтарам на ўрачыстасці каля помніка Янку Купалу 7 ліпеня, пад час III з'езда Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» і тады ж ласкава перададзены сп. А. Вярцінскім для «Скарыніча».*

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

## АБЫ

*З гісторыі плямён і народаў*

У эпоху Барацьбы,
На этапе Хамства,
Людзі племені Абы
Утварылі ханства.

Што за племя і чаму
Мела назву гэту?
А таму, што Бог яму
Не дадаў імпэту.

Не для бойкі ці гульбы,
А для годнай дзеі.
З гіблай звычкаю «абы»
Людзі там мадзелі.

Абы-што любілі піць,
Абы-чым карміцца,
Абы-як дзяцей вучыць,
Абы-дзе маліцца.

І прышэльцаў-чужакоў
Хоць якіх любілі, —
Абы добра кулаком
Ім у зубы білі.

Абы тут жа цалаваць
Той кулак давалі.
Абы ў душы напляваць
Ім не забывалі.

Незвычайны быў народ!
Дзіўнае жыхарства!
І аднак жа Бог бярог:
Утварылі ханства!

Годзе скаргаў і журбы!
Кінем лёсу выклік!..
Толькі што ж, калі Абы
Да «абы» прывыклі:

Абы ціха, абы з рук,
Абы дзень да ночы…
І аднойчы ханства — фук!
Фукнула аднойчы.

Знікла — як і не было! —
Пад крылом сумежным.
І ў гісторыю ўвайшло
Анекдотам смешным.

*1997, кастрычнік*

*Друкуецца паводле: Збор твораў: У 6 т. Мн., 2001. Т. 3. С. 122—123.*

**Валянціна КОЎТУН**

## СВАБОДА

Свабода, ты не знацьмеш кратаў,
Хоць кроў твая плыве з нажа.

Быў Божы Сын на крыж узняты —
Нас распінаюць з-за крыжа!
Але пад небам хмарна-сінім,
Варожай зграі супрацiў,
Усе мы — з роду Еўфрасінні
І ўсе да вечнасці ўзляцім!
Сябрыны гордае сумоўе,
У сэрцы — боль, у горле — крык…
Ўпіваецца ў народ двухмоўе —
Змяі раздвоены язык.
Але пад небам хмарна-сінім
Варожай зграі супраціў —
На роднай мове,
з Еўфрасінняй,
У вечнае, сябры, ўзляцім!
Свабода, ты не знацьмеш кратаў,
Хоць кроў твая плыве з нажа.
Быў Божы Сын на крыж узняты,
Нас распінаюць з-за крыжа.

*Верш упершыню прадэкламаваны аўтарам на вечарыне беларускай дыяспары Масквы ў Цэнтральным Доме літаратараў 8 чэрвеня 2001 г. Свой аўтограф сп. Валянціна ласкава падпісала «для «Скарыніча-5».*

**Віктар ШНІП**

## БАЛАДА ВЯРТАННЯ БАГДАНОВІЧА

Максім Багдановіч... Максім.
Самотны, нібы пілігрым,
Які хоць вярнуўся дамоў,
Ды толькі свой дом не знайшоў.
Як нельга магіл адшукаць,
Дзе рыцары нашы ляжаць...
Максім Багдановіч... Максім,
Мы разам з табою ляцім
Да зорак, што светла гараць
У небе, куды не глядзяць
Савецкія людзі з вакон,
Счарнелых, нібыта з ікон...

Максім Багдановіч... Максім,
Жыццё сёння наша, як дым,
З якога не бачна жыцця,
Нібыта не бачна лісця
На дрэвах, што ссохлі вясной,
Калі развітацца з табой
Нам дадзена лёсам было...
Але не прапала святло,
Якое ты нам запаліў
На гэтай балотнай зямлі,
Дзе мы тут спрадвеку былі
І будзем, як гэты прастор,
Як гэта імкненне да зор.
Максім Багдановіч... Максім...

*Друкуецца паводле газ.: Літаратура і мастацтва. 2001. 31 жн.*

**Мікола КУПРЭЕЎ**

## ВЯРТАННЕ АБЛУДНЫХ СЫНОЎ
*(1772—1992)*

Ноч. Кацярынінскі шлях. Рагачоўскі мост.
Пад былою Цыганскай дарогай, наўпрост
нясе думную плойму вады Дняпро
між лугам Вікоўскім, Збароўскай гарой.

Двое на мосце. Золатам Млечны — па дне.
Парожні мяшок з Калымы залатой на спіне.
Крымскія стэпы страсае з падэшваў другі —
пыл пахне вінам, і травой маладой — берагі.
«Тихо дома у нас, хорошо... т-твою мать»...

У хаце ля моста сівыя габрэі не спяць.
Ля берага ў цёплым тумане,
па цёплай вадзе
нехта трэці аднекуль кудысьці брыдзе.
«Эй, вы, наверху! Помогите, не доберусь...
Я из Минска». — «Куда?» — «В Беларусь».

Мост рагачоўскі рагоча,
ракоча вада да дна.

Трэці пад мостам самотна стаіць давідна, —
мрояцца здані ў тумане: немец,
расеец і лях...

Узыходзіць вада Караткевіча
на Кацярынінскі шлях, —
світае. На ганку сівыя габрэі стаяць —
беларусаў аблудных выйшлі страчаць.
За гарою пытае крывіцкая Друць:
«А хто там ідзе?» Адказаў іудзей:
«Беларусы»...

Брыдуць
дзвесце дваццаць расейскіх гадоў
Кацярынінскім шляхам у Збароў і Вікоў.
Над імі тры чорныя птушкі крычаць...

Габрэі пад небам славянскім маўчаць.

*Друкуецца паводле кн.: М. Купрэеў. Правінцыйныя фантазіі. Мн., 1995.*

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

## ДАВЕДКА ПРА КУПАЛУ

Так,
часта сустракаўся я з Купалам
Апошнім часам,
і невыпадкова,
Бо на абсягах нашае Айчыны
Людзей тутэйшых выдае іх дух
Балотны,
і лясная мройнасць,
І вечнае пытанне: ДЗЕ АЙЧЫЗНА
МАЯ?
І тлумная самота
У высахлых і выстылых вачах...
«Нічога ў вас не выйдзе, —
ён казаў, —
СЯК-ТАК ваш ЦЯГНЕЦЦА
НА СВЕЦЕ ВЕК,

А я ПАМРУ, ТО БУДУ СПАЦЬ,
ЯК ПАН,
І СНІЦЬ, ШТО Я
ТУТЭЙШЫ ЧАЛАВЕК!
Бо ЎСЁ САЮЗЫ ў вас, УСЁ АПЕКУНЫ,
СЫНЫ ПАВЫРАСЛІ, НА ЛЕС,
вунь, ГЛЯДЗЯ,
Але ЦІ ПОМНЯЦЬ яны
ПЕСНЮ МАТКІ?
ВАРШАВА ПАНСКАЯ
І ЦАРСКАЯ МАСКВА
Яшчэ спагоняць з вас аброк за волю,
Ды і ЖЫДЫ, ПАНЫ УСЁГА СВЕТУ
Не сплоцяць доўг.
Дарма ад іх чакаць...
А СЕРП І МОЛАТ,
што калісь НА ПАМЯЦЬ
НАМ ДАРАВАЛА ДОЛЯ,
Заменіць вам, мажліва, на Пагоню,
Ўсё тая ж доля,
але то — не воля...»
...Аднак апошнім разам
Мы ўжо ў Маскве сустрэліся з Купалам,
У тым гатэлі і на тым паверсе,
На той пляцоўцы —
высахлы, бязлікі —
Сказаў ён мне, высільваючы словы:
«Я ЗНОЎ ЗАСНУЎШУЮ
БЫЛО ЖАЛЕЙКУ
БЯРУ І ПРОБУЮ Ў ЁЙ ГАЛАСОЎ:
Ды не хапае СВЕТЛЫХ,
ЗВОНКІХ ДУМАК-СЛОЎ,
Не йдзе ўжо ГЛАДКА
ПЕСНЯ-ДАБРАДЗЕЙКА...
Не йдзе, не йдзе, хоць плач...
ПРЫСТАЎ Я ЖЫЦЬ
НА БЕЛЫМ СВЕЦЕ...
А — вы, што ж — вы, лапцюжнікі, рабы,
Што ж — вы?!!»
І тут я не стрываў,
І выказаў яму,
і — паміж намі,

Як лёсу дно, а можа, — паратунак,
Заззяў
            глыбокі
лесвічны
                пралёт.
.................................................
Таму — пакіньце спрэчкі і здагадкі
І не шукайце ўрэшце вінаватых...
Я!
   Толькі я — апошнім быў з жывых,
Хто вёў размову з мёртвым...

*Друкуецца паводле: Апошнія вершы Леаніда Галубовіча. Полацак, 2000*

**Міхась СКОБЛА**

## БУДАМ!

Усім хрыстапрадаўцам і прыблудам
няма чаго пра лёс наш варажыць.
Мы ў Доме нашым гаспадарыць — будам,
спяваць, кахаць і калыхаць мы — будам
і будам мы з усім ласкавым людам
па-беларуску у сябрыне жыць!

*2 кастрычніка 1999 г.*
*у Менску на вул. Кальварыйскай*

*Надпіс аўтара на кнізе «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999), падараванай укладальніку «Скарыніча».*

**Kazimierz TETMAJER-PRZERWA**

## WĘDROWIEC

Wędrowiec szedł przez pusty świat,
znużony wielce, głodny był;
wtem ujrzał w dali śliczny sad,
doszedł więc doń, dobywszy sił;

gałęzie jabłek, śliw i grusz,
zgięte nad ziemią wiszą tuż,
lecz mór na wszystkie drzewa padł,
i owoc robaczywy był...

I wędrowcowi ponad skroń
zaświszczał wiatr, mówiący doń:
idź dalej... dalej... dalej!..

I streszny, wsciekły słońca żar
począł wędrowca prażyć z nieb,
i duch w nim od pragnienia marł,
a wody kropli nie miał step —
wtem ujrzał palm zielony iść,
ale nie znalazł wodnych czar,
tylko wyschniętej studni sklep...

I wedrowcowi ponad skroń
zaświszczał wiatr, mówiący doń:
idź dalej... dalej... dalej!..

Wsparty o swój wędrowny kij
jął się więc martwą pustką wlec
i wołał niebu: dalej drwij!
ą z trudu pot rou począł ciec —
wtem ciemnych dębów dostrzegł las
i pobiegł doń odpocząć raz,
Lecz les był cały pełen żmij,
nie można było na mchu lec...

I wedrowcowi ponad skroń
zaświszczał wiątr, mówiący doń:
idź dalej... dalej... dalej!..

I spotkal śród obłędnych dróg
w bluszczach stojący zdoby kiosk
i wszedł sandały zezućz nóg,
we śnie zapomnieć mąk i trosk —
aliści w futer skryta błam
cudna dziewczyna spała tam
i żadzy w nim się pożar wzmógł
i objął ją — lecz to był wosk...

I wedrowcowi ponad skroń
zaświszczał wiatr, mówiący doń:
idź dalej... dalej... dalej!..

Szędł i wrzeszęzący ujrzał tłum,
nad tłumem krzyż i na nim człek —
więc pięścią czyniąc sobie rum,
retować męczennika biegł,
lecz ów, co się w męczarni wił,
to zapłacony kuglarz był —
i śmiechu go otoczył szum,
czym bohaterski w błocie legł!..

I wedrowcowi ponad skroń
zaświszczał wiatr, mówiący doń:
idź dalej... dalej... dalej!..

I zbiegly się doń fale rzesz,
jako do morza ze wszech stron,
wołając: «Z serc nam jutrznię krzesz!
Z dusz naszych zorzy ulej dzwon!
Ponura nas owłada noc!
Tyś nasz wskrzesiciel! zbawca! wódz!..»
Ów sen mu przerwał rykiem zwierz,
bo tylko w śnie tak marzył on...

I wedrowcowi ponad skroń
zaświszczał wiatr, mówiący doń:
idź dalej... dalej... dalej!..

I gniew mu ogniem strzelil tam
z natchnionych jeszcze ze snu lic:
«Wszystko więc — krzyknął — w życiu mam
i tylko w życiu nie mam nic!
Wchodzi mi w rękę każdy skarb,
tylko ten skarb jest złudą farb!
Wszystko osiągam, wszystko znam
i tylko nigdy nie mam nic!»

I wedrowcowi ponad skroń
zaświszczał wiatr, mówiący doń:
idź dalej... dalej... dalej...

Евген **МАЛАНЮК**

## ФОРМУЛА

Болить? Пече? — Нічого: було гірше.
Згадай лишень: Мазепа і Куліш.
Хай полум'ям гудуть скажені вірші
І кожна рима — як свячений ніж.
Ще все тремтиш. Ще не зрослося й досі...
О, цей непевний, цей ранений крок!
А навкруги така твереза осінь,
А десь шепочуть: вістник і пророк.
І в закутку гіркі рядки, як ліки,
Совітський раб ковтає крадькома —
І крила виростають у каліки,
І рветься сон непевного владики,
І ось — тверда — захитується тьма.
Ні-ні. Міцнись. Хай тягне сум додолу —
Крилатий дух напружуєтся ввись.
Дай краплю крови кожному глаголу.
Молись. Чини. Міцнися і кріпись.

Сяргей **ЗАКОННІКАЎ**

## ЖЫВУ Я ТУТ...

Жыву я тут,
дзе пуп Еўропы,
дзе праз яго шляхі прайшлі,
дзе продкі,
каб не збіўся з тропу,
стаўлялі меткі на зямлі.

Яны свой гарт сцвярджалі ў працы:
яснелі ў прыцемку гадоў
радзімкі замкаў і палацаў,
вяснушкі паркаў і садоў.

Плыў то трывожны, то вясёлы
спеў медзі
і будзіў дамы.

Званіцы цэркваў і касцёлаў
вяшчалі —
ёсць на свеце мы!

Хоць смерць не раз народ касіла,
ды зноў жыцця спяліўся плён...
Але прад д'ябальскаю сілай
пустой маны не ўстояў ён.

Наш свет,
святой крывёй абмыты,
з'іначылі на свой капыл:
прыблуды,
рогат дынаміту
і — аж да зорак — даўкі пыл...

Стаю я тут,
дзе пуп Еўропы,
між рэштkaў слаўнай даўніны.
Люд паспаліты збіўся з тропу,
на прывід моляцца званы.

Зямлю,
дзе продак жыў і сеяў
і марыў пра сапраўдны рай,
гайня прадажных фарысеяў
кляйміць таўром — «заштатны край».

Пакуль народ мой памяць лапіў,
хацеў зрабіць на волю крок,
яго ўжо зноў абулі ў лапці
і апранулі ў армячок.

* * *

Час бясчасся міне —
будзе каму спавядацца:
тым, хто жыў, як у сне,
тым,
        хто спяшаў прадацца.

Шэрых дзён лістапад
мужнасці не зацярушыць.
Скончыцца заняпад,
выйдуць на волю душы.

Выйдуць, каб разумець
важнае ў хвілі таропкай.
Нават хіжая смерць
тут не паставіць кропку.

Тым, хто нішчыў люцей,
праведны суд учыняць
вочы іхніх дзяцей,
вочы вечнай Айчыны.

Час бясчасся міне —
будзе каму спавядацца...
Лёгка знішчыць мяне,
праўду забіць — не ўдасца!

*Друкуецца паводле газ.: Народная воля. 2002. 6 сак.*

## ЗМЕСТ



## ШЛЯХАМ СКАРЫНЫ



## З ТАГО, ШТО ПОМНІЦЦА



## НАШ МІКОЛА КАСПЯРОВІЧ



## НЕЗАБЫТЫЯ ТЭКСТЫ

## З АРХІЎНЫХ ПАЛІЦ



## КАБ НЕ СПАЗНІЦЦА...



## ВЕРШЫ НАШАГА ЧАСУ

## НАШЫ ДОБРАЗЫЧЛІЎЦЫ

| | |
|---|---|
| *Беласток, Польшча*: | Антон Мірановіч |
| *Брэст, Беларусь*: | Надзея Андрэйкавец, Аляксандр Вабішчэвіч |
| *Блонь, Беларусь*: | Алесь Прановіч (Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей) |
| *Бранск, Расія*: | Андрэй Котлярчук, Сяргей Міхальчанка |
| *Браслаў, Беларусь*: | Кастусь Шыдлоўскі |
| *Варшава*: | Янка Заброцкі (Цэнтр славянскай кнігі і прэсы), Юрый Туронак |
| *Вільнюс*: | Хведар Нюнька, Павал Саўчанка, Сяргей Шупа |
| *Віцебск, Беларусь*: | Людміла Хмяльніцкая |
| *Вроцлаў, Польшча*: | Браніслаў Пасерб |
| *Гданьск, Польшча*: | Лена Глагоўская |
| *Гомель, Беларусь*: | Валянціна Лебедзева, Іван Штэйнер |
| *Гродна, Беларусь*: | Ігар Жук, Андрэй Майсяёнак, Юрась Пацюпа, Аляксей Пяткевіч |
| *Кіеў*: | Віктар Дудко, Юрый Мыцык |
| *Лондан*: | а. Аляксандр Надсан (Беларуская бібліятэка і музей імя Францішка Скарыны) |
| *Люблін, Польшча*: | Рышард Радзік |
| *Ляхавічы, Беларусь*: | Алесь Скалабан, Міхась Турыянскі |
| *Магілёў, Беларусь*: | Ігар Марзалюк, Ігар Пушкін |
| *Маладзечна, Беларусь*: | Міхась Казлоўскі |
| *Масква*: | Аляксандр Антух, Васіль Астаповіч, Софія Астроўская, Алеся Бабарэка, Таццяна і Юрый Валодчанкавы, Валерый Голуб, Андрэй Грынкевіч, Алесь Драянкоў, Аляксандр Ліберман (Дзяржаўная публічная гістарычная бібліятэка Расійскай Федэрацыі), Таіса Мішчанка, Антось Сабалеўскі, Аляксандр Улашчык, Міхал Шкялёнак |

| | |
|---|---|
| *Мінск*: | Ірына Багдановіч, Рыгор Барадулін, Валянціна Валодчанкава, Нона Васілеўская, Генадзь Вінярскі, Анатоль Вярцінскі, Радзім Гарэцкі, Леанід Галубовіч, Валерый Герасімаў, Алеся Гесь, Ніл Гілевіч, Жана Дапкюнас (Літаратурны музей Янкі Купалы), Галіна Епімашка, Сяргей Законнікаў, Ганна Запартыка (Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва), Ірына Зварыка, Алесь Карлюкевіч, Андрэй Кіштымаў, Уладзімір Конан, Валянціна Коўтун, Анатоль Кудравец, Яўген Лецка, Наталля Мазоўка, Алена Макоўская, Адам Мальдзіс, Мікола Мацюх, Уладзімір Міхнюк, Міхась Мушынскі, Лідзія Савік, Генадзь Сагановіч, Янка Саламевіч, Вячаслаў Селяменеў (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь), Аляксей Скалабан, Міхась Скобла, Уладзімір Снапкоўскі, Галіна Сяргеева, Любоў Уладыкоўская-Канаплянік, Кастусь Цвірка, Таццяна Шамякіна, Ірына Шаўлякова, Міхась Шумейка, Язэп Янушкевіч |
| *Нью-Ёрк, ЗША*: | Зора і Вітаўт Кіпелі, Лявон Юрэвіч |
| *Ольштын, Польшча*: | Базыль Белаказовіч |
| *Прага*: | Сяржук Сокалаў-Воюш |
| *Санкт-Пецярбург, Расія*: | Галіна Гарэцкая, Мікола Нікалаеў, Марыся Ткачэнка |
| *Смаленск, Расія*: | Мікалай Ількевіч |
| *Тураў, Беларусь*: | Кацярына Папова |
| *Чэлябінск, Расія*: | Валянціна Данілава |
| *Чэрвень, Беларусь*: | Ганна Аўласенка (Чэрвеньскі гісторыка-краязнаўчы музей), Генадзь Галіеўскі, Валянціна Ладуцька |

